• выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

• кошт 5000 рублёў

4 сакавіка 1998 г. серада, №№ 47—49 (23398—23400)




# ЗВЯЗДА


## У Хлеба доўгая памяць. Хлеб не даруе неахайнасці, безадказных да сябе адносінаў. Якасць Хлеба — якасць жыцця! А добры Хлеб, як вядома, бывае ў руплівага, самастойнага і разумнага Гаспадара



Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

***Сёння на вялікай рэспубліканскай нарадзе ў Гродне па праблемах аграпрамысловага комплексу будуць разглядацца пытанні, па сутнасці, далейшага лёсу вёскі. Ставіцца задача выпрацоўкі шляхоў адраджэння і выхавання сапраўднага Гаспадара зямлі. Час прыйшоў. Але ці гатовы мы да гэтага?***

**«Даўно заўважана, што мы не звяртаем увагі на самыя значныя факты толькі таму, што яны вельмі звычайныя. Ці многім, сапраўды, прыходзіла ў галаву думка, што луста добра спечанага хлеба... з'яўляецца адной з найвялікшых вынаходак чалавечага розуму...» Здаецца, гэтыя словы належаць вядомаму вучонаму Кліменту Ціміразеву. І сапраўды, ён мае рацыю: мы не звяртаем увагі на многія факты, якія сталі звычайнымі і звыклымі для нас... Мы спакойна адносімся да таго, што ў некаторых так званых гаспадароў зямля дае ўраджай не больш як 10—12 цэнтнераў з гектара, а ад каровы там надойваюць не больш 2-3 кілаграмаў малака ў суткі. Ці ж гэта па-гаспадарску?! Такое ўражанне, быццам мы не хочам заўважаць, што ў нашай нацыянальнай свядомасці ўсё больш выяўляе сябе страшны перакос. Па сутнасці — трагічны. Мы ўсё часцей, калі звяртаемся да нашых вясковых вытокаў, адчуваем сябе бязрадасна. Хочам мы таго ці не, але імкнёмся чамусьці з разуменнем успрымаць негатыўныя з'явы, якія сталі такімі характэрнымі для вёскі — п'янства, крадзяжы, гультайства, разбазарванне народнага дабра. Няўжо мы пачалі прывыкаць да ўбогасці? Зямля і Хлеб нам гэтага не даруюць.**

**Таму так хацелася б, каб размова на сённяшняй нарадзе ішла не столькі пра трактары, камбайны і сеялкі, колькі пра чалавека, яго лёс, яго ролю ў адраджэнні АДКАЗНАСЦІ, ГАСПАДАРЛІВАСЦІ, ІНІЦЫЯТЫЎНАСЦІ, ДУХОЎНАСЦІ. І гэта, здаецца, галоўнае. Таму што ў праблему Чалавека ўпіраюцца ўсе вытворчыя праблемы. У Беларусі выбар сёння не вялікі. Ці канчаткова задыхнуцца, ці ісці наперад — працаваць, ствараючы ў поце чала новую вёску ў новай Беларусі, у якой жыць нашым дзецям. Шлях да гэтай будучыні няпросты і няблізкі. Але трэба па ім ісці. Ёсць спадзяванні, што на нашай беларускай зямлі і далей будуць вырошчвацца багатыя ўраджаі Хлеба. У ХЛЕБА ДОЎГАЯ ПАМЯЦЬ.**

**Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**

*Матэрыялы, аб праблемах аграпрамысловага комплексу Рэспублікі чытайце на 3 — 22-й старонках «Звязды».*

## БЕЛАРУСКІ НАРОД ШЧЫРА ЗАЦІКАЎЛЕНЫ ВА ЎМАЦАВАННІ І РАЗВІЦЦІ СНД

***Тэзісы выступлення Старшыні Вышэйшага Савета Саюза Беларусі і Расіі, Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра ЛУКАШЭНКІ на міжнароднай канферэнцыі «Шэсць гадоў Садружнасці: праблемы і перспектывы»***

Мы, беларусы, адзначыў кіраўнік дзяржавы, зведваем пачуццё асаблівай адказнасці за лёс СНД. На беларускай зямлі было прынята рашэнне аб стварэнні Садружнасці, тут размешчана яе штаб-кватэра. Наш народ цвёрда адданы ідэям дружбы і брацтва і шчыра зацікаўлены ва ўмацаванні і развіцці Садружнасці.

Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, канферэнцыю ён разглядае як важнейшы этап на шляху падрыхтоўкі да намечанай на гэты месяц сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД і з узрастаючай трывогай чакае яе. Часу да 19 сакавіка застаецца ўсё менш, а ўзгодненых і добра прадуманых праектаў дакументаў як не было, так і няма. Сітуацыя нагадвае тую, адзначыў прэзідэнт, якая была перад леташнімі «правальнымі» сустрэчамі ў Маскве і Кішынёве.

Зразумела, пэўны абмен думкамі наконт будучыні Садружнасці паміж дзяржавамі СНД адбываецца, але ажыццяўляецца ён кулуарна, без агульнапрынятай галоснасці. Акрамя таго, як гэта заўважылі і сродкі масавай інфармацыі, ужо прагладваецца імкненне асобных дзяржаў згрупавацца, як кажуць, па інтарэсах. Гэта можа прывесці да таго, што на Савеце кіраўнікоў дзяржаў будуць прапанаваны такія праекты рэфарміравання СНД, якія будуць адпавядаць інтарэсам толькі асобных членаў Садружнасці.

Аляксандр Лукашэнка заявіў, што падтрымлівае ідэю Барыса Ельцына і Леаніда Кучмы аб скліканні канферэнцыі па развіццю СНД на высокім узроўні. Аднак, на яго думку, яе трэба было праводзіць намнога раней, як гэта прапаноўваў беларускі бок. Тады Савет кіраўнікоў дзяржаў, абапіраючыся на яго рэкамендацыі, мог бы прыняць практычныя рашэнні. А пры тым узроўні паваротлівасці, з якім мы падыходзім да развіцця СНД, увесь 1998 год можа пайсці на агульныя размовы, і мы яшчэ больш спознімся з рэформамі Садружнасці, падкрэсліў прэзідэнт.

Я быў і застаюся, сказаў ён, цвёрдым прыхільнікам адкрытага і сумленнага падыходу да вырашэння любога пытання міждзяржаўных адносінаў, тым больш такога важнага, як будучыня СНД. Рашэнні па рэфарміраванню нашай Садружнасці павінны рыхтавацца публічна і з удзелам усіх дзяржаў СНД. Толькі тады наша Садружнасць будзе трывалай і даўгавечнай.

У гэтым плане, адзначыў далей Аляксандр Лукашэнка, мы ўскладаем вялікія надзеі на вашу сустрэчу. Такая прадстаўнічая канферэнцыя, якая сабрала дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, вучоных, — самае зручнае месца для нефармальнай і адкрытай размовы аб будучыні Садружнасці.

Было б сур'ёзнай памылкай зводзіць маючую адбыцца дыскусію аб будучыні СНД да лёсу яе статутных органаў. Гэта таксама трэба, але гэта не галоўнае. Галоўнае заключаецца ў тым, каб вызначыць, што і як трэба рабіць для таго, каб Садружнасць працавала на стварэнне.

Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, для таго, каб знайсці вырашэнне найбольш сур'ёзных праблем, што стаяць перад Садружнасцю, мы павінны бачыць і гаварыць праўду, якой бы горкай яна ні была, не апасаючыся таго, як на гэта паглядзяць на Захадзе або Усходзе. Давайце назавём рэчы сваімі імёнамі і скажам, што распад Саюза ССР быў буйнейшай геапалітычнай катастрофай XX стагоддзя.

Калі для кагосьці гэта было радаснай падзеяй, перамогай у «халоднай вайне», крушэннем «імперыі зла», то для народаў, для мільёнаў і мільёнаў людзей гэта было стратай нашай агульнай вялікай Радзімы. У мірны час адбылося небывалае ў гісторыі зніжэнне ўзроўню жыцця соцень мільёнаў людзей.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 96

### Аб мерах па фінансаваму аздараўленню і крэдытнаму забеспячэнню прадпрыемстваў і арганізацый аграпрамысловага комплексу у 1998 годзе

У мэтах дасягнення прадпрыемствамі і арганізацыямі аграпрамысловага комплексу зацверджаных на 1998 год паказчыкаў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця, стварэння асновы для вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі ў аб'ёмах, дастатковых для ўстойлівага забеспячэння насельніцтва прадуктамі харчавання і прамысловасці сыравінай, а таксама паляпшэння фінансавага стану названых прадпрыемстваў і арганізацый **пастанаўляю:**

1. Устанавіць, што:

1.1. запазычанасць калгасаў, саўгасаў, іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і прадпрыемстваў, што абслугоўваюць сельскую гаспадарку, па плацяжах у бюджэт і ў рэспубліканскія пазабюджэтныя фонды (за выключэннем Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны), якая ўтварылася на 1 снежня 1997 г., пагашаецца з 1 студзеня 2000 г. па 31 снежня 2001 г. без налічэння пені;

**(Заканчэнне на 23-й стар.)**

## ПЕРСПЕКТЫВЫ СНД ЗАСТАЮЦЦА ПРАБЛЕМАЙ

2—4 сакавіка ў Мінску праходзіць міжнародная канферэнцыя «Шэсць гадоў Садружнасці: праблемы і перспектывы». Асаблівую вастрыню гэтай праблематыцы надае крызіс самой СНД, які стаў відавочны пасля мінулага кішынёўскага саміту і напярэдадні маскоўскага саміту кіраўнікоў краін Садружнасці, які намечаны на 19 сакавіка. Многія палітыкі з краін СНД у гэты час выказваюцца аб перспектывах рэфарміравання Садружнасці, прычым адчуваецца пэўная напружанасць у чаканні маскоўскага саміту. Таму відавочна, што акрамя мэты чыста навуковага абмеркавання дасягненняў і праблем СНД як міждзяржаўнага ўтварэння, перад канферэнцыяй стаяла і задача прадставіць практычныя пазіцыі па гэтаму пытанню як беларускага кіраўніцтва, так і кіраўніцтва Выканаўчага сакратарыята СНД.

На канферэнцыю прыбыло 450 ўдзельнікаў, 60 працэнтаў з якіх — навукоўцы, у тым ліку акадэмікі і члены-карэспандэнты нацыянальных акадэмій краін СНД, палітыкі, акрэдытаваныя ў Мінску дыпламаты, прадстаўнікі ўсіх краін Садружнасці і міжнародных арганізацый: ААН, Сусветнага банку, Еўрапарламента і інш.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выступіў перад удзельнікамі канферэнцыі з 50-хвілінкай праграмнай прамовай (друкуецца ў сённяшнім нумары).

Выканаўчы сакратар СНД Іван Каратчэня ў сваім выступленні выступіў супраць радыкальнай ломкі структур СНД, прапанаваўшы іх «мяккае рэфарміраванне». Ён прывёў прыклад Еўрасаюза, які станавіўся на ногі не адзін дзесятак гадоў, і адзначыў, што, на яго думку, поўнай згоды ў СНД у бліжэйшай перспектыве не прадбачыцца, бо надта вялікія разыходжанні ў інтарэсах розных краін. У гэты ж час тавараабарот паміж краінамі СНД за мінулы год упаў на 6 працэнтаў, стала відавочнай розніца ў падыходах да рэфарміравання эканомікі, відавочна, што ўсё гэта не можа быць базай для больш шчыльнага супрацоўніцтва ўнутры СНД. Іван Каратчэня таксама выказаў свае прапановы па рэфарміраванню Выканаўчага сакратарыята, сутнасць якіх зводзіцца да пераўтварэння яго ў пастаянна дзеючы калегіяльны орган паўнамоцных прадстаўнікоў краін Садружнасці.

Госці канферэнцыі таксама ў большасці былі крытычнымі да сітуацыі ў СНД. У прыватнасці, вядомы расійскі палітык, дырэктар недзярджаўнага Інстытута СНД Канстанцін Затулін назваў Садружнасць «нетрывалым саюзам, створаным зверху фармальна-бюракратычным шляхам», і параўнаў СНД са «шведскім сталом», за якім яго ўдзельнікі бяруць толькі тое, што самі жадаюць: усе выступаюць за эканамічнае супрацоўніцтва, але не ўсе за палітычнае і г.д.

— СНД у лепшым выпадку будзе існаваць як Брытанская Супольнасць Нацый,— такі песімістычны прагноз зрабіў Затулін.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# БЕЛАРУСКІ НАРОД ШЧЫРА ЗАЦІКАЎЛЕНЫ ВА ЎМАЦАВАННІ І РАЗВІЦЦІ СНД

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

І як пасля гэтага ў кагосьці паварочваецца язык называць распад Саюза з'явай прагрэсіўнай. На Захадзе, ды і ў нашых рэспубліках нямала тых, хто адкрыта выхваляецца, што яны прыклалі да гэтага руку. Тады яны павінны ўзяць на сябе адказнасць і за трагічныя для мільёнаў людзей вынікі развалу СССР.

Давайце адкрыта прызнаем таксама, што СНД не змагла адыграць канструктыўную ролю ў прадухіленні або хоць бы змякчэнні катастрафічных вынікаў распаду Саюза. Тое, што адбылося пасля віскулеўскіх пагадненняў, стала чарговым падманам народаў, якія спадзяваліся, што на змену адной геапалітычнай, эканамічнай і духоўнай супольнасці — Савецкаму Саюзу прыйдзе другая — Садружнасць Незалежных Дзяржаў, дзе яны будуць разам, як і раней.

Мне незразумела, сказаў прэзідэнт, чаму разрыў векавых сувязяў, калі па-жывому рэзалі адзіную эканамічную, духоўную прастору, называюць «цывілізаваным». Што, скажам, было цывілізаванага ў расцягванні ваеннай тэхнікі і ўзбраенняў, якое стала адной з галоўных перадумоў крывавых канфліктаў на тэрыторыі СНД, што прывялі да гібелі дзесяткаў тысяч людзей, да трагедыі мільёнаў бежанцаў? Не ўсе хочуць прызнаваць і катастрафічныя эканамічныя вынікі распаду Саюза. Толькі адзін прыклад: разрыў на кавалкі Адзінай энергетычнай сістэмы прыводзіць да страты больш чым 10 мільярдаў долараў ЗША штогод.

Ва ўмовах, калі міждзяржаўная інтэграцыя становіцца дамінуючай тэндэнцыяй сусветнага развіцця, такое раз'яднанне ўяўляе сабой ненармальны працэс. Таму я катэгарычна не прымаю падыходу, які зводзіць ролю СНД да інструмента «цывілізаванага разводу». Наадварот, Садружнасць павінна працаваць на аб'яднанне, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. Асноўную задачу рэфарміравання Садружнасці ён бачыць у тым, каб СНД са своеасаблівага «прыкрыцця» разрыву сувязяў ператварыць у інструмент стварэння.

Беларусь вельмі сур'ёзна падыходзіць да захавання і развіцця Садружнасці. Па майму даручэнню, адзначыў прэзідэнт, беларускім урадам яшчэ некалькі месяцаў таму была падрыхтавана даволі падрабязная канцэпцыя развіцця СНД, якая ў аднолькавай ступені ўлічвае інтарэсы ўсіх краін.

Далей Аляксандр Лукашэнка спыніўся на некаторых прынцыповых момантах сучаснага і будучыні Садружнасці.

На мяжы тысячагоддзяў міждзяржаўная інтэграцыя становіцца дамінуючай тэндэнцыяй развіцця. У Заходняй Еўропе, Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы, Паўднёва-Усходняй Азіі і ў Афрыцы дзейнічаюць магутныя блокі і рэгіянальныя аб'яднанні, звязаныя агульнымі эканамічнымі і геапалітычнымі інтарэсамі. Пры самых высакародных намерах, якія імі абвяшчаюцца, усе яны накіраваны на забеспячэнне карпаратыўных інтарэсаў, як бы далёка яны ні распасціраліся. І ў гэтым іх сіла, несупастаўная з магчымасцямі асобна ўзятай краіны.

На жаль, Садружнасць у вельмі зменлівым свеце не выступае і, галоўнае, не жадае выступаць як адзінае цэлае, як інструмент абароны агульных інтарэсаў. Хіба не сімптаматычна тое, што ні разу ні па адной буйной міжнароднай праблеме краіны СНД не выступілі з узгодненай пазіцыяй. Асноўны час траціцца, як сказалі б даўней, на межусобіцу, на высвятленне адносінаў паміж сабой, а не на выпрацоўку ўзгодненых дзеянняў.

Няўжо ў нас, у былых брацкіх рэспублік, у брацкіх народаў, няма агульных інтарэсаў, якія трэба было б сумесна абараняць? Вядома ёсць! Больш таго, жыццёва важныя інтарэсы нашых народаў у асноўным супадаюць. Не хапае толькі аднаго — жадання і волі кіруючых эліт разам вырашаць агульныя праблемы.

Гэты суб'ектыўны фактар — адсутнасць адзінай волі — і па сённяшні дзень застаецца галоўнай перашкодай на шляху ператварэння Садружнасці ў эфектыўнае міждзяржаўнае аб'яднанне.

Прычын адсутнасці адзінай волі шмат: гэта і несупадзенне інтарэсаў розных нацыянальных эліт, гэта і ілюзіі адносна магчымасці хуткай і выгаднай інтэграцыі ў рэгіянальныя (па-за СНД) аб'яднанні, і надзея на тое, што «Захад нам дапаможа», і, нарэшце, розны эканамічны ўзровень развіцця рэспублік былога СССР.

Але я перакананы, адзначыў прэзідэнт, агульныя эканамічныя і духоўныя інтарэсы нашых народаў урэшце возьмуць верх.

Краіны СНД стаяць перад альтэрнатывай: або мы разам будзем уваходзіць у лік індустрыяльна развітых краін, або апынёмся на задворках сусветнай эканомікі ў якасці сыравіннага прыдатка, пастаўшчыка нафты, газу, таннай рабочай сілы, магільніка для экалагічна шкодных вытворчасцяў.

Індустрыяльна развітыя краіны наўрад ці прагнуць бачыць нас у ліку сваіх канкурэнтаў у галіне перадавых тэхналогій. Краіны Садружнасці іх цікавяць у першую чаргу як пастаўшчыкі таннай сыравіны. Дастаткова паглядзець, каго Захад, нягледзячы ні на што, абвяшчае сваімі стратэгічнымі партнёрамі. Зразумела, тыя рэспублікі былога СССР, дзе ёсць нафта, газ і іншыя карысныя выкапні. Якія яшчэ патрэбны доказы таго, у якой ролі нас хочуць бачыць?

Адбываецца «дэіндустрыялізацыя» знешніх і ўнутраных сувязяў, фарміраванне неэфектыўнай структуры вытворчасці з пераважным развіццём паліўна-сыравінных галін. Гэта тэндэнцыя замацоўваецца накіраванасцю замежных інвестыцый і вядзе да аднабаковай залежнасці краін СНД ад развітых дзяржаў.

Ніхто не сумняваецца ў неабходнасці развіцця гандлёва-эканамічных сувязей з краінамі далёкага замежжа, інтэграцыі дзяржаў — удзельніц СНД у сусветную эканамічную гаспадарку. Аднак такая інтэграцыя павінна ажыццяўляцца з улікам інтарэсаў айчынных тавараВытворцаў і аптымальнай структуры эканомікі кожнай дзяржавы.

Тое, што адбываецца ў краінах СНД, у корані супярэчыць інтарэсам уласнага таваравытворцы. Прааналізуйце, што адбываецца з нашым унутраным рынкам. З яго па сутнасці выцеснены ўласныя, айчынныя для СНД таваравытворцы. Калі ў 1990 годзе ўдзельная вага далёкага замежжа ў экспарце 12 краін Садружнасці складала ў сярэднім 26 працэнтаў, то ў 1996 годзе гэты паказчык узрос да 72 працэнтаў, гэта значыць павялічыўся ў 2,8 раза. Прыкладна ў такой жа прапорцыі скарацілася ўдзельная вага ўзаемнага гандлю.

Тыя магчымасці, якія яшчэ заставаліся для міждзяржаўных паставак, былі паралізаваны валютнымі і мытнымі бар'ерамі, неплацяжамі, узняццем цэн.

Паколькі многія гатовыя вырабы апрацоўчай прамысловасці краін СНД неканкурэнтаздольныя ці лімітуюцца на сусветным рынку антыдэмпінгавымі абмежаваннямі, то амаль адзінай магчымасцю паставак у далёкае замежжа стаў экспарт мінеральна-сыравінных рэсурсаў. У структуры ж імпарту дзяржаў Садружнасці з далёкага замежжа асноўнае месца займаюць прадукты харчавання і розныя тавары народнага спажывання.

На пачатковым этапе гэта быў шлях да выжывання ва ўмовах гаспадарчай разрухі. Аднак з цягам часу ён ператварыўся ў пастаянна дзеючы фактар, што вызначае тупіковую дарогу, па якой краіны СНД «запрашаюцца» ў сусветную эканоміку.

Асноўны вывад, на думку Аляксандра Лукашэнкі, зводзіцца да наступнага. Калі мы хочам быць у ліку развітых краін, то мы павінны перш за ўсё арганізаваць агульны ўнутраны рынак тавараў і абараніць яго ад разбуральнага ўздзеяння звонку.

Зразумела, што гэта няпростая задача. Запатрабуецца карэкціроўка знешнеэканамічнай палітыкі дзяржаў, як і наогул выпрацоўка агульнай стратэгіі сацыяльна-эканамічнага развіцця краін СНД.

Важнейшая роля ў вырашэнні гэтых пытанняў належыць Міждзяржаўнаму эканамічнаму камітэту Эканамічнага саюза.

Аснову яго дзейнасці павінны складаць сумесныя мэтавыя праграмы развіцця галін эканомікі, інвестыцыйныя праекты, стварэнне транснацыянальных фінансава-прамысловых груп, каардынацыя дзейнасці ў эканамічнай і сацыяльнай сферах галіновых органаў Садружнасці. Аднак іх колькасць і апарат трэба грунтоўна скараціць.

У гэтых мэтах уяўляецца мэтазгодным надзяліць МЭК правам прымаць абавязковыя рашэнні па пытаннях, якія не патрабуюць выканання краінай унутрыдзяржаўных працэдур, шляхам трансфармацыі іх па даручэнню ўрадаў дзяржаў у ведамасныя нарматыўныя акты.

Не менш важнай задачай Садружнасці з'яўляецца аднаўленне агульнай навуковай і культурнай прасторы.

Нашы дзяржавы маюць пакуль што яшчэ магутны патэнцыял, першакласныя навуковыя распрацоўкі, а таксама высокія тэхналогіі, якія атрымалі прызнанне ва ўсім свеце.

Мы ўчынім яшчэ адно злачынства перад будучымі пакаленнямі, калі загубім наш навуковы патэнцыял. Думаю, не паграшу супраць ісціны, калі скажу, што праблемы развіцця навукі — гэта праблемы агульнанацыянальнага выжывання і прагрэсу грамадства, падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

Навука непадзельная, і яе, лічыць ён, трэба развіваць у рамках Садружнасці як адзіны комплекс. Неабходна выпрацаваць канцэпцыю навукова-тэхналагічнага развіцця СНД, улічваючы вопыт развітых краін, давесці расходы на навуку ў нашых краінах хоць бы да 3 працэнтаў ад валавога ўнутранага прадукту, а затым і павысіць гэты ўзровень. Але галоўнае, — навучыцца атрымліваць эфектыўную аддачу ад капітальных укладанняў у навуку. Пакуль што яна мізэрна малая. Атрымліваецца замкнёнае кола: скарачаюцца капітальныя ўкладанні і змяншаецца рэальная аддача навукі ў развіцці айчыннай эканомікі.

Яшчэ адна важнейшая сфера — духоўная. Як і нашы палітычныя, і эканамічныя ўзаемаадносіны, духоўнае адзінства народаў складвалася стагоддзямі. Сёння руская культура не можа жыць і нармальна развівацца, не падпітваючыся сістэматычна лепшымі дасягненнямі беларускай, украінскай, грузінскай, армянскай, казахскай, таджыкскай, малдаўскай культурамі,— культурамі ўсіх народаў СНД. І наадварот: без падпіткі магутнымі вытокамі вялікай рускай культуры духоўнае жыццё краін СНД, паводле шматлікіх сведчанняў яе лепшых прадстаўнікоў, асуджана на заняпад.

Ад Савецкага Саюза, сказаў далей прэзідэнт, мы атрымалі ў спадчыну адзіны і прызнаны ва ўсім свеце духоўны патэнцыял.

Духоўнае адзінства народаў — векавая традыцыя, яе не выкараніць адразу. Ды нікому такое і не пад сілу! Менавіта таму нацыяналшавіністычныя рухі ва ўсіх краінах СНД, якія сеялі варожасць паміж народамі і недавер людзей адзін да аднаго, пайшоў на спад, а асобы, якія на хвалі гэтых рухаў дасягнулі пазіцый улады, адыходзяць у невядомасць.

Таму мне ўяўляецца, што цяпер, як ніколі, настаў спрыяльны момант для аднаўлення ў поўным аб'ёме культурных кантактаў паміж краінамі СНД. Няхай усё лепшае, што ствараецца натхнёнай творчай працай у нашых краінах, стане здабыткам людзей, адзначыў Аляксандр Лукашэнка. На яго думку, гэта працэс не стыхійны. Народная воля да духоўнага ўз'яднання павінна быць падмацавана мэтавымі дзяржаўнымі праграмамі. Мы выступаем за тое, каб у рамках супрацоўніцтва СНД была агульная праграма культурных абменаў і кансультацый, каб кожная дзяржава выдзяляла стыпендыі для падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі спецыялістаў у кожнай з нашых краін, каб у ВНУ чыталіся курсы культуразнаўства, мовы, літаратуры, гісторыі народаў нашых партнёраў па Садружнасці.

Перспектыўным бачыцца ліквідацыя ўсялякіх бар'ераў у галіне турызму і спорту. Асабліва для моладзі.

Агульныя эканамічныя інтарэсы і духоўнае адзінства народаў краін СНД складаюць аснову для сумеснай абароны нашых знешнепалітычных інтарэсаў. На думку прэзідэнта, Садружнасць не выконвае абвешчанай пры яе стварэнні функцыі правядзення ўзгодненай знешняй палітыкі. Але жыццё рана ці позна прымусіць нас выступаць разам па важных для нас міжнародных праблемах.

Важнейшым напрамкам супрацоўніцтва нашых краін з'яўляецца фарміраванне сістэмы калектыўнай бяспекі, што адпавядае сучасным патрабаванням. На жаль, сёння краінам СНД яшчэ не ўдалося выпрацаваць адзіных падыходаў у гэтай сферы, ды і сам працэс фарміравання сістэмы калектыўнай бяспекі складваецца неадназначна.

Любое міждзяржаўнае аб'яднанне прадугледжвае адзінства мэтаў, напрамкаў і нормаў дзейнасці, за межамі якіх яно мяняе сваё прызначэнне. Сусветная практыка прадугледжвае магчымасць удзелу ці няўдзелу дзяржаў-членаў такіх аб'яднанняў і тых або іншых канкрэтных праграмах.

Аднак калі амаль у кожным з прымаемых рашэнняў ёсць агаворкі, калі дзяржавы дапускаюць магчымасць невыканання нават тых з іх, на якія далі згоду, гэта — ненармальна.

Думаю, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка, што зыходным пунктам рэфарміравання СНД павінна стаць удакладненне асноўных напрамкаў і маштабаў супрацоўніцтва, якія рэалізуюцца ў рамках Садружнасці. Неабходна ўстанавіць прынцып кансенсусу пры прыняцці рашэнняў, дакладны механізм і жорсткія тэрміны іх трансфармацыі ў нацыянальныя заканадаўчыя і нарматыўныя акты. Справаздачнасць перад супольніцтвам за рэалізацыю гэтых рашэнняў павінна стаць абавязковай для кожнага з яго членаў.

Новы этап і новая якасць інтэграцыі Садружнасці павінны знайсці практычнае адлюстраванне ў арганізацыйнай структуры і напрамках яе работы. Патрабуецца іх сур'ёзная рэарганізацыя.

У Кішынёве дасягнута дамоўленасць у далейшым выносіць на Савет кіраўнікоў дзяржаў толькі стратэгічныя праблемы канцэптуальнага характару, якія закранаюць найбольш актуальныя бакі жыццядзейнасці Садружнасці ў эканамічнай, палітычнай, сацыяльнай сферах, у галіне ваеннага і гуманітарнага супрацоўніцтва. З улікам гэтага трэба ўзняць статус Савета кіраўнікоў урадаў, пашырыць яго кампетэнцыю. Ён павінен ператварыцца ў галоўны орган Садружнасці, які ажыццяўляў бы каардынацыю практычнай дзейнасці СНД у эканамічнай і сацыяльнай сферах.

Гаворачы асобна аб Выканаўчым сакратарыяце, прэзідэнт адзначыў: для вас, вядома ж, не з'яўляецца сакрэтам, што ў апошнія гады на рознага ўзроўню форумах і ў сродках масавай інфармацыі было выказана нямала меркаванняў аб далейшым лёсе штаб-кватэры Садружнасці. Прапаноўвалася, напрыклад, перанесці яе з Мінска ў іншае месца.

Не ўдаючыся ў глыбокі аналіз магчымых вынікаў такой рашучай ломкі, хацелася б толькі нагадаць яе ініцыятарам, што месца знаходжання штаб-кватэры Садружнасці з віскулеўскай сустрэчы і да сённяшніх дзён — зусім не геаграфічнае паняцце, а выключна палітычная праблема. Нам уяўляецца, што Выканаўчы сакратарыят пры ўсіх вольных або міжвольных хваробах знайшоў сваё месца ў структуры Садружнасці. Ён трывала заняў сваю нішу як рабочы орган Савета кіраўнікоў дзяржаў, Савета кіраўнікоў урадаў, Савета міністраў замежных спраў, як інстытут экспертнай прапрацоўкі прававых актаў і своеасаблівы цэнтр арганізатарскай работы.

Сакратарыят стаў, як сцвярджаюць спецыялісты, таксама тэлекамунікацыйным цэнтрам падрыхтоўкі і каардынацыі праграм і праектаў інфармацыйнага абмену ў галінах права, забеспячэння бяспекі, статыстыкі, аховы здароўя, адукацыі.

Ен цесна ўзаемадзейнічае з інфармацыйнымі службамі міжнародных арганізацый і структур Садружнасці, з навукова-даследчымі ўстановамі і аналітычнымі цэнтрамі, з інфармацыйнымі агенцтвамі, прадпрыемствамі і фірмамі ў краінах СНД і ў далёкім замежжы. Разбураць гэту структуру, якая карпатліва стваралася на працягу шасці гадоў, было б, прынамсі, неразумна.

Няма слоў, Выканаўчы сакратарыят, як і іншыя рабочыя органы, мае патрэбу ў рэфарміраванні. Думаецца, было б правільным увесці ў састаў Сакратарыята ў якасці членаў Калегіі паўнамоцных прадстаўнікоў дзяржаў Садружнасці, пашырыць яго паўнамоцтвы — даручыць яму адсочваць сумесна з нацыянальнымі структарамі выкананне пагадненняў для даклада вышэйшым органам СНД.

Вялікая работа чакаецца па змяненню Статута, Правілаў працэдуры саветаў кіраўнікоў дзяржаў і кіраўнікоў урадаў, іншых асноватворных дакументаў і прававых актаў Садружнасці. Трэба вызначыць свае пазіцыі адносна раней прынятых рашэнняў, правесці іх своеасаблівую інвентарызацыю, адмяніць не адпавядаючыя цяперашнім рэаліям, унесці змяненні ў тыя з іх, якія не страцілі актуальнасці. Было б правільным для гэтай работы стварыць часовую міжурадавую камісію з ліку намеснікаў прэм'ер-міністраў дзяржаў, лічыць Аляксандр Лукашэнка.

Невыканальнасць, на яго думку, — адно з найбольш вострых пытанняў дзейнасці Садружнасці. Інтэграцыя, супрацоўніцтва абвяшчаюцца ў дакументах, неабавязковасць існуе на практыцы. Як паказвае сусветны вопыт, без механізма рэалізацыі прымаемых рашэнняў міжнародная структура асуджана на безумоўнае адміранне.

Садружнасць павінна грунтавацца на праве. Права дае тое, чаго не ўдаецца дабіцца сілай. У гэтых адносінах ёсць добры прыклад: Суд Еўрапейскага супольніцтва. Гэты орган мае шырокія паўнамоцтвы як з пункту гледжання забеспячэння належнага выканання права Супольніцтва пры тлумачэнні і прымяненні ўстаноўчых дагавораў і заканадаўчых актаў, што прымаюцца Саветам і Камісіяй ЕС, так і ў развіцці права Супольніцтва.

Становішча і эфектыўнасць дзейнасці гэтага органа незвычайна адрозніваюцца ад таго становішча, у якім знаходзіцца сёння Эканамічны суд СНД. Ступень яго ўплыву на тэмпы і эфектыўнасць інтэграцыі ў рамках СНД, мякка кажучы, невялікая.

Перакананы, падкрэсліў прэзідэнт, незалежны судовы орган у нашай Садружнасці, і з самымі шырокімі паўнамоцтвамі, павінен існаваць. Яго рашэнні павінны быць абавязковымі для выканання органамі Садружнасці, урадамі і суб'ектамі гаспадарання дзяржаў — членаў СНД. Беларусь гатова да такога ходу падзей.

Аднак патрабаванні да якасці работы Эканамічнага суда СНД, да суддзяў павінны быць істотна павышаны. Можа, трэба правесці ратацыю суддзяў, скараціць іх колькасць для больш таннага ўтрымання Суда, умацаваць апарат, каб узняць ролю Суда як аналітычнага і экспертнага цэнтра, у якім праходзяць апрабацыю праекты дагавораў, што заключаюцца ў рамках СНД.

Трэба таксама вызначыцца з перспектывай развіцця Суда — застанецца ён толькі Эканамічным судом або паступова будзе трансфармавацца ў Суд СНД. Мне больш імпануе, сказаў прэзідэнт, другі пункт гледжання, бо на практыцы раздзяліць эканамічныя, палітычныя ці сацыяльныя праблемы часта немагчыма. Але ў любым выпадку Эканамічны суд СНД павінен больш актыўна ўключацца ў інтэграцыйныя працэсы на постсавецкай прасторы.

Ступень інтэграцыі і эфектыўнасць супрацоўніцтва ў СНД вызначаюцца сёння па мінімальнаму ўзроўню, на які згодны дзяржавы, не гатовыя пакуль што ісці на глыбокую інтэграцыю.

Гэта супярэчнасць паміж дзяржавамі, зацікаўленымі ў цесным супрацоўніцтве, і тымі, хто гэтага не хоча або пакуль што не здольны ісці на паглыбленне інтэграцыі, магла вырашыцца па-рознаму. Горшым варыянтам быў бы распад Садружнасці.

На шчасце, гэта не адбылося. У якасці сродку вырашэння праблемы была выбрана інтэграцыя розных хуткасцяў, якая на практыцы ўвасобілася ў Саюзе Беларусі і Расіі і так званым «саюзе чатырох» (Беларусі, Казахстана, Кыргызстана і Расіі).

На жаль, нярэдка не толькі некаторыя сродкі масавай інфармацыі, але і лідэры асобных краін Садружнасці, не пацвярджаючы свае тэзісы ніякімі фактамі і аргументамі, заяўляюць, што гэтыя саюзы падрываюць СНД.

Асабліва дзіўна чуць такія папрокі з боку тых, хто сам прымае ўдзел у розных субрэгіянальных фарміраваннях.

Несумненна, інтэграцыя розных хуткасцяў мяняе існуючае цячэнне жыцця ў Садружнасці. Але яна не ўяўляе ніякай пагрозы СНД, а, наадварот, можа стаць магутным паскаральнікам стваральных працэсаў у ёй, з'яўляючыся прыкладам паспяховай адпрацоўкі новай мадэлі раўнапраўнага, узаемавыгаднага супрацоўніцтва.

Да таго ж самі ўдзельнікі «саюза двух» і «саюза чатырох» не разглядалі і не разглядаюць свае структуры як альтэрнатыву Садружнасці. І «двойка» і «чацвёрка» не з'яўляюцца закрытымі саюзамі, яны адкрыты для шырокага ўзаемадзеяння з іншымі партнёрамі па Садружнасці, аж да іх поўнага далучэння да гэтых саюзаў.

Што ж дае Саюз Беларусі і Расіі? Аляксандр Лукашэнка лічыць, што адмена мытных бар'ераў, стварэнне спрыяльных умоў для аднаўлення разарваных гаспадарчых сувязяў, фарміраванне і рэалізацыя сумеснага балансу паліўна-энергетычных рэсурсаў, мэтавых праграм спецыялізацыі і кааперавання вытворчасці і шэраг іншых мераў самым станоўчым чынам адбіліся на развіцці эканомікі.

На працягу двух гадоў у Беларусі ідзе эканамічны рост. Па выніках 1997 года абсалютная большасць галін народнай гаспадаркі дасягнулі істотнага перавышэння ўзроўню 1996 года па асноўных паказчыках сацыяльна-эканамічнага развіцця. Валавы ўнутраны прадукт павысіўся на 10 працэнтаў, вытворчасць прамысловай прадукцыі — на 17,6, вытворчасць тавараў народнага спажывання — на 20,4 працэнта.

Пры гэтым удзельная вага запасаў гатовай прадукцыі прамысловасці ў агульным аб'ёме яе выпуску зменшылася. Гэта сведчыць аб тым, што вырабы беларускіх прадпрыемстваў, нягледзячы на вельмі жорсткую канкурэнцыю з боку магутных і вопытных замежных фірмаў, знаходзяць свайго пакупніка.

У выніку эканамічнага росту пачалі лепш вырашацца і сацыяльныя праблемы. За 1997 год уведзена ў дзеянне жылых дамоў на 38 працэнтаў больш, чым за папярэдні год. На 5 працэнтаў выраслі рэальныя даходы насельніцтва і на 6,5 працэнта — аб'ём платных паслуг. Значна скарацілася колькасць беспрацоўных.

Безумоўна, гэтыя сур'ёзныя змяненні ў тэндэнцыях развіцця эканомікі Беларусі былі б немагчымыя без пашырэння гаспадарчых сувязяў з прадпрыемствамі перш за ўсё Расійскай Федэрацыі.

Сёй-той спрабуе паказаць справу такім чынам, што Беларусь стала жыць лепш за кошт Расіі. Гэта, зразумела, не так, падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

Паміж нашымі дзвюма краінамі дасягнуты дынамічны і ўстойлівы рост узаемнага гандлю. У 1996 годзе яго аб'ём павялічыўся на 17 працэнтаў. А ў мінулым годзе — яшчэ на 40 працэнтаў. І гэта на фоне агульнага зніжэння паставак паміж краінамі СНД. І яшчэ адзін важны штрых у нашых двухбаковых адносінах. Сёння ў нас дзейнічаюць пагадненні аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве з 55 буйнейшымі рэгіёнамі Расіі. Саюз аднолькава выгадны і Беларусі, і Расіі.

Паглыбленне інтэграцыйных сувязяў двух брацкіх народаў ажыццяўляецца ва ўсіх сферах дзейнасці. Абедзве дзяржавы ўзгоднена забяспечылі сацыяльную абарону ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і воінаў-інтэрнацыяналістаў. Устаноўлены роўныя правы беларускіх і расійскіх грамадзян на працаўладкаванне і аплату працы, атрыманне адукацыі і іншыя сацыяльныя і працоўныя гарантыі.

Важным крокам для фарміравання адзінай інфармацыйнай прасторы з'яўляецца рашэнне Вышэйшага Савета Саюза аб стварэнні сумеснай тэлерадыёвяшчальнай арганізацыі. Прынята вялікая праграма супрацоўніцтва ў галіне культуры, духоўнага ўзбагачэння нашых народаў.

Саюз Беларусі і Расіі поўнасцю даказаў сваю жыццяздольнасць. Ёсць істотныя зрухі і ў рамках «саюза чатырох», асновай якога з'яўляецца мытны саюз.

Вядуцца работы па ўзгадненню падыходаў у тарыфным і нетарыфным рэгуляванні, устанаўленню адзіных правілаў валютнага рэгулявання і валютнага кантролю, а таксама забяспечэнню свабоды транзіту па тэрыторыі дзяржаў — удзельніц мытнага саюза.

Распрацоўваюцца асноватворныя дакументы па фарміраванню транспартнага саюза. Выпрацоўваюцца падыходы да стварэння прынцыповай мадэлі пабудовы агульнага рынку працы, свабоднага перамяшчэння рабочай сілы ўнутры дзяржаў — удзельніц Дагавора.

Словам, сёння інтэграцыя розных хуткасцяў — гэта рэальнасць, з якой, падабаецца гэта камусьці або не, трэба лічыцца. І, што асабліва важна, яна працуе на ўмацаванне Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

На заканчэнне Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што лічыць вельмі шкоднай спробу проціпастаўляць узаемадзеянне краін Садружнасці развіццю нашых адносінаў з іншымі дзяржавамі свету. Вектар «далёкае замежжа» павінен стаць важным складальнікам агульнай сістэмы забеспячэння стабільнасці ўсёй постсавецкай прасторы. Гэта вызначаецца аб'ектыўнай зацікаўленасцю сумежных з Садружнасцю дзяржаў і ўсяго сусветнага супольніцтва ва ўзаемавыгадным доўгатэрміновым супрацоўніцтве.

Для сусветнага супольніцтва эфектыўнае функцыянаванне Садружнасці азначала б стабільнасць на постсавецкай прасторы, гэта значыць палітычную раўнавагу, эканамічную выгаду і сацыяльную ўстойлівасць. Для СНД такая сістэма адкрывае новыя магчымасці раўнапраўнага ўваходжання Садружнасці ў сусветнае супольніцтва.

Кіраўнік беларускай дзяржавы выказаў надзею, што ўдзельнікі канферэнцыі ў выніку кваліфікаванага навуковага аналізу і дыскусій выпрацуюць важкія рэкамендацыі кіраўнікам дзяржаў СНД для прыняцця абгрунтаваных і ўзважаных рашэнняў.



ЛІЧБЫ
ФАКТЫ
КАМЕНТАРЫІ




АНАЛІЗ
МЕРКАВАННІ
ПРАГНОЗ



*Іван Шакола, міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Рэспублікі Беларусь:*

# «Будучыня — за новымі тэхналогіямі, інтэнсіфікацыяй сельскагаспадарчай вытворчасці»



**Займаючы істотнае месца ў агульнаэканамічным змесце жыцця нашай краіны, сельская гаспадарка, аграпрамысловы комплекс у сваю чаргу істотна ўплываюць на характар і развіццё народнай гаспадаркі. Фактычна сельскагаспадарчы вытворца сілкуе эканоміку, дае ёй падставы для перамен у той альбо іншы бок. Сённяшняя размова з міністрам сельскай гаспадаркі і харчавання якраз і пойдзе пра тое, у якім стане сёння знаходзіцца ўвогуле сельскагаспадарчая вытворчасць краіны, за кошт чаго, якіх рэзерваў можна выйсці наперад.**

**— Іван Пятровіч, не імкнучыся рапартаваць пра поспехі, давайце ўсё ж паспрабуем вызначыць, якога плёну дабіліся ў АПК апошнім часам?**

— Да сапраўдных поспехаў, вядома ж, яшчэ вельмі далёка. І тым не менш трэба заўважыць, што пэўная стабілізацыя наступіла. Ёсць нармальныя паказчыкі, нармальныя здабыткі, лічбы ўжо неаднойчы называліся і ўсім добра вядомыя.

**— Што датычыцца раслінаводства, то і на месцах у адзін голас старшынскі корпус заяўляе, што выгадна сёння вырошчваць толькі збожжавыя...**

— Але ж тут якраз трэба заўважыць і некаторы перакос. Маючы высокую ўрадлівасць глебы, збожжа вырошчваць, вядома ж, выгадна. У свеце ж існуе вядомая практыка: семдзесят працэнтаў прыбытку ў сельскагаспадарчай вытворчасці дае жывёлагадоўля. Выгадным з'яўляецца таксама вырошчванне яравога рапсу, цукровых буракоў, а з сёлетняга года — ільна. У бліжэйшы час так стане і ў нас.

Але ўсё ж некалькі лічбаў. Прыпыненне спаду вытворчасці характарызуюць наступныя паказчыкі. Малака летась надаілі на 13 працэнтаў болей у параўнанні з папярэднім годам. Вытворчасць мяса павялічылася на 8 працэнтаў. І радуюць не толькі лічбы самі па сабе. Сёння можна смела сказаць, маючы на ўвазе большасць кіраўнікоў гаспадарак, што мы навучылі іх, як займацца вытворчасцю, як пралічваць эфектыўнасць і эканамічную мэтазгоднасць выраблене й прадукцыі. Мажліва, далёка не кожны старшыня яшчэ здольны разгледзець, знайсці цалкам тую эканамічную схему, згодна з якой трэба развівацца, ісці наперад, але ўжо, здаецца, усе ведаюць, што такое новыя тэхналогіі, што ёсць і суперканцэнтраты, розныя дабаўкі, прэміксы,што зусім не абавязкова выкарыстоўваць збожжа на корм ледзь не ў чыстым выглядзе.

**— І ўсё ж, нават з улікам росту, стабільнасці, калі аглядацца на 1990 год і ранейшыя, паказчыкі не дужа высокія, мякка кажучы.**

— Так, пры нават стабільнай эканоміцы, каб весці нармальную вытворчасць, трэба мець дваццаць працэнтаў рэнтабельнасці. А пашыраная вытворчасць і ўвогуле патрабуе пяцідзесяці працэнтаў. А сёння, калі адбіваецца інфляцыя, іншага выйсця, як сістэмная дзяржаўная падтрымка вёскі і няма. З году ў год абвастраюцца многія праблемы. Фізічна, ды і маральна таксама, састарэла тэхніка. Наспеў час істотнага пераўзбраення вёскі, будаўніцтва жылля, дарог. Ужо хаця б таму, што новыя тэхнічныя агрэгаты, новыя машыны дазволілі б закрыць дэмаграфічныя праблемы. Наіўна думаць, што ў вёсцы павялічыцца колькасць рабочых рук. Неабходна пераходзіць да стопрацэнтнай механізацыі, павялічваць нагрузку на аднаго чалавека, максімальна выкарыстоўваць інтэнсіўныя тэхналогіі.

**— Нельга з вамі не пагадзіцца. Але ж разумныя і ці не ў першую чаргу неабходныя названыя вамі крокі немагчымыя, відавочна, без фінансавай стабілізацыі?**

— На 1 студзеня 1998 года запазычанасць па галіне склала да 18 трыльёнаў рублёў. Востры недахват сродкаў адбіваецца на стане гаспадарак, настроі людзей. Каля 700 калгасаў зараз не могуць своечасова выплачваць заработную плату. Ёсць калгасы і дзяржгасы краіны, якія давялі свае даўгі да таго, што яны ўжо перавышаюць кошт асноўных сродкаў вытворчасці.

**— Здаецца, вы ўжо і раней згадвалі некаторыя маласімпатычныя лічбы...**

— Ад таго, што мы будзем нешта прыхоўваць, нешта замоўчваць, сітуацыя можа змяніцца зусім не да лепшага, а да горшага. Вось мы ўжо згадвалі складанасці тэхнічнага парка. Дэталізую тое, што датычыцца збожжаўборачных камбайнаў. 10 тысяч з агульнай іх колькасці яшчэ больш-менш нешта сабой уяўляюць. Становішча склалася такім чынам, што нагрузка летась была роўная 270 гектарам на 1 камбайн. У выніку ўборка зацягнулася на цэлы месяц.

**— І да якіх страт у валавым зборы збожжа гэта прывяло?**

— Краіна недаатрымала прыблізна 1,5 млн. тон збожжа.

І калі весці размову пра тэхнічнае і тэхналагічнае пераўзбраенне, то трэба мець на ўвазе і жывёлагадоўлю. Яе стан таксама патрабуе рашучага ўмяшання дзяржавы, істотнай яе падтрымкі. На сённяшнім рынку 90 працэнтаў прадуктаў харчавання, спажываемых у Рэспубліцы Беларусь, — айчыннай вытворчасці, айчыннага паходжання.

І калі не стварыць належных умоў укаранення новых тэхналогій у вытворчасці птушкі, ялавічыны сёння, то заўтра мы многае страцім. А пры пэўнай радыкалізацыі рынку будзем паступова губляць і айчынны рынак прадуктаў харчавання.

Ужо і наша даярка па свайму менталітэту, па магчымасцях і здольнасцях да адукацыі можа і павінна працаваць з камп'ютэрам, абслугоўваць 200 і больш кароў. Але, відавочна, укараненне сістэмы з такой тэхналогіяй патрабуе велізарных сродкаў.

**— Іван Пятровіч, пагадзіцеся, можна за кошт дзяржавы камп'ютэрызаваць ферму, не пашкадаваць грошай на вышэйшую адукацыю для даяркі, і ўсё адно атрымліваць ад адной каровы дзве тысячы кілаграмаў малака ў год...**

— Трэба мець на ўвазе ўвесь комплекс. І ці не ў першую чаргу — кармавую базу. Канцэнтраты, разлік усіх дабавак, вызначэнне эфектыўнасці кормазатрат — гэта адзін з кампанентаў агульнага поспеху. Да таго ж ніхто і не чакае ад дзяржавы падтрымкі па ўсіх накірунках. Дзяржава не будзе больш падтрымліваць неэфектыўную вытворчасць. Ніякіх бюджэтных сродкаў не хопіць, ніякія інвестыцыі не дапамогуць. Іншая справа — мэтанакіраванае, праграмнае фінансаванне, спрыяльнае крэдытаванне.

Праўда, у значнай ступені і самім аграрнікам трэба праяўляць большую разваротлівасць. Часам прыхільнікі старых, традыцыйных эканамічных і вытворчых адносінаў заўважаюць: маўляў, размовы пра эфектыўнасць, інтэнсіфікацыю — усё гэта пусты гук. Вось трэба працаваць як найлепш — і ўсё. Паважаныя, прачніцеся! Мы, увесь свет — на парозе XXI стагоддзя. Чаму ж тады, працуючы па-старому, мы не прыйшлі да добра вядомага, калі многія краіны, якія нашмат менш вырошчваюць збожжа, але маюць больш кармоў?! Гэта ж факт, што ў нашых айчынных камбікармах да пяцідзесяці працэнтаў збожжа, а ва ўсім свеце — не болей дваццаці. Вось вам і рэзервы.

**— Рэалізацыя якога патрабуе зноў жа істотных фінансавых затрат...**

— Па нашых падліках, пераўзбраенне камбікормавых заводаў патрабуе недзе каля 500 мільёнаў долараў. Але ж вы ўявіце сабе, які фундамент мы закладзём для будучага росту росту прадуктыўнасці жывёлагадоўлі: больш танныя кармы, адпаведна і большая іх колькасць.

**— Іван Пятровіч, і тым не менш, гаворачы пра ролю фінансавых укладанняў у перспектыўнае развіццё, усё ж хацелася б, каб вы агучылі і блізкія арыенціры, да якіх і гаспадаркі павінны імкнуцца, і міністэрства, кіраўніцтва АПК краіны, відавочна, настройваюць на іх.**

— Што да надояў малака, то 4000 кг на адну карову ў год. Ураджайнасць збожжавых — 35—40 цэнтнераў з гектара. Да 300 цэнтнераў — ураджай бульбы з 1 гектара. 10—12 цэнтнераў — ільновалакна. 500—600 цэнтнераў — цукровых буракоў. Толькі пры такіх вось паказчыках мы можам эканамічна нармальна развівацца. Але пакуль не адрэгуляваны курс рубля, калі сёння ідзе відавочная інфляцыя, — вёсцы патрэбна падтрымка. Сёння, між іншым, дзяржаўная падтрымка роўная недзе 12 працэнтам ад нашых затрат. Хаця мы ў сваю чаргу на 18 працэнтаў фарміруем валавы прадукт і на 16 — кансалідаваны грашовы бюджэт.

Хаця сёння зразумелае і эканамічнае становішча дзяржавы. Таму, разлічваючы на яе матэрыяльную, фінансавую падтрымку, мы ўсё ж у большай ступені занятыя пошукам і развіццём унутраных рэзерваў.

— Магчыма, і эфектыўнае выкарыстанне ўнутраных рэзерваў стрымлівае існуючая сістэма цэнаўтварэння?

**— І тым не менш, я не ставіў бы так пытанне. Ніякая самая высокая закупачная цана не кампенсуе затратную вытворчасць.**

Наспела і такое сур'ёзнае пытанне: куды ўсё ж такі, у якія гаспадаркі ўкладваць грошы, у якія землі, што таксама немалаважна. Зараз завяршаецца работа над зямельным кадастрам. Будзем уносіць прапановы землі з балам урадлівасці 19—20 і ніжэй вывесці з сельскай гаспадаркі, перадаць іх другім землекарыстальнікам.

**— Іван Пятровіч, гаворачы пра стасункі дзяржавы з сельскагаспадарчымі вытворцамі, ці не атрымліваецца, так што мы выступаем, з аднаго боку, за рыначныя змены, а з другога — адначасова нагадваем, што, маўляў, дзяржава не павінна забывацца на вёску?.. Ці не парушаецца тут пэўная логіка, калі за арыенцір развіцця нашай эканомікі браць рыначную перспектыву?**

— Ніякіх супярэчнасцяў. Па-першае, дзяржаўная падтрымка — гэта штуршок для развіцця, стварэнне спрыяльных умоў на перспектыву. Па-другое, як сведчыць вопыт іншых краін, дзяржава паўсюдна дапамагае. Скажам, у Японіі, Францыі ў абаротных сродках аграрнікаў да 70 працэнтаў складаюць грошы дзяржавы. У іншых краінах — да 40... Але давайце канкрэтна разбяромся, што ж маецца на ўвазе пад дзяржаўнай падтрымкай? Размова ідзе аб доўгатэрміновым крэдытаванні вёскі. Апошнім часам наша сельская гаспадарка яго фактычна не атрымлівала. Размова ідзе пра льготнае крэдытаванне. Заходні фермер заўсёды можа разлічваць на крэдыт пад 6, на крайні выпадак — пад 10 працэнтаў. Размова ідзе аб ільготным падаткаабкладанні. Хаця б па асобных гаспадарках, хаця б на перыяд выхаду з крызісу. Таксама — датацыі. У свеце ж існуе і практыка дацыравання экспартазамяшчальнай прадукцыі. Каб запоўніць нішу на рынку іншых дзяржаў, краіна ідзе на такія датацыі. Напрыклад, на адну тону пэўнага прадукту 140 долараў — цана на ўнутраным рынку, а 100 — у замежжы. Затое захоўваецца рынак, які, магчыма, з часам і дасць усе падставы і цану дыктаваць, і грошы адпаведна зарабляць, для дзяржавы — таксама. Не зважаючы на гэта, мы ў свой час пазбавілі сябе рынку бульбы.

**— Калі гаварыць пра дацыраванне, то ў дачыненні да чаго яно павінна перш-наперш ажыццяўляцца з боку дзяржавы?**

— Да бульбы, ільну. У некаторай ступені механізм гэты павінен праяўляцца і ў дачыненні да мяса-малочнай прадукцыі, якая таксама мае ў нас усе магчымасці быць экспартнай. Любая дзяржава ўстанаўлівае цэны. Але зыходзячы з рыначнага ўплыву. І тым не менш дзяржава павінна кантраляваць, каб цана вяртала затраты. Павінен спрацоўваць механізм дзяржаўнага рэгулявання.

Словам, дзяржаўная падтрымка сельскай гаспадаркі не павінна вызначацца эпізадычнасцю, а павінна насіць сістэмны характар.

**— Але для гэтага патрэбна і заканадаўчая база. Каб ужо пасля і калгасны старшыня цудоўна разумеў, што ў такіх вось межах яму будзе гарантавана дапамога. Згодна з гэтым і планаваў бы сваю эканоміку.**

— На жаль, законаў як аб дзяржаўнай падтрымцы сельскай гаспадаркі, так і аб адаптацыі да рыначных умоў усё яшчэ няма. Хаця законапраекты даўно існуюць, неаднаразова абмяркоўваліся ў аграрнай камісіі. Тады як гаспадаркі, што сталі на шлях рэфарміравання, найболей моцныя, між іншым, гаспадаркі, жывуць, працуюць, адчуваючы недахоп прававых актаў.

**— Але ж і без асобнага закона дзяржава ўсё роўна сёння падтрымлівае АПК...**

— Калі мець на ўвазе фінансаванне сёлетняй сяўбы, то прадугледжана 2,6 трыльёна рублёў бюджэтных асігнаванняў, 2,5 трыльёна крэдыту і 6,7 трыльёна ў якасці аплаты за прадукцыю. У першым і другім кварталах гаспадаркі атрымліваюць з іх 3,3 трыльёна. Пайшлі ўжо гэтыя грошы па запатрабаванню. Хацелася б, вядома, каб усё гэта рабілася як найхутчэй. І тым не меней на гэтыя мэты атрымана больш як 2 трыльёны рублёў.

**— Але тут узнікае, відавочна, і такая праблема, асабліва што датычыцца мінеральных угнаенняў. Патрэбна валюта на іх набыццё. І канвертацыя ідзе досыць марудна...**

— Такая праблема сапраўды існуе. Каб экспартаваць нашу прадукцыю, нам трэба вырашыць пытанне так званага крытычнага імпарту. Трэба завозіць шрот, сою і г. д. Па нашых разліках, патрэбна зараз недзе каля 400 мільёнаў долараў. Таксама ж неабходны сродкі хімічнай аховы раслін і інш. І ўвесь час тут паўстаюць праблемы. Шукаем выйсце ў іншым. Стараемся вырабіць прадукцыю з разлікам, што за яе можна будзе выручыць валюту. А пасля ўжо закупляем неабходную сыравіну. І ўсё роўна валютных сродкаў не хапае.

**— Іван Пятровіч, давайце звернемся непасрэдна да гаспадарак. Пакуль, прыкладам, «Белсельгасхімія» шукае валютныя сродкі, каб набыць для іх угнаенні, некаторыя з гаспадарак так глыбока апусціліся на дно...**

— Безумоўна, можна было б прыняць самыя рашучыя меры. Але адназначна гаварыць, што тыя альбо іншыя гаспадаркі праваліліся самі па сабе, лічу, нельга. Як правіла, у такой сітуацыі аказаліся тыя, хто не падрыхтаваўся да перамен, якія сутыкнуліся нос у нос з нашай эканомікай. У свой час недастаткова быў адрэгуляваны эканамічны механізм выраўноўвання гаспадарак. Таму ёсць і суб'ектыўныя фактары. Але зараз, калі патрэба ў грашах вырасла, недахват абаротных сродкаў найперш адчулі гэтыя гаспадаркі. А следам для іх — і нарастанне даўгоў. І ў рэшце рэшт гаспадарка аказваецца ў даўгавой яме. Каб прыняць нейкае рашэнне, трэба дэталёва разабрацца, выкарыстоўваем розныя шляхі. Зрабілі выязное пасяджэнне калегіі Мінсельгасхарчу — у дзяржгасе «Карпавічы» Вілейскага раёна. Праехалі па аб'ектах, пагутарылі са спецыялістамі. Па базе, якая ёсць у гаспадарцы, нельга вынесці вердыкт, што дзяржгас — банкрут. А вось унутры тае базы, гаспадаркі няма, не хапае тэхналогіі. Пачалі распытваць спецыялістаў наконт прапаноў — нічога ў іх не атрымалася. Далі тэрмін. Пасля ўжо спецыялісты прыехалі на калегію міністэрства з бізнес-планам. Правялі ў дадатак і другі эксперымент: папрасілі лепшых, таленавітых калгасных кіраўнікоў праехаць па «заваленых» гаспадарках. Карчміт і да яго падобныя — з тых, над кім сістэма не вісіць, каго не душыць, з-за іх самастойнасці і рашучасці. Многія старшыні-перадавікі паехалі да патэнцыяльных банкрутаў са сваімі спецыялістамі. Працавалі дзень-два, а пасля на калегіі Мінсельгасхарчу выказалі свае прапановы. І што цікава, палічылі нашы «рэвізоры», што ў «палеглых» гаспадарках можна працаваць, ёсць шанц іх падняць. Але ж знайшліся і такія калгасы, дзе «развінціліся» дашчэнту людзі, усё, што можна, расцягваецца па ўласных падворках. З такімі калгасамі ўжо трэба нешта вырашаць. Думаю, што ў дачыненні да падобных гаспадарак механізм банкруцтва да канца года будзе запушчаны. І пасля ўжо працуйце. Бо размовы ўсе пра цэнаўпарадкаванне ці не найперш ідуць ад тых гаспадароў, хто ад каровы надойвае 1200 кілаграмаў малака. І што цікава, складаючы праграму на наступны год, такі кіраўнік дадае 150 кг, сам цудоўна разумеючы, што яго прыбаўка і ў 300 кг не выратуе.

Перспектывы развіцця АПК, сельскагаспадарчай вытворчасці, безумоўна, у нашай краіне ёсць. Ёсць дзесяткі гаспадарак, па якіх можна і варта раўняцца астатнім. Але ўсім астатнім, усім нам трэба не толькі думаць, а працаваць думаючы, працаваць самаахвярна. Працаваць, калі мы жадаем бачыць квітнеючай нашу краіну, калі мы не жадаем трапіць у поўную эканамічную, палітычную, сацыяльную залежнасць ад усялякіх дабрадзеяў.

Гутарыў
**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**Раслінаводчая галіна рэспублікі ў мінулым годзе забяспечыла вытворчасць 40 працэнтаў усёй сельгаспрадукцыі і 28 працэнтаў таварнай яе часткі. Улічваючы нездавальняючы фінансавы і тэхнічны стан раслінаводства ў цэлым, у земляробстве адбыліся, па ўсім бачна, станоўчыя зрухі. Аб гэтым можна меркаваць хоць бы па такіх лічбах: вытворчасць збожжа і кармоў у мінулым годзе павялічана ў сярэднім на 10 працэнтаў, цукровых буракоў — на 25, на 6 працэнтаў узрасла прадуктыўнасць сельгасугоддзяў і ворыва. У поўным аб'ёме выкананы дзяржаўны заказ па надрыхтоўцы збожжа. Паказальна, што 12 працэнтаў у рэалізаваным збожжы склала пшаніца, а ў Брэсцкай вобласці — 17 працэнтаў. Упершыню за многія гады сабрана каля 500 тысяч тон зернебабовых, што складае амаль 8 працэнтаў усяго аб'ёму збожжавых. Рэнтабельнасць раслінаводства склала каля 50 працэнтаў: збожжавыя — 70 працэнтаў, бульба — 38 працэнтаў, цукровыя буракі — 24 працэнты. Толькі лён быў стратным. Можна канстатаваць, што вяскоўцамі выканана асноўная задача — забяспечана харчовая бяспека краіны, якая губляецца, як вядома, калі імпартуецца больш за 25 працэнтаў харчавання.**

**Гэта агульныя лічбы, якія даюць, спадзяёмся, нашым чытачам хоць нейкае ўяўленне аб тым, чым займалася вёска і наколькі важна, каб і надалей бачылася яе развіццё, асабліва што датычыцца раслінаводчай галіны. На што ж арыентавацца? Менавіта пра гэта і ішла размова за «круглым сталом», якую арганізавалі і правялі спецыялісты Упраўлення раслінаводства Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання. Вёў яго намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення Вячаслаў ГЕРАСІМОВІЧ.**

# Каб зямля давала аддачу, трэба і ёй даць

ТАК ЛІЧАЦЬ СПЕЦЫЯЛІСТЫ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ, ЯКІЯ САБРАЛІСЯ ЗА «КРУГЛЫМ СТАЛОМ» «ЗВЯЗДЫ»



## Толькі за кошт укаранення новых сартоў штогод можна дадаткова атрымліваць да 400 тысяч тон збожжа

**Валавы збор збожжа ва ўсіх сельскагаспадарчых прадпрыемствах (грамадскім сектары гаспадарак) у вазе пасля дапрацоўкі склаў 5,9 млн. тон, а з улікам насельніцтва — 6,4 мільёна тон. Гэта на 10 працэнтаў больш, чым было сабрана ў мінулым годзе. Кожны гектар даў па 23,7 цэнтнера (пазалетась — 21,6 ц/га).**

Найбольшы прырост валавой вытворчасці збожжа забяспечаны ў гаспадарках Брэсцкай вобласці — 220 тыс. тон, што складае 28 працэнтаў ад пазалеташніх валавых збораў і 38 працэнтаў агульнага прыросту вытворчасці збожжа ў рэспубліцы. Найвышэйшай ураджайнасці дасягнулі гаспадаркі Гродзенскага раёна, якія атрымалі па 37,9 цэнтнера збожжа з гектара. Усяго ж па рэспубліцы 409 гаспадарак з 2493 (16,5 працэнта) атрымалі ўраджайнасць звыш 30 ц/га. У той жа час 280 гаспадарак рэспублікі (11 працэнтаў) атрымалі ўраджайнасць збожжавых да 15 ц/га.

Збожжа, хлеб — гэта, як вядома, аснова сельскагаспадарчай вытворчасці. Таму пытанням вытворчасці збожжа ў краіне ўдзяляецца асаблівая ўвага. За кошт інтэнсіфікацыі галіны ставіцца задача выйсці на ўзровень прадуктыўнасці збожжавых 29—30 ц/га, забяспечыць збор 6,7—7,0 млн. тон (у амбарнай вазе). Павелічэнне аб'ёмаў вытворчасці, павышэнне якасці і канкурэнтаздольнасці прадукцыі павінна ісці, як і ва ўсім свеце, за кошт інтэнсіфікацыі раслінаводчай галіны, росту ўраджайнасці, зніжэння затрат на вытворчасць.

Перадумовы для паспяховага выканання гэтай задачы, лічаць суразмоўцы, у большасці гаспадарак рэспублікі ёсць. Раніраваныя сарты, у тым ліку і беларускай селекцыі, пры адпаведным узроўні прымянення сродкаў інтэнсіфікацыі валодаюць патэнцыяльнымі магчымасцямі фарміравання ўраджаю ў 70—90 цэнтнераў з гектара.

У перспектыве лічыцца мэтазгодным пашырэнне пасеваў збожжавых да 53—58 працэнтаў у структуры пасеваў. Расшырыцца збожжавая група за кошт павелічэння пасеваў зернебабовых. Ёсць рэальныя магчымасці вырошчвання іх на 350—400 тыс. га, а таксама вырошчванне на 120—150 тыс. га зернефуражных культур у сумесі з зернебабовымі.

У мэтах максімальнага самазабеспячэння харчовай пшаніцай за кошт уласнай вытворчасці неабходна пашырыць плошчы яе вырошчвання да 350—400 тысяч гектараў. Дарэчы, вырошчваць яе выгадна: дзяржава гарантуе вяртанне гаспадаркам 50 працэнтаў кошту сродкаў аховы пад харчовую пшаніцу, будзе захаваны прыярытэт цэн. Да таго ж адзін працэнт ад кошту прынятай пшаніцы камітэту хлебапрадуктаў дазволена накіроўваць на прэміраванне гаспадарак.

Нельга забываць аб спрадвечнай культуры беларускай глебы — азімым жыце. Важна аптымізаваць суадносіны паміж дыплоіднымі і тэтраплоіднымі сартамі (30 і 70 працэнтаў адпаведна), а таксама прапрацаваць тэхналагічныя пытанні па магчымаму расшырэнню выкарыстання жыта і на кармавыя мэты. Асаблівай размовы патрабуюць праблемы вырошчвання піваварнага ячменю. Вытворчасць піваварнага ячменю павінна быць арганізавана ў спецыялізаваных гаспадарках, з якімі перапрацоўшчыкам трэба больш актыўна працаваць, стымуляваць вырошчванне высакаякаснай сыравіны.

Неабходна і навядзенне парадку ў захаванасці пасяўных плошчаў збожжавых. У мінулым годзе не ўбіралася па прычынах гібелі, пераводу ў кармавую групу 7 працэнтаў ад пасеянага. Паводле разлікаў, у рэспубліцы толькі па гэтай прычыне недаатрымана каля 420 тыс. тон збожжа.

Патрабуе ўдасканалення і сістэма насенняводства. І ў першую чаргу неабходна дзяржаўная фінансавая падтрымка. З-за яе разбурэння парушыліся тэрміны правядзення сартазмены і сортаабнаўлення, павялічыліся аб'ёмы высявання насення масавых рэпрадукцый. У мінулым годзе пасеяна масавымі рэпрадукцыямі 19 працэнтаў збожжавых і зернебабовых. Гэта пры тым, што толькі за кошт хуткага ўкаранення новых сартоў, замены сортаабнаўлення на сартазмену мы можам штогод дадаткова атрымліваць да 400 тыс. тон збожжа.

## Змяншэнне выкарыстання арганічных угнаенняў да 9 тон на гектар — пагроза бездэфіцытнаму балансу гумусу ў глебе

**У апошнія два гады прымяненне мінеральных угнаенняў павялічылася ў сярэднім на 25 працэнтаў. Гэта не замарудзіла адбіцца на павышэнні прадуктыўнасці ворыва і ўраджаі збожжавых культур: атрымана прыбаўка ўраджаю — 5,3—5,7 кг збожжа на 1 кг NPK, што складае 86—90 працэнтаў нарматыўнай акупнасці.**

Меры ўрадавай дапамогі (выдзяленне мэтавых крэдытаў і частковая датацыя) далі магчымасць запаволіць спад вытворчасці ў Беларусі ў параўнанні з краінамі СНД. Але вядома і тое, што ў апошні час не забяспечваецца вяртанне пажыўных рэчываў, вынесеных з ураджаем. За апошнія гады, паводле даных навукі, спусташэнне глебавых запасаў элементаў спажывання склала каля 500 тыс. тон д. р., што раўназначна страце больш чым 2 млн. тон збожжа. Вялікі дысбаланс!

Змяншэнне колькасці выкарыстоўваемых арганічных угнаенняў да 9 тон з гектара ставіць пад пагрозу падтрыманне не толькі станоўчага, але і бездэфіцытнага балансу гумусу ўворных глебах рэспублікі. У гэтых умовах узмацняецца неабходнасць расшырэння пасеваў шматгадовых бабовых траў і зернебабовых травасумесяў.

Унясенне мінеральных угнаенняў на ўзроўні 200 кг дзеючага рэчыва на гектар сельгасугоддзяў з'яўляецца адной з неабходных умоў харчовай бяспекі ў Беларусі і вытворчасці канкурэнтаздольнай прадукцыі на знешнім рынку.

Штогадовая патрэбнасць у мінеральных угнаеннях па рэспубліцы на перыяд да 2000 года вызначана ў аб'ёме 1468 тыс. тон д. р., у тым ліку 526 тыс. тон азотных, 254 — фосфарных і 688 тыс. тон калійных. Для дасягнення такіх аб'ёмаў патрэбна дзяржаўная праграма, якая прадугледжвае штогадовае павелічэнне колькасці прымяняемых мінеральных угнаенняў як мінімум на 20—30 працэнтаў. У гэтым годзе чаканае ўнясенне складзе толькі 57 працэнтаў ад перспектыўнай патрэбнасці.

Пад яравую сяўбу сёлетняга года неабходна мець 1071 тыс. тон д. р. мінеральных тукаў. За кошт пастаўкі іх з рэспубліканскіх хімпрадпрыемстваў патрэбнасць у іх будзе задаволена на 63 працэнты. Недастаючую колькасць азоту, як асноўнага ўраджаястваральнага элемента харчавання, патрабуецца завезці з-за межаў рэспублікі ў колькасці 85 тыс. тон д. р. Цяпер у гаспадарках рэспублікі ўжо ёсць 51 працэнт мінеральных тукаў, або ў 1,7 раза больш за ўзровень мінулага года. З улікам завозу з-за межаў рэспублікі, а таксама поўнай выбаркі з рэспубліканскіх хімпрадпрыемстваў мы можам мець да яравой сяўбы 800 тыс. тон д. р., што на 148 тыс. тон, або на 23 працэнты, больш факта 1997 г. Гэта дасць магчымасць дадаткова мець 1,2 млн. тон к. адз.

**Эфектыўнасць угнаенняў** знаходзіцца ў прамой залежнасці ад прымянення сродкаў аховы раслін. Адмова ад мерапрыемстваў па ахове раслін з-за адсутнасці сродкаў або энергетычных рэсурсаў пры неабходнасці яе правядзення ў маштабах рэспублікі прыводзіць да недабору штогод у сярэднім 1,5 млн. тон збожжа, 2 млн. тон бульбы, 250 тыс. тон цукровых буракоў, 750 тыс. тон кармавых караняплодаў, 30 тыс. тон ільноваланка, 42 тыс. тон насення рапсу, што складзе ў суме больш за 100 мільёнаў долараў ЗША, у той час як патрэбнасць у пестыцыдах на год складае 83 млн. долараў.

## Хочаш есці мяса і малако — накармі добра жывёлу

**Палітыка ў раслінаводчай галіне, падкрэслівалі ўдзельнікі «круглага стала», павінна фарміравацца з улікам патрэб жывёлагадоўлі, забеспячэння яе высакаякаснымі, таннымі, збалансаванымі паператраўліваемаму пратэіну і іншых пажыўных рэчывах кармамі.**

У калгасах і саўгасах рэспублікі ў мінулым годзе нарыхтавана ўсіх відаў кармоў 8,6 млн. т, у тым ліку травяных — 4,9 млн. т кармавых адзінак, што, адпаведна, на 10 і 11 працэнтаў больш пазалеташняга ўзроўню. У разліку на адну ўмоўную галаву жывёлы атрымана па 20,5 цэнтнера кармавых адзінак, або на 2,1 цэнтнера вышэй пазалеташняга паказчыка. На 13 працэнтаў больш атрымана сена, сенажу, зернефуражу і кармавых караняплодаў і на 11 працэнтаў — сіласу.

У гэтым годзе гаспадаркам рэспублікі трэба павялічыць вытворчасць усіх відаў кармоў на 11 працэнтаў у параўнанні з мінулым годам. А ў разліку на адну ўмоўную галаву жывёлы атрымаць па 23 цэнтнера кармавых адзінак і давесці забяспечанасць кармавой адзінкіператраўліваемым пратэінам да 103 грамаў, у тым ліку ва ўласных кармах — да 88 грамаў.

Для выканання намечаных аб'ёмаў вытворчасці кармавых рэсурсаў важна:

забяспечыць унясенне на травяныя ўгоддзі ў ранне-вясновы перыяд азотных угнаенняў не менш як 40 кг дзеючага рэчыва на гектар;

расшырыць плошчы вырошчвання аднапарасткавых кармавых буракоў паўцукровага тыпу, давёўшы іх удзельную вагу да 20 працэнтаў у агульнай плошчы караняплодаў;

павялічыць плошчы пад прамежкавымі культурамі да 443 тыс. га, або 8 працэнтаў да наяўнага ворыва;

расшырыць плошчы аднагадовых траў у сумесі з бабовымі кампанентамі і адначасовым пасевам аднагадовага райграсу з такім разлікам, каб у структуры яны складалі 80 працэнтаў;

павялічыць удзельную вагу бабовых і зернебабовых шматгадовых траў на раллі да 75 працэнтаў, а на сенакосах і пашах — да 50 працэнтаў;

укараніць у вытворчасць сарты ячменю кармавога напрамку і давесці яго ўдзельную вагу да 70 працэнтаў;

дабіцца поўнай перапрацоўкі і выкарыстання ўласнага зернефуражу толькі ў выглядзе камбікармоў.

Сур'ёзныя змены павінны адбыцца ў пытаннях павышэння якасці нарыхтоўваемых кармавых рэсурсаў з такім разлікам, каб першага—другога класа атрымаць сена — не меней 90 працэнтаў, сенажу — 93, сіласу 97 і травяной мукі — 99 працэнтаў.

## Сорак апошніх гадоў не было такой нізкай ураджайнасці бульбы. Ці застанецца яна для нас «другім хлебам»?

**У большасці краін свету па значнасці бульба ідзе пасля пшаніцы, рысу і кукурузы. У Расіі і Беларусі — гэта «другі хлеб», які з'яўляецца гарантам бяспекі краіны. Многім вядомы вынікі мінулага года. Яны не радуюць. Чаму? І якія захады будуць рабіцца ў гэтым годзе, каб бульба сапраўды набыла тую вагу, якая ёй адведзена гісторыяй?**

Валавы збор бульбы ў мінулым годзе склаў 6,9 млн. тон. З кожнага гектара пасеваў у грамадскім сектары сабрана па 95 цэнтнераў. Гэта на 49 цэнтнераў менш, чым у папярэднім годзе. Менш за 70 ц/га сабрана ў 18 раёнах рэспублікі. У 1432 гаспадарках, якія вырошчваюць бульбу, сабрана менш за 100 ц/га — гэта ўраджайнасць, якую павінны атрымліваць за кошт натуральнай урадлівасці глебы. У большасці гаспадарак вытворчасць бульбы аказалася стратнай.

З-за нізкай ураджайнасці, высокіх выдаткаў вытворчасці (сабекошт у 2-3 разы вышэй, чым у еўрапейскіх дзяржавах) бульба і прадукты яе перапрацоўкі аказаліся неканкурэнтаздольнымі, і як вынік — страта традыцыйных рынкаў збыту ў краінах СНД. Таму ў бліжэйшыя 2-3 гады ставіцца задача забяспечыць ураджайнасць бульбы 250—300 ц/га, знізіць сабекошт яе вытворчасці да 40—50 дол. ЗША за тону. У гэтым плане сур'ёзнай падмогай будзе рэалізацыя ў рамках Саюза Расіі і Беларусі сумеснай падпраграмы «Павышэнне эфектыўнасці вытворчасці бульбы і бульбапрадуктаў на 1998—2000 гг.». Вырашэнне прадугледжаных падпраграмай задач дазволіць павысіць да 2000 г. рэнтабельнасць бульбы ў 1,5 раза, знізіць працаёмкасць на 20—30 працэнтаў, павялічыць аб'ёмы вытворчасці прадуктаў харчавання з бульбы ў 2-3 разы.

Спецыялісты лічаць, што асаблівую ўвагу трэба ўдзяляць удасканаленню сістэмы першаснага і прамысловага насенняводства: у бліжэйшыя год-два перайсці на вырошчванне ў вытворчых пасевах бульбы не ніжэй 4-й рэпрадукцыі (навуковыя даследаванні паказваюць, што выкарыстанне насення 5—6-й рэпрадукцый — 25 працэнтаў плошчаў у мінулым годзе было засаджана менавіта такой бульбай — зніжае ўраджайнасць на 40 цэнтнераў).

Працягнецца работа па спецыялізацыі і канцэнтрацыі пасеваў бульбы са стварэннем сыравінных зон для яе прамперапрацоўкі, ставіцца задача, каб у кожнай гаспадарцы вырошчвалася не менш 3-4 сартоў бульбы, а ўдзельная вага ранніх і сярэдняранніх сартоў, як мінімум да 30 працэнтаў ад пасяўной плошчы. Важна не дапусціць далейшага змяншэння пасяўных плошчаў, павялічыць іх у гэтым годзе ў два разы: каб у разліку на адну гаспадарку высявалася не менш за 100 гектараў бульбы.

## Пры леташніх закупачных цэнах лён мог быць рэнтабельным пры ўраджайнасці 6 цэнтнераў валакна з гектара

**Цяжкім выдаўся мінулы год для льнаводаў. Яны падышлі да такой рысы, што адступаць далей няма куды. Гэту галіну трэба адраджаць.**

Пасяўныя плошчы лёну ў сельгаспрадпрыемствах склалі толькі 72,1 тыс. гектараў, або 1,3 працэнта да ворыва. У параўнанні з папярэднім годам яны скараціліся яшчэ на 6 тыс. гектараў, а да ўзроўню 1987 года — амаль у 3 разы. Нават у 1945 годзе лёнам засявалася больш за 91,4 тыс. гектараў ворыва.

Прычыны такога рэзкага скарачэння пасеваў гэтай культуры вядомыя. Перш за ўсё, неадэкватнае павелічэнне закупачных цэн на прадукцыю лёну ў адносінах да росту цэн на прадукцыю іншых культур. Да прыкладу, цана адной тоны збожжа аказалася ў 1,5 раза вышэй, чым тона трасты нумарам 1, у той час як да 1990 года гэтыя суадносіны былі 2 да 1 на карысць ільну. У выніку лён быў неканкурэнтаздольным.

У мінулым годзе было атрымана ўсяго 3,5 цэнтнера валакна з гектара супраць 6,3 цэнтнера пазалетась. У адной трэці льнасеючых гаспадарак сабрана менш за 2 цэнтнеры валакна з гектара, яшчэ ў палове гаспадарак атрымана яго ад 2 да 6 цэнтнераў. Рэнтабельным жа лён пры закупачных цэнах мінулага года становіцца толькі пры ўраджайнасці больш за 6 цэнтнераў валакна з гектара.

Ад усіх гаспадарак на нарыхтоўчыя пункты паступіла толькі 25,9 тыс. тон валакна (у пераліку) супраць 48,6 тыс. тон у 1996 годзе, або 55 працэнтаў ад дзяржзаказу. Ні адна вобласць не выканала дзяржзаказ па пастаўках ільносыравіны.

З-за недахвату сыравіны значна скараціўся выпуск ільновалакна. У мінулым годзе льноперапрацоўчай прамысловасцю яго выпрацавана на 4,4 тыс. тон менш. Затраты на перапрацоўку пераўвільготненай ільносыравіны ўзраслі ў 2-3 разы, у асноўным за кошт павелічэння спажывання электраэнергіі і паліва на сушку.

Як вынік, фінансава-эканамічнае становішча льнозаводаў крытычнае. Паводле папярэдніх даных, страты іх складуць каля 25 млрд. рублёў, 60 працэнтаў прадпрыемстваў працавалі нерэнтабельна. Большасць ільнозаводаў неплацежаздольныя і закрэдытаваныя. Іх запазычанасць складае 382 млрд. рублёў пры дэбіторскай — 84 млрд. Доўг банкам на пачатак гэтага года перавысіў 165 млрд. рублёў, з іх 130 млрд. — крэдыты апошніх трох гадоў.

Для павышэння рэнтабельнасці льнозаводаў акрамя вырашэння фінансавых пытанняў неабходна поўная загрузка магутнасцяў льносыравінай, строгі рэжым эканоміі сыравіны, цяпла, электраэнергіі.

Улічваючы, што льновалакно з'яўляецца адной з важнейшых экспартных пазіцый АПК і стратэгічнай культурай імпартазамяшчэння бавоўны ў рэспубліцы (магчымасць яго выкарыстання — да 70 працэнтаў у прадзенні ў сумесі са штучнымі валокнамі), развіццю гэтай галіны ўдзяляецца асаблівая ўвага. Неабходна, лічаць спецыялісты, пабудаваць работу так, каб аб'ёмы вытворчасці і нарыхтовак ільновалакна давесці да 50 тыс. тон, з іх каля паловы накіраваць на экспарт: атрымаць ураджайнасць не менш як 8—10 цэнтнераў з гектара. Патрэбна больш мэтанакіраваная работа па спецыялізацыі льнасеючых гаспадарак, зніжэнню затрат, укараненню рулоннай тэхналогіі і асобнай уборкі лёну, наладжванню вытворчасці катанізаванага валакна. Вядома, што ўстаноўлена высокая цана, лён вяртаецца ў ранг эканамічна эфектыўных культур, таму займацца льнасеяннем будзе выгадна. Для развіцця льнаводства прапрацоўваюцца магчымасці стварэння сумеснай з Расійскай Федэрацыяй праграмы па льну.



**Птушкагадоўля ў краіне дасягнула даволі высокага ўзроўню. Інтэнсіўныя тэхналогіі, глыбокая перапрацоўка сыравіны і арганізацыя фірменнага гандлю дазволілі напоўніць унутраны рынак прадукцыяй высокай якасці, якая, здаецца, больш-менш адпавядае плацежаздольнаму попыту насельніцтва. Пра гэта — гутарка з генеральным дырэктарам рэспубліканскага аб'яднання «Белптушкапрам» Кузьмой Дзягілевым.**

# У «Белптушкапраме» ўзляцелі сапраўды высока: тут атрымалі больш за 2 мільярды яек, што роўна паказчыку 1990 года



**— Кузьма Кузьміч, аказваецца, і яйка можа курыцу вучыць, ці, правільней у дадзеным выпадку сказаць: менавіта такая колькасць яек прымушае вас круціцца, знаходзіць новыя ідэі і рэалізоўваць іх?**

— Сапраўды, яйка нас многаму вучыць і ў многім садзейнічае развіццю нашых прадпрыемстваў. У мінулым годзе іх атрымана 2 мільярды 87 мільёнаў штук, што складае 105 працэнтаў да ўзроўню пазалеташняга паказчыка. Ёсць у нас і рост сярэднясутачных прываг: калі ў дзевяностым годзе яны былі 30 грамаў, то цяпер складаюць 32,5 грама. Значна зменшаны і затраты кармоў: у дзевяностым іх расходавана 3,51 кармавой адзінкі на цэнтнер прывагі, а цяпер значна менш — 2,44 кармавой адзінкі. На вытворчасць тысячы яек у нас расходуецца 1,78 кармавой адзінкі, што таксама няблага. Гэта дазволіла зэканоміць летась 10,7 тысячы тон камбікорму на агульную суму больш як 80 мільярдаў рублёў.

**— За кошт чаго дасягнуты такія вынікі?**

— Перш за ўсё, за кошт граматнай работы спецыялістаў, якія імкнуцца збалансаваць кармы па абменнай энергіі, амінакіслотах і мікраэлементах. А прымяненне энзімаў дазваляе павялічыць акупнасць кармоў на 7 працэнтаў. Без удасканалення тэхналагічных працэсаў, лепшага выкарыстання кармавых рэсурсаў нельга ў нашай галіне дасягнуць добрых вынікаў. Акрамя яек і птушынага мяса, якога рэалізавана летась 73,0 тысячы тон, на прадпрыемстве аб'яднання надоена 21,5 тысячы тон малака.

**— ?**

— У аб'яднанні маецца 7 тысяч кароў, столькі ж свіней. Гаспадаркі маюць 56 тысяч гектараў сельгасугоддзяў, вырошчваюць збожжавыя на корм: некаторыя з іх забяспечваюць сябе да 30 працэнтаў збожжавай часткай для вытворчасці камбікармоў. Дарэчы, з гэтай мэтай тры гады таму ў аб'яднанне перададзена сем камбікормавых заводаў. Праца ў адной звязцы, на адзін вынік, як паказала практыка, дае станоўчы вынік, дазваляе зніжаць сабекошт прадукцыі. Як вядома, добрае ўгнаенне для палёў — курыны памёт, прымяненне якога дае значную прыбаўку да ўраджаю. Напрыклад, у калгасе «Зара» Магілёўскага раёна атрымана па 53 цэнтнеры збожжавых з гектара. Але асноўнае для нас — вытворчасць яек і птушынага мяса. Хоць, лічу, такая вось шырокая спецыялізацыя аб'яднання дазволіла нам захаваць птушкагадоўчую галіну, а цяпер і нарошчваць вытворчасць прадукцыі.

**— Вядома, што ў вас шмат фірменных магазінаў, якія карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў пакупнікоў. Рэдка зараз можна бачыць чэргі ў крамах, а там заўсёды людна...**

— Па-першае, прадукцыя ў іх прадаецца крыху танней, чым у іншых гандлёвых кропках. Па-другое, мы займаемся таксама перапрацоўкай птушынага мяса, таму выбар у пакупнікоў вельмі шырокі. Зразумела, што мы зацікаўленыя ў іх. Мяркуйце самі: 422 фірменныя гандлёвыя кропкі, якія ёсць у аб'яднанні, даюць аб'ём тавараабароту ў 2,4 трыльёна рублёў. Сутнасць гандлю, па-майму разуменню, адна: сёння тавар — заўтра грошы. Важна павялічваць колькасць абаротаў гэтых грошай, што не дазваляе зрабіць наш дзяржаўны гандаль: праплата нам зацягваецца на паўмесяца, а то і месяц. А нам грошы патрэбны кожны дзень, таму што птушку неабходна карміць, і карміць добра. Паспрабуйце збалансаваць кармы на 20 мільёнаў птушак! Гэта сянаж, сілас ці сена ўжо гатовыя да ўжывання, а ў нас тэхналогія вельмі складаная: крыху адышоў ад яе — і няма станоўчага выніку. Вось чаму, натуральна, і заняліся ў свой час перапрацоўкай птушкі і яек, а таксама рэалізацыяй гатовай прадукцыі. Больш таго, у нас выпякаецца хлеб, выпрабляюцца макарона, ікра бялковая, пятнаццаць гатункаў каўбасы, маянэзу, пельмені, вялікая колькасць паўфабрыкатаў. Вядома ж, вельмі важна ажыццявіць глыбокую перапрацоўку прадукцыі, тады і даход будзе большы. Гэта і ёсць канцэпцыя нашай дзейнасці, якая дазваляе мець станоўчы вынік.

**— Дарэчы, як выглядае наша краіна ў параўнанні з іншымі дзяржавамі?**

— У Беларусі на аднаго жыхара прыпадае 7—7,2 кілаграма птушынага мяса, у Германіі — 14—15 кілаграмаў, у ЗША — да 46 кілаграмаў. Больш таго, яны амаль не ўжываюць вельмі папулярныя ў нас кумпячкі — «ножкі Буша», як іх назвалі, а аддаюць перавагу курынай грудцы — гэта далікатэснае бясшкоднае мяса.

У Расіі сітуацыя складаная: сёння працуюць усяго чвэрць птушкафабрык. Таму ў мінулым годзе вытворчасць птушынага мяса там склала ўсяго 400 тысяч тон замест 1 мільёна 200 тысяч тон у 1990 годзе. Сітуацыю ў нейкай меры палепшылі 900 тысяч тон тых жа кумпячкоў, што былі пастаўлены ў Расію на працягу мінулага года.

Вытворчасць мясных бройлераў ва Украіне летась склала ўсяго 8 тысяч тон. І гэта ў краіне, дзе ёсць свае збожжавыя, кукуруза, пшаніца, сланечнікавы шрот — амаль усё тое, што неабходна для развіцця птушкагадоўлі. Мы ж многае з гэтага набываем за межамі Беларусі.

**— Што ж, застаецца «Белптушкапраму» захапіць і рынкі краін СНД? Наколькі гэта рэальна?**

— Сваю прадукцыю мы адпраўляем у Расію, але там пайшлі ўжо значныя заходнія валютныя паступленні ў птушкагадоўлю. Тым не менш, рэспубліканскую праграму развіцця птушкагадоўлі да 2002 года мы распрацавалі. Для яе рэалізацыі, можна сказаць, стартавая пляцоўка адпрацавана, але і шмат яшчэ трэба зрабіць.

Па-першае, вырашыць праблему бялку для птушак. Толькі ў гэтым годзе штомесячная патрэбнасць шроту — пяць тысяч тон, а потым трэба будзе 8 і 10 тысяч тон. Як вядома, свайго шроту ў рэспубліцы няма, таму, акрамя яго закупкі за межамі краіны, будзем вырошчваць гарох, лубін, якія могуць крыху кампенсаваць недахват бялку.

Па-другое, мы сур'ёзна ўзяліся за тэхнічнае пераабсталяванне птушкафабрык. Ужо ёсць і першыя станоўчыя вынікі.

Па-трэцяе, неабходна пераабсталяваць камбікормавыя заводы, на якіх можна было б гатаваць камбікорм вышэйшага гатунку пад гарантаваныя сутачныя прывагі ў 40 грамаў.

Па-чацвёртае, важна наладзіць добрую ветэрынарную службу, без якой няма птушкагадоўлі. Да апошняга часу, напрыклад, на набыццё вакцын штогод выдаткоўвалася больш 1 мільёна долараў. Нядаўна мы ўжо асвоілі тры віды вакцын.

**— Дарэчы, кажуць, што і вы сярод іх аўтараў?**

— Я з'яўляюся аўтарам адной з трох. Цяпер нашы спецыялісты распрацоўваюць яшчэ тры. Калі ўсё будзе добра, праблема вакцыны будзе знятая.

**— Атрымліваецца, што дапамога, якую просяць цяпер многія, вам і непатрэбна?**

— Чаму ж? Каб правесці рэканструкцыю нашых вытворчасцяў, патрэбны вялікія грошы, якіх, як вядома, у нас няма. Але, мяркую, «Белптушкапрам» даказаў сваю жыццяздольнасць і перспектыўнасць, таму дадаткова ўкладзеныя дзяржавай грошы вернуцца ёй вельмі хутка: птушкагадоўля — адна з самых хуткаспелых галін эканомікі. Патрабуюць вырашэння праблемы канвертацыі валюты, зніжэння падатковага ціску.

**— Апошнім часам многія вяскоўцы ды і гарадскія дачнікі займаюцца вырошчваннем куранят, гусей, качак...**

— Сапраўды, калі раней маглі вырошчваць парсючка, цяля, то цяпер два старыя чалавекі не могуць фізічна і матэрыяльна асіліць гэта. Таму перавагу аддаюць птушцы. Мы гэта добра адчуваем. З набыццём куранят, мяркую, праблем не павінна быць. Нечаканым для нас з'явіўся вялікі попыт на гусей і качак. Вытворчасць маладняку гэтых птушак ужо пашыраем — трэба ж падтрымаць людзей.

*Як вядома, птушкагадоўля ва ўсім свеце развіваецца хуткімі тэмпамі, а мяса птушкі з'яўляецца адной з асноўных параўнальна недарагіх крыніц бялковых прадуктаў харчавання. Садзейнічае гэтаму эканамічная эфектыўнасць галіны, якая абумоўлена хуткім ростам птушкі і нізкімі затратамі кармоў на вытворчасць прадукцыі. Напрыклад, на вытворчасць 1 кг мяса бройлераў затрачваецца кармоў у 1,5 і 2,5 раза менш, чым на такую ж колькасць свініны і ялавічыны. Вось чаму пры развіцці птушкагадоўлі ў Беларусі ўлічваюцца тэндэнцыі яе развіцця ў свеце, набытага патэнцыялу і вопыту ў рэспубліцы.*

*Можна сказаць, што ўсё гэта выкарыстоўваецца сапраўды эфектыўна: у мінулым годзе, напрыклад, у грамадскіх гаспадарках рэспублікі атрымана 2,1 млрд. штук яек і 76 тыс. тон мяса ў жывой вазе, у параўнанні з мінулым годам атрымана больш яек на 4 і мяса — на 16 працэнтаў. Тым не менш, да гэтага часу, калі па вытворчасці і спажыванню на душу насельніцтва яек Беларусь знаходзіцца на ўзроўні развітых краін — 300 і больш яек у год на аднаго жыхара, то па вытворчасці і спажыванню мяса птушкі у параўнанні з краінамі Заходняй Еўропы — у 2-3 разы менш.*

*Вядома, што асноўным вытворцам прадукцыі птушкагадоўлі ў краіне з'яўляецца рэспубліканскае аб'яднанне «Белптушкапрам», у састаў якога ўваходзяць 60 птушкагадоўчых гаспадарак, 7 камбікормавых прадпрыемстваў, пер'епуховая фабрыка, Лепельскі доследнарамонтны механічны завод, ветбаклабараторыя па барацьбе з хваробамі птушак і цэх вытворчасці вакцын. Усяго налічваецца 1650 капітальных птушнікаў.*

*Паводле падлікаў спецыялістаў, з улікам калгасных, і саўгасных птушкафермаў ёсць усе магчымасці для таго, каб больш чым падвоіць вырошчванне птушак на мяса і ў 1,5 раза павялічыць вытворчасць яек. Для гэтага толькі трэба правесці рэканструкцыю і тэхнічнае пераўзбраенне птушнікаў, дзе 65 працэнтаў абсталявання са скончаным тэрмінам амартызацыі.*

*Не лепшае і фінансавае становішча птушкагадоўчых прадпрыемстваў. Напрыклад, суадносіны цэн на птушкагадоўчую прадукцыю і рэсурсы для яе вытворчасці мяняюцца не на яе карысць. Калі ў мінулым годзе цэны на камбікармы выраслі на 65 працэнтаў, электраэнергію і газ — у 2 разы, на яйкі — на 25 працэнтаў, мяса птушкі — на 28 працэнтаў. З-за немагчымасці ўтрымання цэн на камбікармы і энерганосьбіты, удзельная вага якіх у структуры сабекошту яек і мяса птушкі дасягае 80 і больш працэнтаў, зніжаецца ўзровень рэнтабельнасці большасці птушкагадоўчых прадпрыемстваў, павялічваецца колькасць стратных. Да таго ж, крэдыторская запазычанасць птушкагадоўчых прадпрыемстваў на 1 студзеня дасягнула 700 млрд. рублёў, што складае прыкладна суму месячнай выручкі ад рэалізацыі прадукцыі птушкагадоўлі. Менавіта з-за адсутнасці ўласных сродкаў птушкагадоўчыя гаспадаркі не могуць правесці перааснашчэнне вытворчых памяшканняў, забяспечыць паўсюднае ўкараненне інтэнсіўных тэхналогій, а значыць павысіць сваю рэнтабельнасць і канкурэнтаздольнасць.*

*Вось чаму праграма па развіццю птушкагадоўлі патрабуе комплексу мераў, накіраваных на фінансавую падтрымку птушкагаспадарак, тэхнічнае пераўзбраенне і павышэнне эфектыўнасці вытворчасці.*

*АСНОЎНЫМІ НАПРАМКАМІ ІНТЭНСІФІКАЦЫІ БУДУЦЬ*

***у мясной птушкагадоўлі:***

*павелічэнне сярэднясутачных прываг бройлераў да 40 і больш грамаў; скарачэнне тэрмінаў вырошчвання да 42 дзён; павелічэнне колькасці абаротаў птушкі ў птушніках; зніжэнне затрат кармоў да 2,0 кг на 1 кг прывагі;*

***у вытворчасці яек:** павышэнне яйцаноскасці кур-нясушак да 280—290 яек у год; зніжэнне затрат кармоў да 1,5 кг на дзесятак яек.*

*Укараненне інтэнсіўных тэхналогій будзе ажыццяўляцца шляхам збалансаванага кармлення птушкі з прымяненнем прэміксаў, энзімаў і іншых біялагічна актыўных прэпаратаў; прымянення эфектыўных схем ветэрынарных апрацовак; выкарыстання высокапрадуктыўных кросаў птушкі; устаноўкі высокапрадукцыйнага абсталявання, якое павялічвае шчыльнасць пасадкі птушкі на 1 кв. м плошчы падлогі.*

*Усё гэта, як лічаць спецыялісты, дасць магчымасць давесці вытворчасць мяса птушкі на аднаго жыхара рэспублікі да 15 кг, павялічыўшы да 2002 года валавую яго вытворчасць да 210 тыс. тон, у грамадскіх гаспадарках — да 180 тыс. тон, у тым ліку ў гаспадарках Белптушкапрама — да 140 тыс. тон.*

*Валавую вытворчасць яек усіх відаў птушкі плануецца павялічыць да 2002 года да 4500 млн. штук, або па 440 штук на аднаго жыхара, у тым ліку ў грамадскіх гаспадарках — да 3000 млн. штук, у гаспадарках РТ «Белптушкапрам» — да 2900 млн. штук.*

*Якім чынам плануецца дасягнуць такіх вынікаў? Вядома ж, у першую чаргу за кошт павелічэння пагалоўя. Але асновай прыросту прадукцыі павінна стаць павышэнне прадуктыўнасці птушкі і зніжэнне затрат кармоў на адзінку прадукцыі.*

*Плануемыя аб'ёмы вытворчасці яек і мяса птушкі дадуць магчымасць цалкам забяспечыць унутраную патрэбнасць насельніцтва ў гэтых відах прадуктаў, а таксама павялічыць іх пастаўку на экспарт, збалансаваўшы патрэбнасці ў валютных сродках на развіццё птушкагадоўлі і выручку ад экспарту прадукцыі.*





А гэта галоўная прадукцыя «Белптушкапрама». У фірменных магазінах заўсёды шырокі яе выбар.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

## БЕЛСЕЛЬГАСХІМІЯ

*Рамуальд Навіцкі, генеральны дырэктар «Белсельгасхіміі»*

# «Наша галоўная задача — павышэнне ўрадлівасці глебы»

**Падзенне многіх вытворчых паказчыкаў у раслінаводстве, асабліва ў перадапошнія да 1995-га гады, пераканаў у наступным. Зняважлівае абыходжанне з зямлёю вяртаецца да нас бумерангам. І сёння, імкнучыся аддаць зямельцы патрэбнае ёй зараз, варта мець на ўвазе, што і ранейшыя пралікі, недахопы патрабуюць выпраўлення. Ці не найгалоўнейшы клопат — урадлівасць глебы. У значнай ступені вырашэнне ўсяго спектру пытанняў, звязаных з гэтай праблемай, — на плячах рэспубліканскага вытворчага аб'яднання па аграхімічнаму абслугоўванню сельскай гаспадаркі «Белсельгасхімія». Чым жа канкрэтна зараз займаецца гэтая структура?**

— Як і ва ўсіх галінах АПК, клопатаў, складанасцяў у нас больш чым дастаткова. Большасць з іх самым цесным чынам звязана з агульнаэканамічнымі праблемамі ў краіне. Што, якія першачарговыя мерапрыемствы мы зараз праводзім? У аб'яднанні ствараецца служба па вытворча-тэхнічнаму абслугоўванню сельскай гаспадаркі, на якую ўскладаецца кантроль за ўкараненнем новых тэхналогій і якасцю праводзімых работ. У сувязі з гранічным зносам тэхнічных сродкаў, што знаходзяцца на балансе райсельгасхімій, на прадпрыемствах і заводах Рэспублікі Беларусь арганізавана вытворчасць і рамонт вузлоў і агрэгатаў для спецыяльнай тэхнікі (кузавоў да МХА-7, кампрэсараў да абсталявання, якое выкарыстоўваецца на вапнаванні кіслай глебы, апырсквальнікаў і г. д.), а таксама расшыраецца вытворчая база па вырабу матэрыялаў, што выкарыстоўваюцца пры рамонце тэхнікі (вытворчасць электродаў, метызных вырабаў).

У шэрагу райсельгасхімій ствараюцца атрады па нарыхтоўцы кармоў і ўборцы збожжавых культур (зараз ужо ёсць 51 атрад).

Праводзіцца таксама работа па далучэнню да асобных райсельгасхімій эканамічна слабых і стратных калгасаў і саўгасаў (калі браць па стану на 1 снежня 1997 г., то на балансе райсельгасхімій 22 калгасы).

Распрацоўваюцца і мерапрыемствы па аднаўленню баз хімізацыі раённых аб'яднанняў у мэтах паляпшэння захаванасці мінеральных угнаенняў і сродкаў аховы раслін.

Але, безумоўна, вырашэнне ўсіх гэтых задач самым цесным чынам звязана з істотнай падтрымкай нашай сферы дзейнасці з боку ўрада. Ці не ў першую чаргу наспела патрэба вырашыць пытанне штогадовага выдзялення бюджэтных сродкаў у памеры 15 млрд. рублёў, пачынаючы ўжо з 1998 года, на закупку вузлоў і агрэгатаў для рамонту тэхнікі па вапнаванню кіслай глебы. Таксама павелічэнне вытворчасці арганічных угнаенняў патрабуе тэрміновага вырашэння пытання бюджэтнага фінансавання, пачынаючы хаця б з 1999 года, здабычы і вывазу з месцаў нарыхтоўкі торфу і сапрапелю. Сённяшняе нармальнае існаванне і развіццё райсельгасхімій немагчыма без стварэння для іх сістэмы льготнага падаткаабкладання. Таксама неабходна, з нашага пункту гледжання, уключыць райсельгасхіміі ў спіс арганізацый, якія атрымліваюць энерганосьбіты па тых жа тарыфах, што і сельгасвытворцы.

## БЕЛАГРАПРАМЭНЕРГА

*Пётр Харкевіч, генеральны дырэктар РМП «Белаграпрамэнерга»*

# Укараненне энергазберагаючых тэхналогій эканоміць штогод сотні мільярдаў рублёў

**Выконваючы намечаныя мерапрыемствы імпартазамяшчэння, прадпрыемствы і аб'яднанні аграпрамэнерга ў поўным аб'ёме забяспечваюць патрэбнасці калгасаў і саўгасаў у кабельна-праваднiковай прадукцыі напружаннем да 1000 В, свяцільніках прамысловага прызначэння для ўнутранага і знешняга асвятлення, цеплаэнерганагравальніках рознага прызначэння, шафах уліку электрычнай энергіі, скрынках сілавых і іншых відах абсталявання і вырабаў. Больш як 60 працэнтаў выкарыстоўваемых пры выкананні работ матэрыяльных рэсурсаў з'яўляюцца вырабамі ўласнай вытворчасці. Толькі за адзін 1997 г. выраблена прамысловай прадукцыі на 276,4 млрд. руб.**

**ЗДАБЫТКІ**

Асартымент выраблямай прадукцыі пастаянна пашыраецца. Разам з Чэхіяй вядуцца работы па арганізацыі вытворчасці эканамічных лямпаў, першыя дзве партыі колькасцю 6 тыс. шт. ужо атрыманы і ўкараняюцца на сельскагаспадарчых аб'ектах, асвоена вытворчасць эканамічных свяцільнікаў абагрэву маладняку жывёлы, свяцільнікаў з глыбокім выпрамяненьваннем, агнявых эканамічных катлоў рознай магутнасці, двухтарыфных прыбораў уліку электраэнергіі, герметычных выключальнікаў і размеркавальных каробак, электраўстановачных вырабаў. Зманціраваны і ўведзены ў эксплуатацыю валачыльны стан для прафілявання алюмініевай і меднай катанкі ў Гомельскім аблаграпрамэнерга.

Пры садзейнічанні Камітэта па энергазберажэнню вядзецца работа па стварэнню дэманстрацыйных зон у калгасах і саўгасах рэспублікі, на базе якіх укараняюцца новае энергазберагальнае абсталяванне і тэхналогіі.

Праводзімая тэхніка-эканамічная, цэнавая палітыка дазволіла завяршыць 1997 г. з агульнай рэнтабельнасцю каля 8 працэнтаў.

Колькасць стратных прадпрыемстваў скарацілася са 116 да 4 райаграпрамэнерга (нагадаем: у 1996 годзе іх было 9).

**ПРАБЛЕМЫ**

І ўсё ж праблема рэнтабельнасці застаецца вострай. Яе ўзровень сёння не дазваляе прыдпрыемствам не толькі аднаўляць асноўныя фонды, але і весці нармальную вытворчасць, не гаворачы аб расшыранай. Вырашэнне праблемы патрабуе правядзення разумнай тэхніка-эканамічнай і цэнавай палітыкі. Са стратнымі прадпрыемствамі трэба неадкладна разабрацца, прыняць рашучыя меры па аднаўленню нармальнай жыццядзейнасці.

Сёння ў аграпрамысловым комплексе рэспублікі знаходзіцца ў эксплуатацыі 1,7 млн. шт. электрарухавікоў рознай магутнасці, каля мільёна электратэрмічных установак, больш як 4 млн. свяцільнікаў, дзесяткі тысяч кіламетраў размеркавальных сетак, асвятляльных і сілавых праводак, вялікая колькасць пускарэгулюючай апаратуры.

Удзельная вага электратэхнічнага і цеплатэхнічнага абсталявання ў агульным аб'ёме магутнасцяў АПК складае 25 працэнтаў. Больш як 50 працэнтаў электра- і цеплатэхнічных установак цяпер эксплуатуюцца па-за амартызацыйнымі тэрмінамі.

У цэлым па сельскай гаспадарцы адзначаецца высокі ўзровень выхаду са строю электраабсталявання. Толькі па элетрарухавіках ён складае 15 і больш працэнтаў ад ліку ўстаноўленых. На замену абсталявання, якое заўчасна выйшла са строю, гаспадарка нярэдка не мае сродкаў. У жывёлагадоўчых і іншых вытворчых памяшканнях з-за фізічнага старэння электраправодак разбураецца ізаляцыя, у выніку чаго паяўляюцца аголеныя ўчасткі, пры эксплуатацыі самі па сабе абрываюцца токаправоды.

Нездавальняючая абстаноўка складваецца з эксплуатацыяй цеплатэхнічнага і кацельнага абсталявання. У шэрагу гаспадарак на эксплуатуемых катлах устаноўлены неправераныя манометры, прыборы кантролю КІП і аўтаматыкі, маюць месца выпадкі эксплуатацыі катлоў без засцерагальных клапанаў. Практычна не праводзіцца хімічная ачыстка ўнутраных і вонкавых паверхняў катлоў ад накіпу і нагару. У большасці кацельняў адсутнічаюць інструкцыі па бяспечнай эксплуатацыі катлоў, неабходныя сродкі пажаратушэння.

Пачынаючы з 1993 года практычна спынены работы па развіццю і падтрыманню ў тэхнічна спраўным стане сельскіх размеркавальных сетак, забеспячэнню надзейным і якасным электразабеспячэннем сельскіх спажыўцоў.

Увод у дзеянне новых і рэканструкцыя існуючых ТП і ЛЭП 0,4—10 кВ цяпер складае да ўзроўню 1990 г. 62 працэнты, а да ўзроўню 1980 г. — 47 працэнтаў.

Забяспечанасць калгасаў і саўгасаў аварыйнымі крыніцамі электразабеспячэння складае толькі 15 працэнтаў ад патрэбнасці, што прыводзіць пры планавых і няпланавых адключэннях да значных страт сельгаспрадукцыі.

Існуючае падатковае заканадаўства прыраўноўвае прадпрыемствы, якія абслугоўваюць калгасы і саўгасы, да прамысловых. Тарыфы на электраэнергію, газ, цяпло для іх устаноўлены на ўзроўні прамысловых прадпрыемстваў. Гэта датычыцца і падатковай палітыкі. Такая тарыфная і падатковая палітыка ўплывае на павелічэнне кошту паслуг, аказваемых калгасам і саўгасам, уплывае на сабекошт прадукцыі





**Ва ўмовах эканамічнага крызісу калектыў абласнога аб'яднання «Гомельаграпрамэнерга» упэўнена нарошчвае тэмпы. Тут шмат увагі ўдзяляецца менавіта пытанням укаранення энергазберагаючых тэхналогій.**
**На здымках: у цэху па вытворчасці кабелю.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

## «БЕЛАГРАМАШ»

*Аляксандр Грыневіч, віцэ-прэзідэнт канцэрна «Белаграмаш»*

# «Мы падышлі да вырабу і рамонту тэхнікі больш падрыхтаванымі»

**З надыходам вясны ў канцэрна «Белаграмаш» і прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у яго састаў, прыбавілася клопату. Мы павінны забяспечыць калгасы і саўгасы выраблямай сельскагаспадарчай тэхнікай і запаснымі часткамі пад яе рамонт, паставіць з рамонту вузлы і агрэгаты да аўтамабіляў і трактароў, якія падлягаюць аднаўленню.**

На мой погляд, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага году, мы падышлі да вырабу і рамонту тэхнікі больш падрыхтаванымі. Створаны пэўны запас матэрыяльных рэсурсаў і выробленай прадукцыі. Усё гэта гарантуе выкананне намечаных намі планаў.

Да сяўбы мы рэалізуем калгасам і саўгасам прадукцыі на 350 млрд. рублёў. Гэта — плугі для апрацоўкі камяністых глебаў трох- і сямікорпусныя, агрэгаты для перадпасяўной апрацоўкі глебы трох тыпаў, дыскавыя і зубавыя бароны, універсальныя дызельныя культыватары, сеялкі пнеўматычныя для сяўбы збожжавых, зернебабовых культур, буракоў і кукурузы, культыватары. Адрамантуем 2325 трактара-камбайнавых і 4825 аўтамабільных рухавікоў, 500 кробак передач да трактароў «Т-150К». Выпусцім 397 назваў запасных частак да сельскагаспадарчых машын на 49 млрд. рублёў, 244 назвы запчастак да аўтатрактарнай тэхнікі на суму 34 млрд. рублёў. Паралельна праводзім работу па вырабу і рамонту вузлоў да кормаўборачнай тэхнікі.

Улічваючы цяжкае фінансавае становішча калгасаў і саўгасаў, па рашэнню Мінсельгасхарча рэспублікі мы рэалізавалі ў студзені 1167 адзінак адрамантаваных рухавікоў і каробак перадач да энерганасычаных трактароў на суму 33,9 млрд. рублёў без папярэдняй аплаты за выкананую работу, заключыўшы з гаспадаркамі дагаворы з адтэрміноўкай плацяжоў. Аб'ёмы выконваемых работ па рамонту трактара-камбайнавых рухавікоў у студзені гэтага года ўзраслі ў 2 разы ў параўнанні са студзенем 1997 года. Асабліва плённа працуе ААТ «Магілёўскі РЗ», якім са снежня мінулага года па 13 лютага г.г. рэалізавана спажыўцам 1181 трактара-камбайнавы рухавік, у тым ліку да трактароў «Т-150К» — 829 шт.

Вялікую работу праводзім па стварэнню магутнасцяў пад выпуск дэталяў, неабходных райаграпрамтэхнікам, калгасам і саўгасам пры выкананні бягучых рамонтаў і тэхнічнага абслугоўвання трактароў і аўтамабіляў.

Так, ААТ Полацкі завод «Праммашрамонт» выробляе камплекты дэталяў (каленвал, поршневая група, муфта счаплення і інш.), якія неабходны пры рамонце рухавікоў ЗМЗ-53. Заводам асвоена вытворчасць поршняў і поршневых пальцаў, глушыцеляў да аўтамабіляў сямейства «ГАЗ-53».

Практычна ўсе тыпы шасцерняў да каробак перадач «Т-150К» асвоены на Прыямінскім рамонтным заводзе, а таксама фільтра да рухавікоў СМД-62.

ААТ «Оршааграпраммаш» выпускае ўсе неабходныя дэталі пад рамонт каробак перадач аўтамабіляў «ГАЗ-51» і «ГАЗ-53», а таксама дэталі да трактароў «Т-150К», якія часта выходзяць са строю.

ААТ «Кобрынскі завод «Гідрамаш» асвоіў не толькі выраб усіх тыпаў гідрацыліндраў да трактароў, аўтамабіляў, экскаватараў і сельгасмашын, але і выконвае іх рамонт па заданнях заказчыкаў.

Наперадзе цяжкая работа па выкананню дзяржаўнага задання, звязанага з вытворчасцю сельскагаспадарчай тэхнікі пад лізінг. Неабходна вырабіць 720 сеялак тыпу СПУ, 480 агрэгатаў АКШ, 50 дыскавых барон, 50 агрэгатаў АЧУ-2,8 і 20 жатак.

Выконваючы намечаныя планы, мы не забываем аб павышэнні тэхнічнага ўзроўню і якасці выпускаемай прадукцыі. Разам з БелНДІМСХ праводзіцца ўдасканаленне канструкцыі прылад для перадпасяўной апрацоўкі глебы. З інстытутамі Акадэміі навук (надзейнасці, зваркі, неарганічнай хіміі, парашковай металургіі) адпрацоўваецца тэхналогія аднаўлення базавых і асноўных дэталяў рухавікоў з мэтай павышэння іх надзейнасці і даўгавечнасці. Пачалі тэхнічнае пераўзбранне маторарамонтных заводаў, дзе абнаўляецца станочны парк, выкарыстоўваемы на фінішных аперацыях, вытворчасць даснашчаецца недастаючым тэхналагічным абсталяваннем.

Усё, што робіцца на прадпрыемствах канцэрна «Белаграмаш», дазволіць калгасам і саўгасам рэспублікі падысці больш падрыхтаванымі да веснавых палявых работ.

## БЕЛПРАМАГРАТЭХНІКА

*Фёдар Пятруковіч, генеральны дырэктар РА «Белаграпрамтэхніка»*

# «Старэнне машын, патрабуе якаснага іх абслугоўвання»

**Райаграпрамтэхнікамі і рамонтнымі заводамі Рэспубліканскага аб'яднання «Белаграпрамтэхніка» ў мінулым годзе выканана работ і паслуг на 3,5 трлн. рублёў. Адрамантавана каля 2 тыс. трактароў, 22,7 тыс. дызельных рухавікоў, 8,9 тыс. каробак перамены перадач, 10,5 тыс. задніх і пярэдніх мастоў, каля тысячы трансмісій «ДТ-75», больш за 100 поўнакамплектных кормаўборачных машын, 200 зернеўборачных камбайнаў і значная колькасць вузлоў і агрэгатаў да іх.**

Рэстаўравана дэталяў на 38,0 млрд. рублёў, выраблена машынабудаўнічай прадукцыі на 273,6 млрд. рублёў і запасных частак — на 183,7 млрд. рублёў. Заяўкі калгасаў і саўгасаў па рамонту тэхнікі, аказанню іншых відаў работ і паслуг у асноўным выконваліся.

У мінулым годзе атрымалі распаўсюджанне новыя віды работ, сярод якіх асабліва месца займаюць механізаваныя атрады па нарыхтоўцы кармоў і ўборцы збожжавых культур. Найбольш шырокае распаўсюджанне атрымалі яны ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях, дзе было нарыхтавана адпаведна каля 260 і 214 тыс. тон кармоў. Намалочана больш за 7 тысяч тон збожжа ў Магілёўскай вобласці.

Рэзкае старэнне парка машын, скарачэнне іх колькасці ў гаспадарках патрабуюць больш актыўнай работы абслуговых прадпрыемстваў і арганізацый. Магчымасці ў гэтым плане ёсць. Большасць райаграпрамтэхнік і рамонтных заводаў маюць дастатковы патэнцыял для павелічэння аб'ёмаў і павышэння якасці рамонту, тэхнічнага абслугоўвання, вырабу многіх відаў машын, механізмаў, запасных частак, нарошчвання аб'ёму транспартных паслуг, выканання сваімі сіламі і сродкамі шэрагу палявых работ. Аднак рэалізацыя гэтых магчымасцяў стрымліваецца многімі прычынамі. Сярод іх найбольш істотная — адсутнасць у заказчыкаў сродкаў на аплату паслуг.

Па выніках мінулага года, напрыклад, рамонтна-абслуговыя прадпрыемствы маюць 610 млрд. рублёў дэбіторскай запазычанасці. Гэта пазбаўляе іх абаротных сродкаў, у многім стрымлівае павелічэнне аб'ёмаў работ і паслуг, аказваемых гаспадаркам.

Сёлета многія гаспадаркі разлічыліся з райаграпрамтэхнікамі збожжам. Аднак здадзенае на хлебапрыёмныя прадпрыемствы збожжа да гэтага часу ў шэрагу месцаў не аплачана з-за таго, што яно не ўключана ў дзяржзаказ.

Ва ўмовах, якія склаліся, немагчыма абысціся без аплаты работ і паслуг сельскагаспадарчай прадукцыяй, як гэта было ў часы МТС. У сувязі з гэтым трэба б узаконіць натураплату, асабліва за работы, выконваемые механізаванымі атрадамі, вызначыць дакладны парадак рэалізацыі атрымліваемай абслуговымі арганізацыямі сельгаспрадукцыі.

Нельга лічыць нармальным тое, што, выконваючы работы па ўборцы збожжавых культур і нарыхтоўцы травяных кармоў, гэта значыць абсалютна тое, что робяць механізатары калгасаў і саўгасаў, райаграпрамтэхнікі ўсё ж аплачваюць падаткаў больш, чым гаспадаркі. Падатковае заканадаўства па гэтых пытаннях патрабуе сур'ёзнага ўдасканалення.

# Сяляне едуць вучыцца на Гродзеншчыну

**АДРАСЫ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ НАРАДЫ:**



■ **СКП «Кастрычнік» Гродзенскага раёна *(секцыя земляробства)***



■ **СКП «Прагрэс» Гродзенскага раёна *(секцыя жывёлагадоўлі)***



■ **калгас імя Варанецкага Берастаўіцкага раёна *(секцыя эканомікі, фінансаў і крэдытнай палітыкі)***



■ **ААТ «Гродзенскі мясакамбінат» *(секцыя перапрацоўкі сельгаспрадукцыі)***



■ **СКП «Абухава» Гродзенскага раёна *(секцыя механізацыі і тэхнічнага прагрэсу)***



■ **Гродзенскі сельгасінстытут *(секцыя падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў)***

*Старшыня Гродзенскага аблвыканкама Аляксандр Дубко:*

# «Пасля доўгага перапынку мы нарэшце атрымалі больш тоны збожжа на кожнага жыхара вобласці. Аднак у параўнанні з 1990 годам крыху вышэй толькі паказчыкі па прывагах у свінагадоўлі. Неабходна рэальна ацэньваць становішча спраў»

**Аграрнік са шматгадовым стажам, Герой Сацыялістычнай Працы Аляксандр Іосіфавіч Дубко на справе даказаў свае веды і здольнасці ў знакамітым на ўвесь Савецкі Саюз калгасе «Прагрэс» Гродзенскага раёна. Але вось ужо чацвёрты год ён ля «руля» выканаўчай улады вобласці і, вядома, адказвае за становішча спраў не на асобным прадпрыемстве, а ўсюды, у тым ліку, зразумела, і ў аграпрамысловым комплексе.**



**— Аляксандр Іосіфавіч, якім быў мінулы год для прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу Гродзеншчыны? Асабіста вас што парадавала і што засмуціла?**

— Парадавала тое, што па сутнасці па ўсіх паказчыках вобласць выйшла на лідзіруючыя пазіцыі ў краіне. Прычым не за кошт таго, што іншыя спрацавалі дрэнна. Пасля доўгага перапынку мы атрымалі больш тоны збожжа на кожнага жыхара вобласці, а гэта ўзровень развітых дзяржаў. Радуе прыбаўка па цукровых бураках, рост прывагаў у свінагадоўлі. А засмучае тое, што калі параўноўваць з 1990 годам, дык толькі ў свінагадоўлі паказчыкі па прывагах крыху вышэй. А ўсе астатнія — на ўзроўні 1978—1980 гадоў. Атрымліваецца, што пяць гадоў так званай дэмакратыі адкінулі нас на 18—20 гадоў назад. Гэта мяне вельмі засмучае і абавязвае рэальна ацэньваць становішча спраў. А яно незайздроснае. Узяць фінансавы стан калгасаў і саўгасаў. Па статыстыцы ў нас толькі чатыры стратныя гаспадаркі, але рэальна, лічу, іх не менш пятнаццаці працэнтаў. І гэта таму, што продаж мяса ў параўнанні з 1990 годам скараціўся ўдвая. Куды гэта варта? Пры любой рабоце няма таварнай прадукцыі — не атрымаеш грошай. І тады — ланцуговая рэакцыя: няма за што купіць транспарт, адрамантаваць яго, пабудаваць дом.

Што яшчэ мяне моцна засмучае, дык гэта выкарыстанне асноўнага сродку вытворчасці — зямлі. Зямлі, па якой мы ходзім, якая нас і корміць, і поіць. Мы ўжо яе эксплуатуем на збядненне. Ва ўсіх раёнах нашай вобласці зменшылася ўтрыманне ў глебе фосфару і калію, павялічылася кіслотнасць. А самае галоўнае, самае дрэннае — змяншаецца колькасць гумусу, які ствараецца стагоддзямі. Значыць, зямля ўжо больш аддае, чым атрымлівае ад чалавека. Бяром мы за кошт уважлівага догляду, лепшай агратэхнікі — на Гродзеншчыне зямлю як след і апрацуюць, і прaполюць, і падкормяць. Але менавіта падкормліваюць, аднак жа не кормяць. А гэта ў рэшце рэшт можа прывесці да нядобрых вынікаў.

Вядома, мы не з'яўляемся тут пабочнымі назіральнікамі. Прадумваем шляхі вырашэння праблемы і робім усё магчымае, зыходзячы з магчымасцяў абласнога бюджэту, каб зямля атрымлівала больш арганікі, тарфакрошкі, іншых, нетрадыцыйных, відаў арганічных угнаенняў.

**— Якім вам бачыцца далейшы лёс фінансава вельмі слабых, так званых «ляжачых», гаспадарак? Рэцэптаў лячэння гэтай хваробы прапануецца шмат — аб'явіць банкрутамі, засадзіць лесам, аддаць зямлю фермерам...**

— На гэту праблему, лічу, трэба глядзець крыху шырэй. На мой погляд, мы не з таго боку пачынаем яе вырашаць. Нядаўна Кабінет Міністраў разглядаў пытанне аб аказанні дапамогі самым горшым раёнам. Давайце падумаем. Калі купляем хлеб, мы ж не пытаем, з якога ён раёна. Дык, каб мець хлеба намнога больш, выгадна, мабыць, укладваць сродкі перш за ўсё там, дзе вышэй аддача ўгнаенняў, гэтых грошай. Для пакупніка няма розніцы, з якога поля (дзе ўраджайнасць 30 альбо 15 цэнтнераў з гектара) есці хлеб. Аднак на 15 цэнтнераў мы затрачваем значна больш, чым на 30. Таму ў наш нялёгкі час да гэтай праблемы трэба падыходзіць выбіральна, аддаваць прыярытэт лепшым, тым, у каго прадукцыя атрымліваецца танней шай. А горшыя пакуль пакінуць на самавыжыванне. Такі падыход, па майму перакананню, павінен дзейнічаць па ўсёй краіне, у тым ліку і на Гродзеншчыне.

Я, напрыклад, пайшоў бы па такому шляху. Калі паша, ды дваццаць балаў — відаць, не варта, асабліва з нашай яздой, пераварочваць пяскі, рабіць пыльныя буры, лепей гэту зямлю залесіць. Але гэта не значыць, што ўвесь калгас трэба толькі лесам засадзіць. Бо амаль усюды ёсць невялікія ўчасткі, дзе зямля па якасці лепшая — 25—30 балаў. Вядома, фермерам тут трэба аказаць дапамогу, даць першапачатковы капітал, інакш нічога не атрымаецца. А што датычыцца банкруцтва... Пакуль, на бліжэйшыя гады тры, я не аб'яўляў бы гэтыя гаспадаркі банкрутамі. Ну што значыць банкруцтва? Зямля застаецца без таго, што яна павінна радзіць. Людзі таксама павінны працаваць. Напэўна, ёсць сэнс тут удзяліць большую ўвагу нетрадыцыйным вытворчасцям. Там, дзе больш лясоў, можа, трэба заняцца той жа дрэваапрацоўкай. Альбо клубніцамі, алычой. А недзе — вырошчваць шампіньёны альбо збіраць і перапрацоўваць лясныя грыбы. Калі ёсць галава, гэта ж вельмі выгадна. Словам, трэба шукаць і выкарыстоўваць усе магчымасці для атрымання прадукцыі, і неабавязкова сельскагаспадарчай.

**— У свой час, яшчэ кіруючы «Прагрэсам», вы актыўна выступалі за такія перамены, каб кожны чалавек, які працуе ў гаспадарцы, меў свой пай, быў рэальным уласнікам пэўнай часткі агульнага «пірага». Вашы погляды не змяніліся?**

— У сённяшніх умовах гэта пакуль немагчыма. Чаму? Нашы калгасы і саўгасы сёння з'яўляюцца «ўраўняльнікамі» той сацыяльнай несправядлівасці, якая маецца. Што граху таіць? На іх «павесілі» ўвесь сацкультбыт — дзіцячыя садкі, школы, медустановы, будаўніцтва дарог і г. д. Тое, дзе недапрацоўвае дзяржава, ускладаецца на гаспадаркі, ды і на дзяржаўныя прадпрыемствы. І, акрамя таго, будзем шчырыя, не менш трэці работнікаў у сельскай гаспадарцы, па маіх ацэнках, проста не зарабляе зарплату, а атрымлівае яе як належнае. У гэтым можна пераканацца, калі параўнаць, напрыклад, з Усходняй Германіяй. Я нядаўна там быў. Прыкладна такая ж гаспадарка, як «Прагрэс», сем тысяч гектараў пашы. Раней там працавала 1700 чалавек, а цяпер — 211. А ў «Прагрэсе» як было 2100 работнікаў, так і ёсць. Гэта ў выніку агульнай эканамічнай слабасці дзяржавы. За кошт агульнага «пірага» кормім тых, каго, можа, і не трэба карміць (можа, грубавата сказана, але гэта так) — тых, хто толькі адбывае на рабоце павіннасць, а рэальна нічога не робіць, гультаёў, п'яніц. Вось гэта самае галоўнае, што не дае магчымасці наладзіць рэальныя адносіны ўласнасці. Нават у «Прагрэсе», дзе ўжо не працую тры гады, я, напрыклад, выйшаў бы і аб'яднаўся з пайшчыкамі. Можа, іх аказалася б 200—250 чалавек. Аднак сацыяльная ўраўнілаўка не дае магчымасці перайсці да грамадскай работы на зямлі людзям, якія сфарміраваліся больш поўна.

**— У гэтай сітуацыі нешта можна памяняць?**

— Вельмі складана. У такім паявым плане, як мы задумвалі ў «Прагрэсе», будзе вельмі шмат сацыяльна пакрыўджаных. Тым жа вясковым пенсіянерам нешта дае і дзяржава, але ў асноўным іх з агульнага «катла» корміць калгас. Няўжо фермер будзе дапамагаць ім апрацоўваць зямлю? А калгас і ўгнаенні вывозіць, і ў апрацоўцы сотак дапамагае. Мы ўжо прывучылі некаторых людзей, што яны хочуць больш узяць і менш аддаць.

**— Вырашэння якіх першачарговых праблем вы чакаеце ад рэспубліканскай нарады работнікаў АПК?**

— Перш за ўсё трэба прааналізаваць, што зроблена, дзе мы памыліліся за тры гады існавання «вертыкалі». Не сумняваюся, што гэты аналіз будзе зроблены прэзідэнтам, ён ведае праблемы аграрнікаў. Больш дэталёва ключавыя пытанні па канкрэтных галінах і напрамках будуць абмеркаваны на секцыях нарады. Ведаю, што будуць выступаць людзі, у якіх ёсць свой пункт гледжання. Усё каштоўнае будзе зведзена разам. Не думаю, што тут патрэбны нейкія вельмі рэзкія павароты. Але па асобных пазіцыях — выкарыстання зямлі, цэнавай, падатковай палітыкі, можа, і патрэбны. Падатковая палітыка павінна быць лёгка чытаемай усімі. За гектар зямлі трэба плаціць — і ўсё. А астатняе залежыць ад гаспадара — хтосьці пад футбольнае поле зямлю выкарыстоўвае, а нехта атрымлівае высокі ўраджай. Які толькі тавар атрымліваеш — з аднаго і таго ж кавалачка зямлі адразу будуць і розныя падаткі.

Не задаволены я ўвядзеннем падаходнага падатку. Не ўлічылі, што зарплата ў сельскай гаспадарцы вельмі нераўнамерная. У снежні, студзені і лютым няма з чаго ўтрымліваць падаходны падатак. А за тры тыдні сяўбы механізатар атрымае нядрэнную суму. І адразу вялікую яе частку «адсякаюць». І няма стымулу. Чалавек не захоча працаваць лепей за іншых, а будзе, як усе.

Яшчэ адна важная праблема — даплаты за вытворчасць альбо продаж той ці іншай прадукцыі. Існуе фонд падтрымкі сельскагаспадарчай вытворчасці (1 працэнт ад даходу прамысловых прадпрыемстваў) і іншыя фонды. Як у Германіі? Я ведаю, што, надаіўшы кілаграм малака, атрымаю ад дзяржавы свае 42 пфенігі. Так павінна быць і ў нас. Скажам, цана кілаграма малака — 4 тысячы рублёў, яна аднолькавая для ўсіх абласцей. Значыць, і падтрымка з дзяржаўнага фонду на гэты кілаграм павінна быць аднолькавай. Скажам, прадаўшы кілаграм мяса, Гродзеншчына атрымлівае, умоўна, тысячу рублёў, іншыя — столькі ж, можа, хто ў горшых умовах, — 1200. Мы бачылі б свае капейкі, і не было б такіх размоў, што камусьці далі больш, а камусьці — менш. А так атрымліваецца, што цішком далі Гродзенскай вобласці альбо Брэсцкай. І ўсюды пакрыўджаныя, у тым ліку і я. У гэтым пытанні Гродзеншчыну часта ўшчамляюць. Даюць больш датацый тым, у каго горшыя паказчыкі.

**— Наколькі канкурэнтаздольная сёння наша сельскагаспадарчая прадукцыя ў Расіі?**

— Яна вельмі канкурэнтаздольная. Любую колькаць прадукцыі — мяса, масла, смятану, каўбасныя вырабы можна прадаць на расійскім рынку.

**— А бульба? Складваецца ўражанне, што большасць нашых гаспадарак паставіла на ёй крыж, плошчы пад бульбу проста смешныя...**

— Сапраўды, мы не толькі выйшлі з расійскага рынку, але Гродзенская вобласць не забяспечвае бульбай нават уласную перапрацоўчую прамысловасць. Едзем купляць сыравіну для Сольскага агароднінасушыльнага завода на Магілёўшчыну. Гэта абуральна. Чаму так адбылося? У асобныя гады проста не ўмелі прадаваць. А наконт выгады... У нас адно прадпрыемства на варанай бульбе робіць такі бізнес, заваёўвае такія рынкі, што будзьце здаровы. Сушаная бульба, пюрэ — вельмі выгадна. Крухмал цяпер у ходу. Плошчы пад бульбу сёлета павялічваем, як, дарэчы, і пад лён.

**— Аднак гаспадаркі абмежаваныя ў магчымасцях рэалізацыі сваёй прадукцыі. Калі калгас бачыць выгаду ў продажы тавару ў Расію (і пры гэтым не забывае пра ўнутраны рынак), навошта патрэбны адміністрацыйныя перашкоды, якія гэта стрымліваюць?**

— Вы правільна гаворыце, што ў нас яшчэ няма рыначных адносінаў і мы ў нейкім плане стрымліваем ініцыятыву. Але ў аснове тое, што самі кіраўнікі прадпрыемстваў яшчэ не навучыліся рынку, не ведаюць рыначнай кан'юнктуры. І часта я проста ратую іх ад непрыемнасцяў, а асобных — ад турмы. Бо рэалізуюць прадукцыю па няпэўных цэнах, з'яўляюцца ў гэты смутны час прайдзісветы, якія па падробленых дакументах, без папярэдняй аплаты вязуць тавар. Вельмі шмат даўгоў, якія ўжо ніхто не верне. Таму мы кіраўнікоў вучым, просім быць асцярожнымі.

Безумоўна, што дзяржаву абавязкова трэба забяспечыць харчаваннем. Планы невялікія — 50 працэнтаў ад вытворчасці. Ужо хутка выканаюць квартальны план па малаку. Далей я стаўлю такую задачу: 30 працэнтаў прадукцыі — прадавай куды хочаш. Толькі разумна. З-за нядобрых бартэрных здзелак можа пацярпець вельмі шмат добрых людзей.

**— Шмат кадраў памянялі?**

— За тры гады змянілася 167 кіраўнікоў гаспадарак і 54 працэнты спецыялістаў. Але не заўсёды гэта давала вынікі. У адной гаспадарцы Іўеўскага раёна за гэты час змяніліся тры старшыні... Спачатку кіраўнікоў «аддалі на водкуп» раёнам. Хаця была даўняя традыцыя, калі іх зацвярджалі нават на бюро абкома партыі. Цяпер усіх кандыдатаў на кіруючую пасаду (увялі іх у рэестр асноўных кадраў) чакае гутарка са старшынёй аблвыканкама, у камітэце па сельскай гаспадарцы і харчаванні.

**— Дзяржаўныя мясакамбінаты пакутуюць з-за недахвату сыравіны — і ў той жа час усё больш перапрацоўчых цэхаў у калгасах. Дзе тут залатая сярэдзіна?**

— Гэта для мяне балючае пытанне. Узначальваючы «Прагрэс», я быў ініцыятарам будаўніцтва і свайго малочнага завода, і мясакамбіната. Для калгасаў, калі прадукцыя добрая, гэта і сёння выгадна. А тады, калі мы пачыналі, дык не заўсёды маглі прадаць прадукцыю дзяржаве. У студзені, лютым, сакавіку на мясакамбінат яе можна было прадаць толькі па вялікаму блату. Малочныя заводы таксама часта адмаўляліся ад нашай прадукцыі. Цяпер жа будаўніцтва нізкатэхналагічнага цэха па вытворчасці малочнай і мясной прадукцыі — гэта не дзяржаўная пазіцыя. Вы будзьце асацыіраваным членам мясакамбіната і атрымлівайце на свае акцыі. У нас Навагрудскі малочны камбінат загружаны на працягу года на 30 працэнтаў, ваўкавыскі «Беллакт» — на 60. Але, на жаль, будуем у Магілёўскай вобласці прадпрыемства такога ж тыпу, а яно не патрэбна сёння. Таму мы нікому не даём крэдыты на такое новае будаўніцтва. Калі ўжо будуеш, дык за свае сродкі.

**— Сёлета перапрацоўчай галіне таксама не «свеціць» нармальная загрузка магутнасцяў сыравінай?**

— Увогуле, каб толькі не сурочыць, паказчыкі па вытворчасці мяса і малака абнадзейваюць. Пагалоўе не толькі захавалася, але і ўзрасло па ўсіх пазіцыях, за выключэннем кароў (99,8 працэнта). Свіней у параўнанні са студзенем мінулага года больш на 17 працэнтаў, буйной рагатай жывёлы — на 8, надоі малака ад каровы ўзраслі на 29 літраў. Продаж мяса, калі параўноўваць з леташнім узроўнем, павялічыўся на 8 працэнтаў, малака — на 16.

**— А даўгі за электраэнергію, газ?**

— Прыкладна 90 мільярдаў рублёў мы ў вёсцы вінаваты за электраэнергію, напалову менш — за газ. Ведаеце, я сам выступаў за тое, каб гэтыя даўгі спісалі, маўляў, апошні раз — і ўсё, даўгоў не будзе. Прэзідэнт прыслухаўся, выплату даўгоў адтэрмінавалі. Што ў выніку? У перадавым раёне не было ні капейкі запазычанасці. Толькі далі па электраэнергіі адтэрміноўку — 3 мільярды рублёў «выскачылі». Аднойчы зробленае, быццам камяк снегу, накручваецца. Некаторыя гаспадаркі завінаваціліся ўжо па 2 мільярды. Што ты робіш, што паліш? У лесе сядзіць і электраэнергіяй ацяпляе майстэрню...

**— Як падрыхтавалася вобласць да веснавой сяўбы?**

— Насення, як і ў мінулыя гады, дастаткова, яно добрых кандыцый. Заканчваецца закупка насення кукурузы і цукровых буракоў, якое не вырошчваем у сябе. Угнаенняў па ўсіх пазіцыях больш, чым летась: арганікі — на 10 працэнтаў, а мінеральных — удвая. Складанасці з рамонтам тэхнікі, асабліва магутнай — «К-700» і «Т-150». Мы нядаўна па лініі абласнога бюджэту далі гаспадаркам па 22 мільярды рублёў дапамогі на рамонт і адразу накіравалі грошы на заводы. Выдалі нам крэдыты, якія выкарыстоўваем на рамонт тэхнікі і пакупку гаруча-змазачных матэрыялаў.

Што датычыцца новай тэхнікі, дык у мінулым годзе купілі 161 трактар «МТЗ», 35 збожжаўборачных і 70 кормаўборачных камбайнаў. Але гэта надзвычай мала. У вобласці больш за 300 гаспадарак — нават па аднаму трактару не атрымліваецца.

**— А калі гаварыць аб штодзённых бытавых клопатах вясковага чалавека, што вас найбольш хвалюе?**

— На жаль, за гады так званай дэмакратыі, а правільней сказаць анархіі, у нашых вёсках засталіся два віды сацыялістычнага абслугоўвання — кааперацыя і пошта. Але пры такім цяжары падаткаў абвінавачваць калгасы несправядліва, многае на сябе павінна ўзяць дзяржава. Прычым навошта наракаць толькі на цэнтральную ўладу? Не трэба прыбядняцца, і мясцовы бюджэт можа многае на сябе ўзяць. Але не заўсёды «на пуп» бяром.

Неабходна зменшыць гандлёвыя нацэнкі. Вытворца павінен атрымліваць больш, чым спажывец гэтай прадукцыі. Хто ходзіць, дапусцім, у гумавых ботах на ферме (і нават той жа старшыня калгаса), часта атрымлівае на парадак менш, чым перапрацоўшчык. Гэта няправільна. Пераразмеркаванне фінансаў павінна ісці на карысць вытворцы.

Прэзідэнт рэзка і правільна выступае па праблеме жыллёвага будаўніцтва. Бо прыватызацыя закранула і калгасы, многае разабрана, раскуплена за бясцань. А працаваць няма каму. Некаторыя гаспадаркі будуюць па 30—40 кватэр, а побач — кала не бачна.

Мы паставілі задачу, каб усюды на вёсцы радыёпрыёмнікі былі, паколькі не кожная бабулька мае тэлевізар. Каб пры сельскім Савеце быў нейкі аўтобус для падвозу дзяцей да школы. Нельга так рэзка страчваць заваёвы сацыялізму.



**Сельскагаспадарчае калектыўнае прадпрыемства «Прагрэс» Гродзенскага раёна не мае патрэбы ў асаблівых рэкамендацыях. Флагман беларускага аграрнага комплексу і сёння не здае лідзіруючых пазіцый. У прыватнасці, ураджайнасць яравой і азімай пшаніцы склала летась адпаведна 58,7 і 61,9 цэнтнера з гектара, ячменю — 60, цукровых буракоў — 449. Патэнцыял па апошняй культуры быў закладзены на 600 цэнтнераў, ды падвяла засуха. Ад кожнай каровы надаілі 4348 кілаграмаў малака, прадалі дзяржаве 7385 тон, што на 198 тон больш, чым у папярэднім годзе. Ужо два гады гаспадарка атрымлівае на адкорме буйной рагатай жывёлы прывагі, якія пераважнай большасці нашых аграрнікаў нават і не сняцца — не менш кілаграма штодзённа. Кожны каляндарны дзень «Прагрэса» ў мінулым годзе — гэта мільярд рублёў рэалізаванай прадукцыі.**

# СКП «Прагрэс»:

## «Гаворым, што таго няма, гэтага... Але трэба варушыцца і самому. Ёсць «моманты», на якіх можна зарабіць нядрэнныя грошы»

— Мы часта гаворым, што з боку дзяржавы таго няма, гэтага, — разважае кіраўнік гаспадаркі Васіль Афанасьевіч Равяка. — Сапраўды, на кожным калгасе — вялізны цяжар праблем. Для нас гэта перш за ўсё ўтрыманне сацыяльнай сферы. На балансе прадпрыемства каля тысячы кватэр, свая камунальная служба, установы культуры, спорту, дзіцячыя сады. Уплаціўшы падаткі (летась — 41,8 мільярда рублёў), мы былі вымушаны яшчэ 21 мільярд накіраваць на сацыяльную інфраструктуру. Плюс жыллёвая праблема. За два гады пабудавалі 70 кватэр.

Канешне, можна гаварыць, што ўтрыманне сацкультбыту — абавязак дзяржавы. Аднак па вялікаму рахунку такой магчымасці ў яе сёння няма. Таму трэба варушыцца і самому. Ёсць «моманты», на якіх можна зарабіць нядрэнныя грошы. Скажам, чарапіцу для будаўніцтва жылля мы за валюту куплялі ў Літве. Асвоілі невялікую вытворчасць у сябе — на аснове адходаў гравію і поліэтылену. Цяпер поўнасцю задавальняем патрэбы будаўнічага комплексу гаспадаркі ў чарапіцы, нейкую частку прадаём. Вось грошыкі.

Пачалі сур'ёзна, з дапамогай навукі займацца вырошчваннем пшаніцы. Атрымліваецца цудоўнае збожжа, якое па хлебапякарных якасцях не ўступае краснадарскаму. Пабудавалі млын. Закупачная цана тоны харчовай пшаніцы — 6 мільёнаў рублёў. Змалоўшы яе на муку, маем 10 мільёнаў. Сёлета яравая і азімая пшаніца зойме тысячу гектараў. З улікам продажу дзяржаве і насення ў нашым распараджэнні, разлічваем, будзе 4 тысячы тон пшаніцы. Гэта азначае, што пасля млына прыбаўка да закупачнай цаны на пшаніцу складзе 16 мільярдаў рублёў. Да таго ж уласная мука робіць яшчэ больш рэнтабельнай вытворчасць хлеба, які мы выпякаем. Летась — 482 тоны, удвая больш, чым у 1996 годзе.

Заняліся ранняй бульбай, вельмі выгадна. З невялікіх плошчаў пад бульбу, капусту, моркву, сталовыя буракі «сабралі» 6 мільярдаў рублёў абаротных грошай пры добрай рэнтабельнасці.

Далей. Пачалі пакетаваць малако. У гармалкамбіната тлустасць 2,5 працэнта, у нас — 3,5, а цана аднолькавая. У выніку — вялізны попыт на нашу прадукцыю, на кожным літры маем 1300 рублёў дадатковага даходу, а ў месяц гэта паўмільярда рублёў. Зразумела, нельга разлічваць на нейкую выгаду, атрымаўшы 2,5 тысячы кілаграмаў ад каровы, трэба даіць нармальнае малако. Алена Мікалаеўна Ганец летась у нас надаіла ад каровы 6644 кілаграмы, а Марыя Міхайлаўна Зубель — 6341.

**— Ці ўсе галіны «прагрэсаўскай» вытворчасці працуюць з высокім прыбыткам?**

— Не. Нягледзячы на кілаграмовыя сутачныя прывагі буйной рагатай жывёлы, маем мізэрную рэнтабельнасць, максімум 5—7 працэнтаў. Неабходна асобная праграма развіцця гэтай галіны.

У мінулым годзе стратнай аказалася наша птушкагадоўля. Тут два сур'ёзныя моманты. Першы — мы не можам прадаць птушку па цане, якую прапануе пакупнік, яна фіксаваная. Другі — камбікормавая прамысловасць вобласці не гатова вырабляць кармы для прыстойнай вытворчасці, і мы вымушаны купляць іх у Літве за валюту. І калі ў 1996 годзе мы канверсавалі фінансы па курсу Нацыянальнага банка, дык сёлета такой магчымасці няма. Скідальская бройлерная фабрыка, адна з буйнейшых у краіне, ужо літаральна пакладзена на лапаткі.

Перакананы, што праблемы камбікормавай прамысловасці трэба паставіць на ўзровень дзяржаўнай палітыкі. Бо гэта галіна і фізічна, і маральна ўстарэла. Былі ў Кёльне. Там цэлы інстытут працуе ўжо не над якасцю кармоў, а над араматызатарамі. А мы — «метадам тыка».

І самая сур'ёзная праблема — абнаўленне асноўных фондаў. Можа здарыцца так, што ёсць галава, рукі, жаданне працаваць, але не будзе на чым. У нас 213 трактароў — за два гады купілі ўсяго 13. Для інфармацыі: адно кола трактара «К-700» — гэта па цане 4 тоны харчовай пшаніцы, а для пакупкі тоны шпагату для прасавання грубых кармоў трэба прадаць 14 тон пшаніцы.

**— Як выкарыстоўваеце для продажу сваёй прадукцыі расійскі рынак?**

— Неэфектыўна. Бо нас у некаторай ступені вяжуць па руках. Чаму на ўзроўні вобласці нельга фарміраваць праграму рэалізацыі прадукцыі ў Расію? Чаму за кожным «жывёлавозам» я павінен хадзіць да нейкага чыноўніка ў Мінск і выпрошваць дазвол? Я разумею, што ёсць эканамічная бяспека дзяржавы, летась мы прадалі 5543 тоны мяса. Няхай 70, нават 90 працэнтаў прадукцыі ідзе ў дзяржрэсурс. Застаецца 10 працэнтаў — дайце магчымасць распарадзіцца самастойна, хаця б аднаго быка прадаць з тысячы. Але нават каня не прадаць без дазволу, хаця для Беларусі як мясны рэсурс ён нецікавы.

Днямі расіяне прыехалі, кажуць, што з задавальненнем забралі б нашу птушку па 1 долару 90 цэнтаў за кілаграм, гэта плюс 18 тысяч да нашай фіксаванай закупачнай цаны. Нельга. А калі б мы прадалі за валюту, скажам, 700 тон бройлераў, дык зрабілі б сваю птушкагадоўлю рэнтабельнай, забяспечылі б яе камбікармамі і ўсім неабходным. У рэшце рэшт такая вытворчасць больш эфектыўна запрацавала б і на нашым унутраным рынку.

Канешне, ёсць шмат жулля. Аднак расійскім рынкам трэба вельмі даражыць, бо іншага варыянта ў нас няма.

**— Што вы думаеце наконт адраснай дзяржаўнай падтрымкі вытворцаў сельгаспрадукцыі?**

— На мой погляд, неабходна перш за ўсё сфарміраваць дастаткова разумныя крэдытныя стаўкі. І ўсё. Бо што значыць адносна — няадрасна? Хто можа ўлавіць сапраўдную сутнасць той ці іншай гаспадаркі? Не выключаны суб'ектыўны падыход, а ўсе павінны быць у роўных умовах. Не хапае грошай — крэдытуйся, працуй. Сабраў ураджай — разлічыся за крэдыт. Разлічыўся — бяры наступны. А ў нас няма, няма крэдытаў, потым — бах, купляй угнаенні. Але ж я фізічна не магу завезці за 2 дні 2,5 тысячы тон. Была б пастаянная крэдытная лінія — мы б паціху фарміравалі, што трэба. А так у мінулым годзе ў «Сельгасхіміі» «завісла» мільёнаў 300 грошай за ўгнаенні. Яны нам ужо непатрэбныя былі. Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што з боку дзяржавы ёсць рэальныя крокі ў гэтым напрамку. Дзяржава авансуе сельгасвытворцам нядрэнныя грошы. Сёлета крэдыты на сяўбу далі пад 26 працэнтаў, можна нармальна фарміраваць сваю вытворчую праграму.



*Футра з «прагрэсаўскага» матэрыялу, уласнага пашыву, ды яшчэ на прыгожай жанчыне.*

*Калгасная конеферма.*



# СКП «Кастрычнік»:

## «Высокая культура работы, клопат аб добрасумленных людзях і суровыя «рахункі» да разгільдзяяў»



**Цалкам справядліва, што права ўзняць сцяг агульнарэспубліканскіх «Дажынак-97» у Мастах было даверана старшыні сельскагаспадарчага калектыўнага прадпрыемства «Кастрычнік» Гродзенскага раёна Віталю Ільічу Крамко. Мяркуйце самі. Ураджайнасць збожжа склала 62,2 цэнтнера з гектара, бульбы — 921, цукровых буракоў — 600, караняплодаў — 822, агародніны — 476 цэтнераў. З гектара сельгасугоддзяў узялі 78,2 кармавой адзінкі. І гэта яшчэ далёка не ўсе крыніцы папаўнення калгаснай касы. Салідную выручку дае ўласная мясаперапрацоўка. Сярэдні абарот гандлёвых кропак «Кастрычніка» складае звыш 15 мільярдаў рублёў у месяц, у абласным цэнтры адкрылі чатыры фірменныя магазіны і тры ларкі. А ў плодаагароднінным сховішчы цяпер ляжыць прадукцыі больш чым на 10 мільярдаў — яблыкі, бульба, сталовыя буракі, морква, капуста. Рэалізацыя тавару ідзе няблага.**

**Мінулагодні даход гаспадаркі склаў 250 мільярдаў рублёў, а чысты прыбытак — 78 мільярдаў. Набылі больш за дзесятак трактароў, а ўжо сёлета прыкупілі ў Літве тры «Доны» — хаця і не першай свежасці, але яшчэ, можна сказаць, амаль новыя. У мінулым годзе пабудавалі 21 кватэру.**

**Здавалася б, чаго яшчэ хацець, што мяняць, рэфарміраваць?**

**Тым не менш, першае пытанне карэспандэнтаў «Звязды» да Віталя Крамко было менавіта такое:**

**— Якіх рашэнняў чакаеце вы ад рэспубліканскай нарады работнікаў аграпрамысловага комплексу?**

— Па-першае, не пагаршаць справу далей. Узяць падаходны падатак на калгаснікаў. Ён быў і раней, але браўся з калгаснай касы — за мінулы год мы заплацілі 3 мільярды 200 мільёнаў рублёў. Цяпер гэты падатак — на кожнага. Ну навошта расхістваць працоўную дысцыпліну? Гэта ж так. Сёння мы хочам захаваць кадры, неяк матэрыяльна заахвоціць людзей хаця б падчас сяўбы, жніва. Бо тэхніка старэе, а тэрміны работ застаюцца аднолькавымі. Трэба «выціскаць» і з камбайна, і з чалавека. Дык ці справядліва навешваць падатак на гэтага механізатара, які за месяц жніва можа назаўсёды падарваць сваё здароўе? Як мне глядзець яму ў вочы?

Я даўно кажу: трэба моцна ўзяць з нас, сялян адзіны падатак за зямлю і яе якасць. Зразумела, за сацыяльнае страхаванне. Але... Сёння, напрыклад, мы плацім у дарожны фонд, за мінулы год — мільярд рублёў, амаль трэцюю частку ад кошту камбайна «Дон». На тэрыторыі гаспадаркі 116 кіламетраў цвёрдага пакрыцця. Прычым 80 кіламетраў пракладзена за наш кошт. Самі гэтыя дарогі і абслугоўваем — рамонт, падсыпка, абкошванне. Каб не сорамна было перад людзьмі, якія едуць да нас за вопытам. 36 кіламетраў дарог — не на балансе калгаса. Але ж і на іх догляд трэба таксама патраціць і сілы, і грошы, каб не стварылася аварыйная сітуацыя ў першую чаргу для нашага транспарту.

Далей. Два працэнты ад фонду зарплаты (летась — 860 мільёнаў рублёў) пералічваем на ўтрыманне гарадскога пасажырскага транспарту. Падаткі ўсе растуць. А як жа з якасцю абслугоўвання вяскоўцаў? Ледзь дабіўся, што ў Дойлідкі і Віцькі раз у тыдзень будзе заязджаць аўтобус. Які ж гэта клопат аб людзях? Калі гэта пенсіянер, ён што, не чалавек? Яму што, дазволена хварэць толькі ў той дзень тыдня, калі можна даехаць да горада ў бальніцу? Калі на дачы аўтобусы ходзяць — сродкі знаходзяцца, таму што гарадскі транспарт вязе гарадскога чалавека. А даехаць тры кіламетры ад дач да гэтай вёскі магчымасці няма...

**— Якім вопытам вы мяркуеце падзяліцца з удзельнікамі нарады?**



*У фірменным магазіне калгаснай пякарні працуе Надзея Чэрнікава.*

— Паспрабую абгрунтаваць, чаму нашы вытворчыя паказчыкі растуць. І будуць расці далей. Сёлета зноў, пры ўдалым годзе, бяром курс на 60 з лішкам цэнтнераў збожжа з гектара. Тут шмат фактараў. У прыватнасці, з кожным годам уносім арганічных угнаенняў хоць на крышку, але больш. Атрымліваецца каля дваццаці тон арганікі на гектар ворыва. Парадак з мінеральнымі ўгнаеннямі. Раслінам забяспечана стопрацэнтная ахова. Сёлета маем ужо 70 працэнтаў угнаенняў, палову гербіцыдаў і ядахімікатаў, з восені пачалі падкормку зямлі арганікай. Хутка завершым рамонт тэхнікі.

**— А чалавечы фактар? Адзін наш суразмоўца, адзначыўшы вельмі высокую культуру земляробства і ўвогуле парадак у «Кастрычніку», расказаў такі эпізод. Стаіць Віталь Ільіч Крамко ля «канторы», а нейкі калгаснік кідае недакурак. Аднаго позірку старшыні хапіла, каб той чалавек кінуўся аднаўляць чысціню. Што, баяцца вас? Кажуць, што «фільтруеце» кадры, тых, хто не падышоў, — звальняеце?**

— Не люблю жулля, няшчырасці. Вось развіталіся з адным галоўным спецыялістам, бо ён падманваў, дакладней — падстаўляў калгас, выкарыстоўваючы сваю пасаду ў асабістых мэтах. Украў — выключаем з калгаса (нават пазбаўляючы калгаснай жылплошчы), наконт гэтага ёсць рашэнне агульнага сходу. Альбо ўразаецца матэрыяльны стымул. Украўшы два кілаграмы мукі, можна страціць за год мільёнаў пятнаццаць.

Аднак у цэлым крыўды на нашы кадры ў мяне няма, і асабліва іх «фільтраваць» не трэба. Даю ім магчымасць праявіцца, дзе — уступлю, дзе — дапамагу. Каб чалавек на прыстойнай машыне ездзіў, каб яго дзеці былі ўладкаваныя і ў садзіку, і ў школе.

**— Плюс бясплатныя збожжа, каўбаса ўласнай вытворчасці...**

— У мінулым годзе бясплатна раздалі 1300 тон збожжа. Кожны, хто працуе ў калгасе альбо ўжо на пенсіі, атрымлівае ў месяц тры кілаграмы каўбасы, паўтара кілаграма масла і пятнаццаць батонаў. Якраз сёння ў пякарні павінны выпечы першую партыю чорнага хлеба. Будуем малочны цэх, малако будзем пакетаваць і таксама даваць людзям бясплатна. Бо чалавек — не жалезны. Далёка не кожны здольны ўтрымліваць карову, свіней і пры гэтым з поўнай аддачай працаваць у калгасе.

**— А ці праўда, што той, хто трымае карову, не мае права прадаць на бок гной?**

— Так. Справа ў тым, што з чатырох бакоў гаспадаркі — дачы. Таму правіла такое. Гной вывозіцца ў бліжэйшы бурт і потым, пры пасадцы бульбы, што робіцца для калгасных палеткаў — тое і для індывідуальных. Людзям трэба толькі мець насенне ды яшчэ, каб не забылі пра сваю бульбу, пазмагацца з пустазеллем. А апрацоўку супраць фітафторы робіць калгас. Дарэчы, чаму летась шмат дзе прапала бульба? Таму што позна была пасаджана. А мы гэта зрабілі да 9 мая — і гаспадарцы, і калгаснікам.

**— Невядома, ці дапаможа ваш вопыт так званым «ляжачым» гаспадаркам. Якая там бясплатная каўбаса...**

— Некалькі дзён таму я з'ездзіў у адзін з такіх калгасаў — « « Свіслацкага раёна. Папрасілі выказаць сваю думку наконт яго далейшага лёсу. Дык вось, калі б гэта гаспадарка была па-суседску з «Кастрычнікам», мы б яе адразу забралі да сябе. Там бал зямлі — 48, тарфянікі. Але, кажуць, не шанцавала на кіраўнікоў — усё запушчана, гадоў 15 не было перазалужэння, 6,5 мільярда рублёў доўгу. Там, дзе бал зямлі 20, можа, і трэба думаць аб пасадцы лесу. Але грэх ставіць крыж на гаспадарцы, на якую раней пайшлі такія затраты і дзе, перазалужыўшы тарфянікі, можна на ўвесь раён нарыхтоўваць кармы. Гэта той выпадак, калі фінансавая падтрымка дзяржавы (мы падлічылі са спецыялістамі калгаса, што патрабуецца 14,5 мільярда рублёў) дасць аддачу.



*У калгасе ёсць свая тэлестудыя і кабельнае тэлебачанне.*

**— А з тымі калгасамі, дзе зямля па якасці горшая і аддача ад дзяржаўных «уліванняў» малаверагодная, што рабіць?**

— Цяжка сказаць. Там жа жывыя людзі. Неяк чуў ад аднаго кіраўніка, што гэтых людзей трэба ў першую чаргу прымусіць працаваць. Але вось у нас 22 вёскі і ў 8 ужо няма маладзейшых за 60 гадоў. Як іх прымусіць? Яны ўжо спрацаваныя. А «ляжачыя» якраз тыя гаспадаркі, дзе і працоўнай сілы няма.



*Чарговая партыя яблыкаў хутка трапіць на прылаўкі. Работніцы агародніннафруктасховішча Алена Янушаніс і Вольга Шапская.*

## Анатоль ГРЫШУК, дырэктар ААТ «Гродзенскі мясакамбінат»



# «Цэнаўтварэнне, экспарт, запатрабавальнасць — ад вырашэння гэтых праблем залежыць канкурэнтаздольнасць беларускай перапрацоўчай прадукцыі»

**— Анатоль Георгіевіч, цікавая рэч атрымліваецца: здаецца, зусім нядаўна камбінат працаваў на поўную магутнасць, цягнікамі адпраўляў прадукцыю спажыўцу, а вось у магазінах за каўбасамі чэргі былі... Цяпер сітуацыя іншая: камбінат працуе напаўсілы, а на прылаўках магазінаў шмат усялякіх далікатэсаў. Праўда, многім яны недаступныя, людзі шукаюць што танней.**

— Вы абазначылі згустак праблем, якія вялікім цяжарам ціснуць на вытворцаў і перапрацоўшчыкаў мяса. Сапраўды, магутнасці камбіната не загружаны: замест 120 тон у суткі мы перапрацоўваем 70, а калісьці ж было і 140 тон. Праўда, і сёння мясакамбінаты вырабляюць прадукцыі на душу насельніцтва значна больш, чым могуць нашы людзі спажыць. Але ж былі часы, калі яе выраблялі ў тры разы больш. Гродзенцы адпраўлялі дзве трэці сваёй прадукцыі за межы вобласці — у Расію, Сярэднюю Азію, на Каўказ. І сёння ў Расіі наш галоўны рынак, які, дарэчы, ужо актыўна займаецца вытворцамі з Кітая, Аргенціны, Германіі, Польшчы, тых краін, дзе назіраецца перавытворчасць мяса. Напрыклад, у Маскве толькі шэсць працэнтаў мясной прадукцыі вырабляецца з мясцовай сыравіны, у цэлым па Расіі — трыццаць працэнтаў. Таму беларускім вытворцам мяса трэба прыкладваць шмат намаганняў, каб змагацца за расійскі рынак. Для гэтага неабходны новыя тэхналогіі, якія дазвалялі б значна павялічыць тэрмін захоўвання мясных прадуктаў, а значыць павысіць і іх якасць. Тут і ўзнікае праблема фінансаў.

**— Сапраўды, эканамічныя праблемы, з якімі сутыкаецца перапрацоўшчык мяса, складаныя. Ці можна іх вырашыць іх сваімі сіламі?**

— Адназначна — немагчыма. Гэта праблема дзяржаўнага ўзроўню. Мяркуйце самі. У мінулым годзе намі зроблены ўсе магчымыя крокі для захавання дасягнутых тэмпаў вытворчасці і рэалізацыі: укаранёны рэсурсазберагальныя тэхналогіі, якія даюць магчымасць пры эканоміі сыравіны палепшыць якасць, павялічыць асартымент і тэрміны рэалізацыі. Цяпер каўбасная вытворчасць працуе на 30 працэнтаў вышэй прадугледжаных магутнасцяў. Агульны тэмп росту таварнай прадукцыі склаў 101,8 працэнта. Аднак галоўны паказчык работы любога прадпрыемства — прыбытак не можа нас задаволіць. У мінулым годзе ён склаў



*Начальнік вытворчай лабараторыі Марыя Грышук правярае якасць сасісак.*

24,5 млрд. руб., а па асноўнай вытворчасці 17,7 млрд. руб. — гэта толькі 2,2 працэнта рэнтабельнасці. Прычына такога становішча — існаванне гранічных цэн на асноўныя масавыя віды прадукцыі і несвоечасовае і неадэкватнае павышэнне адпускных цэн у адносінах да закупачных. Толькі за мінулы год страты прадпрыемства па гэтых прычынах склалі па варанай каўбасе, паўфабрыкатах, свініне 13,5 млрд. руб. У гэтым годзе становішча працягвае пагаршацца. У студзені закупачныя цэны павялічаны на ялавічыну на 12,5 працэнта, а гранічныя — на 5,5 працэнта, а на вараныя каўбасы і сасіскі толькі на 3 працэнты. На сёння нашы страты складаюць па ялавічыне — 14 працэнтаў, свініне — 6, па вараных каўбасах вышэйшага гатунку 15 працэнтаў.

Парадокс, але гродзенцы, як вытворцы, так і перапрацоўшчыкі мяса, апынуліся з-за цэнаўтварэння ў сапраўдных цісках. Вядома, што вяскоўцы нашы ўмеюць працаваць, умеюць вырошчваць цяжкавагавую жывёлу. Напрыклад, у мінулым годзе 55,6 працэнта закуплена намі менавіта цяжкавагавай жывёлы, за якую пастаўшчыкам сыравіны ўстаноўлена надбаўка ў памеры 20 і 50 прцэнтаў. Вось і атрымліваецца, што сярэдняя цана ялавічыны ў студзені (71 працэнт ад агульнай колькасці закупленай сыравіны) склала 68.750 рублёў. Нам жа, каб выйсці хоць бы на нуль, нельга пераходзіць за 59 тысяч. У лютым мы маем толькі страты. Думаю, нас нельга папракнуць у тым, што мы працуем неэканомна. На чым яшчэ можна зэканоміць, калі 80 працэнтаў затрат на выпуск адзінкі прадукцыі складае сыравіна? На зарплаце? Дык яна і так невялікая ў параўнанні ў іншымі галінамі, якіх дзяржава амаль ні ў чым не рэгламентуе. А вырабляем мы таварнай прадукцыі ў год на аднаго работніка на 1 мільярд 30 мільёнаў рублёў. Гэта адзін з лепшых паказчыкаў.

**— Вы закранулі праблему закупачных цэн. Калгасы кажуць, што ім нават нявыгадна прадаваць жывёлу па той цане, якая ўстаноўлена ў студзені. Вы ж гаворыце, што яна занадта...**

— Усё пазнаецца ў параўнанні. Я вельмі паважаю працу сялян, ведаю, як цяжка ім зараз. Але не разумею, чаму ў адным калгасе сабекошт, напрыклад, свініны роўны 25—30 тысячам рублёў, а ў другім — 50 тысячам рублёў і больш. Упэўнена магу сказаць, што мы набываем мяса ў сваіх пастаўшчыкоў па цане, вышэйшай за сусветную. Сёння ў Польшчы можна набыць тую ж

*Мікалай Табала — лепшы рабочы абвалачнага аддзялення.*

свініну за 1,7 долара, у нас жа яна абыходзіцца ў 2, ялавічыну ў рэспубліцы мы закупляем за 1,7 долара, а ў суседзяў яна ідзе па 1,3 долара. Польская сыравіна на 15—20 прцэнтаў танней, таму заплаціўшы нават падатак, усё роўна нам выгадна працаваць з палякамі. Але ж тады панясуць страты нашы калгасы. Таму праблему цэнаўтварэння неабходна неадкладна вырашаць, каб цана не адрознівалася ад сусветнай, тады можна нармальна канкурыраваць на рынку — усходнім і заходнім. Дарэчы, мы падлічылі: каб эканоміка камбіната працавала, на 30 працэнтаў мы павінны працаваць на таннай сыравіне.

**— Вядома, што на камбінаце ў час рэспубліканскай нарады будзе працаваць секцыя перапрацоўшчыкаў. Якія асноўныя, на ваш погляд, праблемы будуць узнімацца?**

— Мяркую, што адна з галоўных — праблема цэнаўтварэння. Калі яе не вырашыць, перспектывы ў нас няма, таму што прадукцыя наша не будзе запатрабавана, і тады на наш рынак прыйдуць замежныя вытворцы мяса. Нам, сельскагаспадарчай краіне, такога дапускаць нельга. Для гэтага важна вызначыць прыярытэты, сказаць, наколькі каштоўная для сельскай гаспадаркі перапрацоўка. З дзвюма папярэднімі цесна ўвязана і праблема экспарту. Яна вырашыцца тады, калі наша прадукцыя будзе канкурэнтаздольная і па цане, і па якасці. Якасць можна павысіць за кошт укаранення новых сучасных тэхналогій, што магчыма пры наяўнасці свабодных грошай, якія з'явяцца, калі будзе адладжана цэнаўтварэнне. Замкнёнае кола.

І яшчэ адна праблема, звязаная з першымі. Вялікія страты нясе мясакамбінат, удзельнічаючы ў так званым перакрыжаваным субсідзіраванні насельніцтва па цеплаэнергіі. Вядома, што кожны канкрэтны ўладальнік кватэры плаціць толькі 20 працэнтаў за карыстанне цяплом, астатнія 80 працэнтаў размяркоўваюцца на аплату прадпрыемствам. Наша прадпрыемства, напрыклад, штомесяц выдаткоўвае на гэтыя мэты больш як 3,3 млрд. рублёў, што ў тры разы больш, чым мы выкарыстоўваем цяпла. А калі дадаць да гэтага фактычную датацыю насельніцтва па мясапрадуктах, якая роўна суме панесеных намі страт пры іх вытворчасці, то карціна паўстае вельмі складаная. Пры такой эканамічнай сітуацыі немагчымы не толькі рэканструкцыя ці ўкараненне новай тэхнікі, але і падтрыманне існуючых тэмпаў вытворчасці, таму што яе рэнтабельнасць ніжэй працэнта інфляцыі. Спадзяюся, што ўсе гэтыя набалелыя праблемы будуць абмеркаваны на рэспубліканскай нарадзе і ў хуткім часе вырашацца на карысць эканомікі, на карысць будучага і сельскай гаспадаркі, і перапрацоўчай галіны.



*Майстар машыннага аддзялення Ганна Лукашэйка.*

**— Анатоль Георгіевіч, звычайна вяскоўцы скардзяцца на несвоечасовыя разлікі з імі за пастаўленую сыравіну. Як вы выходзіце з гэтай сітуацыі?**

— У мінулым годзе цяжкасці з разлікамі былі. Аднак удавалася праводзіць іх за 5—7 дзён, а ў выпадку вострай неабходнасці некаторым гаспадаркам нават рабілі папярэднюю аплату. У сувязі з тым, што з-за нізкай рэнтабельнасці ўласных абаротных сродкаў практычна не было, прыходзілася прыцягваць значныя крэдытныя рэсурсы.

**— Мы ўсё аб праблемах і праблемах. Безумоўна, без іх вырашэння немагчыма далейшае развіццё перапрацоўчай прамысловасці. Але ж калектыў мясакамбіната працуе, і, здаецца, нядрэнна. Якія планы на сёлетні год?**

— Мы зыходзім з таго, што знос абсталявання па прадпрыемству склаў ужо 56 працэнтаў, а значыць нельга развіваць вытворчасць без яе тэхнічнага пераасначшэння. Капітальныя затраты на рэалізацыю гэтай праграмы складуць 50 мільярдаў рублёў. Гэта дазволіць палепшыць якасць вырабляемай прадукцыі, павялічыць яе аб'ёмы, асабліва той, што карыстаецца вялікім попытам у спажыўцоў, а таксама палепшыць умовы працы на камбінаце, і, самае галоўнае, спадзяёмся атрымаць прыбытак, каб накіраваць яго зноў жа на павышэнне эфектыўнасці вытворчасці.

Калектыў працуе над пашырэннем асартыменту прадукцыі, наладжвае вытворчасць яе новых відаў. У гэтым годзе прадугледжваецца абнавіць асартымент каўбасных вырабаў на 50 працэнтаў і вырабіць 1500 тон новых відаў прадукцыі.

---

**Сёлета калгасу імя Варанецкага Бераставіцкага раёна спаўняецца 50 гадоў. Наўрад ці тут падыходзіць выслоўе савецкіх часоў, што калектыў сустракае свой юбілей новымі працоўнымі дасягненнямі. Правільней сказаць, гаспадарка, нягледзячы на ўсе цяжкасці, пакуль яшчэ не цывілізаванага рынку, трымаецца дастойна. За выключэннем невялікай запазычанасці за энерганосьбіты і крэдытаў на папаўненне абаротных фондаў, ніякіх даўгоў няма. Мінулагодні план па продажы дзяржаве ўсіх відаў сельскагаспадарчай прадукцыі паспяхова выкананы, чысты даход склаў 25,6 мільярда рублёў. Гаспадарцы нічога не спісвалі. Пра многае сведчаць і наступныя звесткі: летась калгас набыў тры трактары «МТЗ-82» па лізінгу, трактары «КА-701», «Т-25», буракаўборачны камбайн, бурачную сеялку, тры кормаўборачныя камбайны, два, хаця і не адразу з заводскага канвеера, камбайны «Дон-1500» і іншую тэхніку. І што цікава, «выратавальным кругам» у моры праблем паслужылі не вельмі папулярныя цяпер перапрацоўчыя цэхі. Структура вытворчасці — класічнага ўзору, як у 95 працэнтах калгасаў і саўгасаў нашай краіны.**

## *Калгас імя Варанецкага:*

# «У нас ніколі не было работы на нейкі эфект, авантурных «пражэктаў». Усё — па аптымальнаму варыянту»

**— Чаму ж многія не знаходзяць выйсця з крызісу і «тонуць», а ў вас становішча хаця і няпростае, але зусім не безнадзейнае, даволі стабільнае? — пацікавіліся карэспандэнты «Звязды» ў старшыні калгаса Мікалая Рыгоравіча Зданчука, які ўжо 26 гадоў узначальвае калектыў гаспадаркі.**

— Галоўнае — у нас стабільны калектыў, высокапрафесійныя спецыялісты, іх столькі, колькі трэба, ніводнага лішняга звяна ў кіраўніцкім ланцужку няма. У гаспадарцы ніколі не было работы на нейкі эфект, авантурных «пражэктаў», усё — па аптымальнаму варыянту, у самаакупным рэжыме. Скажам, улічваючы свае фінансавыя магчымасці, мы можам дазволіць сабе ўнесці ўгнаенняў і сродкаў аховы раслін пад ураджай 60 цэнтнераў збожжа з гектара. Але каму патрэбны такія затраты. Калі на гэтым полі будзе малаціць «Ніва», якая пакіне палову з таго, што вышэй 40 цэнтнераў?

Альбо возьмем малочную галіну. Дапусцім, што 4 тысячы кілаграмаў малака карова дае без праблем і пры самых аптымальных затратах. Вядома, такія надоі — не мяжа, можна атрымаць і болей. Але ў нашых рэаліях гэта будзе азначаць рост затрат на кармы, і гэта цана прыбаўкай надояў не акупіцца. Так і ў свінагадоўлі, якая нас цяпер проста выратоўвае. Прывагі — стабільныя, больш за 500 грамаў. Можна дабіцца і лепшых вынікаў, але для гэтага неабходна затраціць больш высокакаштоўных і дарагіх кармоў. Што выгадней? Мяркуйце самі. Сёння сабекошт аднаго кілаграма свініны ў нас 23 тысячы рублёў, прадаваць яе выгадна. Так, ёсць гаспадаркі, дзе сутачныя прывагі свіней большыя. Аднак і сабекошт прадукцыі вышэйшы.

Такі чынам, мы ўсюды намагаемся знайсці аптымальную, залатую сярэдзіну. І калі рынак ударыў «абухом па галаве», мы не сядзелі склаўшы рукі. Усё, што было нявыгадна — «урэзалі». Пры гэтым любы гаспадарчы эфект неабходна заўсёды ўзгадняць з рэаліямі жыцця вясковага чалавека. Скажам, у Беларусі высокія закупачныя цэны на збожжа. І, здавалася б, найбольш рэнтабельны варыянт — не скормліваць яго на свінагадоўчым комплексе (6 тысяч тон за год), а адразу прадаць. Аднак на комплексе працуюць нашы людзі. Альбо можна ўкласці больш грошай у закупку замежных ядахімікатаў і тады менш будзе клопатаў з апрацоўкай «дзялак». Але ж тым самым мы будзем падтрымліваць не нашых калгаснікаў, а заходніх вытворцаў.

**— Вы гаворыце, што свінагадоўля — справа выгадная. Але, напэўна, добра падумаеце, каму прадаць сваё мяса.**



*Рэпрадуктарны цэх свінагадоўчага комплекса. Аператар па атрыманню парасят К. Талочка (злева) і аператар па вырошчванню парасят Т. Станеўская.*

**А тым часам магутнасці дзяржаўных мясакамбінатаў загружаны дрэнна, яны ў «цісках» планавай эканомікі па цэнах...**

— Калгас, як акцыянер мясакамбіната, зацікаўлены не ў тым, каб плацілі вышэй закупачнай цаны, а ў тым, каб ён працаваў рэнтабельна, што пры загрузцы магутнасцяў на 30—50 працэнтаў немагчыма. Трэба не «распыляць» сыравіну. Магчыма, калі ў камбіната ёсць такая магчымасць і гэта яму выгадна, няхай ён купіць партыю сыравіны ў той жа Польшчы. Альбо павысіць рэнтабельнасць за кошт продажу той прадукцыі, якую купляюць больш забяспечаныя людзі. Запрацуюць магутнасці — адчуюць выгаду і акцыянеры, з'явіцца стымул для супрацоўніцтва не з камерцыйнымі структурамі, а з дзяржаўным прадпрыемствам.

Асноўныя нацэнкі адбываюцца на апошняй прыступцы перад пакупніком. Мы прадаём малако тлустасцю 3,5 працэнта па 4 тысячы рублёў за кілаграм, а ў гандлі яно ўдвая даражэй, а тлустасць — 2—2,5 працэнта. Трэба гэтыя нацэнкі перадаць вытворцам.

**— Ці хвалюе вас лёс літаральна «дыхаючых на ладан» калгасаў?**

— Безумоўна. Мы можам «патануць» усе разам, і не толькі калгасы. Напрыклад, у нас на рахунках заўсёды ёсць грошы. Раптам не праходзіць «плацежка». Бухгалтар пытае ў банку, што здарылася. Аказваецца, няма сродкаў. Дарэчы, мы, як і іншыя калгасы, з'яўлемся заснавальнікамі і акцыянерамі Аграпрамбанка. У статутны фонд унеслі на той час вялізную суму, але тры гады не маем ніякіх дывідэндаў.

Так і з «ляжачымі» гаспадаркамі. Бо калі крэдыты ад слабых калгасаў не вяртаюцца (дзякуй дзяржаве за крэдыты пад сяўбу, авансы пад асноўную прадукцыю), калі «ляжачых» будзе ўсё больш, дык бюджэт не зможа дапамагчы і іншым, тым, хто расплачваецца акуратна. Гэты вузел трэба развязваць.

**— Але як?**

— У нашым раёне ёсць адна гаспадарка. Дык калі яе даўгі (іх не так ужо і шмат) возьме на сябе дзяржава, гэту зямлю забяруць іншыя. Калі ж такі варыянт немагчымы, трэба самы горшы калгас аб'явіць банкрутам.

**— А зямля, людзі?**

— Ва Усходняй Германіі сёння працэнтаў дваццаць зямлі ляжыць неапрацаванай. Ну няхай і ў нас працэнтаў пяць паляжыць нейкі час у пары, урадлівасць яна не страціць. А суседа гэта мабілізуе на лепшую працу.

Людзі. Дапусцім, у гаспадарцы 50 працаздольных спецыялістаў, якія ў гэтых умовах думаюць не аб вытворчасці, а толькі як узяць з фермы. Яны ўладкуюцца на работу ў бліжэйшых нармальных калгасах. Пенсіянер атрымае ад дзяржавы пенсію. Хочаш быць фермерам — ідзі. Вядома, гэта вельмі балючы працэс. Аднак трэба ісці на непапулярныя меры. Бо тое, што дзяржава сёння змагла, — гэта максімум, пад пагрозай ужо ўся яе фінансавая сістэма. А калі год неспрыяльны? Трэба ўкладваць грошы туды, адкуль яны вернуцца і дадуць аддачу.

**— Колькі ў калгасе зарабляюць?**

— Сярэднямесячная зарплата ў мінулым годзе склала 2 мільёны 560 тысяч рублёў, гэта лепшы паказчык у раёне. Аднак, па вялікаму рахунку, чаму радавацца? А тут яшчэ — падаходны падатак. Колькі існаваў калгасны строй, заўсёды з бюджэтам разлічвалася калгасная каса з фонду зарплаты. А цяпер? Замест ранейшых 8 працэнтаў у студзені выйшла 10. Паабяцалі людзям павысіць заробак, а атрымліваецца, што забіраем. Усё жыццё калгаснік атрымліваў менш за іншых. Яго трэба было падтрымаць. А тут пакрыўджанага яшчэ раз пакрыўдзілі.

*Летась у калгаснай цяпліцы сабралі 70 тон агуркоў і 120 тон памідораў, прадаюць перац, расаду. Загадчыца цяплічнай гаспадаркі Лідзія Халявік, цяплічніцы Тамара Ліпавая і Ірына Багай.*



*Басейн — цудоўны. Аднак утрымліваць яго за кошт сваіх сродкаў калгасу ўсё складаней.*



**Гродзенскі дзяржаўны сельскагаспадарчы інстытут — адна з самых прэстыжных навучальных устаноў краіны. За 47 гадоў існавання тут падрыхтавана больш за 20 тысяч аграномаў, заатэхнікаў і спецыялістаў па ахове раслін. Сёння ў дадатак да гэтых спецыяльнасцяў з'явілася новая — эканоміка сельскагаспадарчай вытворчасці. Выкладчыцкі калектыў тут працуе сур'ёзна і грунтоўна. На пэўныя меркаванні наводзіць хоць бы факт неперайменавання, як гэта зрабілі многія ВНУ, інстытута ва універсітэт. З гэтага і пачалася гутарка з рэктарам інстытута, доктарам сельскагаспадарчых навук прафесарам Вітольдам ПЕЦІСАМ.**

# *Гродзенскі дзяржаўны сельскагаспадарчы інстытут:* «Калі раней студэнтаў вучылі толькі як атрымаць прадукцыю, то цяпер — якую прадукцыю выгадна вырошчваць і прадаваць»

— Паверце, не ў назве справа. Галоўнае — якія веды, якую жыццёвую аснову дае вышэйшая навучальная ўстанова. Мы не пагналіся за модай, хоць шмат працуем над удасканаленнем навучальнага і навуковага працэсу. Важна, каб наш інстытут стаў сапраўдным рэгіянальным цэнтрам па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў для вёскі. Наспеў час распрацоўкі праграмы развіцця аграрнага сектара Гродзенскай, Брэсцкай і часткова Мінскай абласцей, якія ў асноўным інстытут забяспечвае кадрамі. Мяркую, сёння гэта актуальна.

**— Кажуць: «Тэатр ствараюць артысты...»**

— У нас ёсць іншая пагаворка: «Выдатных спецыялістаў робяць выдатныя педагогі-выкладчыкі». Таму мы проста песцім разумных і ініцыятыўных выхавацеляў моладзі, вопытных спецыялістаў, прафесіяналаў. Ад іх работы, ад іх сэрца і ведаў залежыць тое, хто заўтра прыйдзе ў вёску, якім прыкладам яны будуць тамтэйшаму насельніцтву. Мы цудоўна разумеем, што толькі спецыяліст, які валодае сучаснымі тэхналогіямі, здольны наладзіць вытворчасць. Калі раней вучылі, каб студэнты маглі і ведалі, як атрымаць прадукцыю, то цяпер важна ведаць, якую прадукцыю найбольш выгадна вырошчваць і як яе прадаць. А для гэтага, пагадзіцеся, трэба ведаць кан'юнктуру рынку, а таксама міжнародныя эканамічныя адносіны. Што ў сваю чаргу патрабуе ведання замежных моў і камп'ютэрных сістэм, з мэтай чаго пашыраецца кафедра замежных моў, абсталявана некалькі камп'ютэрных класаў. Штогод каля 50 студэнтаў інстытута накіроўваецца на практыку ў вядучыя краіны Еўропы — Германію, Францыю, Швейцарыю і іншыя. Мяркую, што гэта садзейнічае не толькі больш глыбокаму вывучэнню замежнай мовы ці авалоданню прагрэсіўнымі тэхналогіямі, але і пашырэнню дзелавых кантактаў у будучым.

**— Вітольд Казіміравіч, якія навуковыя распрацоўкі лічыце прыярытэтнымі і наколькі яны паспяхова вядуцца?**

— Інстытут прымае актыўны ўдзел у рэалізацыі праекта па забеспячэнню краіны харчовым збожжам, у першую чаргу пшаніцай. Напрыклад, сарты, над якімі працуе дацэнт Канстанцін Каляда разам з НДІ земляробства, нядрэнна зарэкамендавалі сябе ў Брэсцкай і Гродзенскай абласцях і адпавядаюць самым высокім патрабаванням.

Нашы вучоныя шмат працуюць над развіццём так званага альтэрнатыўнага земляробства, гэта значыць над прымяненнем новых формаў і відаў угнаенняў, распрацаваных сумесна з інстытутам азотнай прамысловасці. Сутнасць яго ў тым, каб пры меншай колькасці ўгнаенняў дасягнуць большага эфекту.



**Падрыхтоўка калекцыі хатніх лекавых раслін для заняткаў са студэнтамі агранамічнага факультэта па спецыялізацыі «Лекавыя расліны».**

Акрамя гэтага вядуцца актуальныя распрацоўкі па вырошчванню бульбы і цукровых буракоў, лекавых раслін, вострых прыпраў і хмелю.

У жывёлагадоўлі, як вядома, адна з цэнтральных праблем — арганізацыя паўнацэннага кармлення жывёлы. Вядома, што многія кампаненты для прыгатавання кармоў набываюцца за мяжой. Нашы вучоныя распрацавалі рэцэптуру субканцэнтратаў, якая можа выкарыстоўвацца з вялікім поспехам у камбікормавай вытворчасці. Кармы атрымліваюцца значна таннейшымі.

**— І ўсё ж асноўная задача інстытута — падрыхтоўка кадраў. Ім, маладым спецыялістам, ствараць будучыню вёскі і дзяржавы ў цэлым. Яны не павінны быць толькі дакладнымі выканаўцамі сваіх функцыянальных абавязкаў, а больш шырока бачыць сваю місію, працаваць у цэлым на перспектыву, быць творцамі.**

— Сапраўды, гэта важна: падрыхтаваць не толькі выдатнага спецыяліста, але і ўсебакова развітога, думаючага чалавека, з высокімі грамадзянскімі якасцямі. Зразумела, усё гэта ўзаемазвязана. Граматны спецыяліст, як правіла, і чалавек з шырокім кругаглядам. Наша задача — даць студэнту не толькі канкрэтныя веды па спецыяльнасці, але і навучыць яго думаць, творча працаваць. Вось чаму мы крыху карэкціруем навучальны працэс, робячы ўхіл на самастойныя формы навучання, а таксама на правядзенне дзелавых гульняў з прапрацоўкай канкрэтных вытворчых сітуацый. Накіроўваючы на вытворчую практыку, асабліва на пераддыпломную, імкнемся зрабіць так, каб амаль што выпускнік інстытута змог самастойна папрацаваць, адчуць спецыфіку работы. Дарэчы, многія з такіх практыкантаў вельмі добра зарэкамендоўваюць сябе, а таму атрымліваюць і запрашэнні на пастаянную работу ў гэтыя гаспадаркі.

**— Праблема, як вядома, не толькі вашага інстытута, але і многіх іншых: замацаванне спецыялістаў на вёсцы. Мы патрабуем, каб чалавек працаваў па спецыяльнасці. Ці разумна эта? На Захадзе лічыцца нармальным, калі чалавек нават з вышэйшай адукацыяй часта мяняе не толькі месца работы, але і прафесію.**

— На падрыхтоўку спецыяліста сельскай гаспадаркі дзяржава выдаткавала вялікія грошы, разлічваючы, што ён будзе працаваць у гэтай сферы, каб грошы, значна большыя, вярнуліся ёй. На Захадзе пераважная большасць студэнтаў плаціць за навучанне, а потым яны самастойна ўладкоўваюцца на працу. І вы маеце рацыю. Напрыклад, толькі 16 працэнтаў выпускнікоў Бонскага універсітэта едуць працаваць па спецыяльнасці. У нас асаблівая праблема ў тым, што хлопцы, закончыўшы інстытут, а потым адслужыўшы ў арміі, ужо рэдка вяртаюцца ў калгас ці саўгас. Яны ідуць працаваць на мытню, у бізнес — туды, дзе больш могуць зарабіць. Па нашых падліках, такіх штогод набіраецца каля 30 працэнтаў.

Канешне, шмат усяму гэтаму прычын. Яны вядомыя. Тым не менш, са свайго боку мы шукаем выхады з такой сітуацыі. Па-першае, аддаём перавагу тым, хто накіроўваецца гаспадаркамі — яны, як правіла, абавязкова вяртаюцца туды. Па-другое, імкнёмся ўкараняць новыя формы падрыхтоўкі спецыялістаў, у прыватнасці, інтэграваную сістэму бесперапыннага навучання. Навучэнцы, якія закончылі на «выдатна» тэхнікум, вучонымі саветамі рэкамендуюцца адразу на трэці курс інстытута. За два з паловай гады яны атрымліваюць вышэйшую адукацыю. Як правіла, вучацца гэтыя студэнты добра, ды і замацоўваюцца на вёсцы лепш. Больш таго, эканоміцца значныя дзяржаўныя сродкі.



**Лабараторныя заняткі па студэнтамі агранамічнага факультэта завочнага аддзялення па вызначэнню мікраэлементаў у раслінах (аграхімічная лабараторыя).**

---

**Наш субяседнік, намеснік старшыні сельскагаспадарчага калектыўнага прадпрыемства» Абухава» Гродзенскага раёна Мікалай Феадосьевіч Рабчук, кажа, што яны разам са шматгадовым кіраўніком гаспадаркі Героем Сацыялістычнай Працы Іллёй Пятровічам Сянько любяць слухаць «музыку поля». Гэта калі поле роўнае, акуратнае, а тэхніка як след дагледжана, працуе як гадзіннік.**

# *СКП «Абухава»:* «Пад разумныя тэхналогіі патрэбны сучасныя машыны. А для гэтага неабходна ўключаць у работу мазгі»



**Лепшыя работнікі свінагадоўчага комплекса Алена Булах, Юрый КАРНЕЙ, Ірына АРЦУКЕВІЧ, Іосіф СКОРБ, Яраслава КОШМАР і Галіна ГРЫНЕЎСКАЯ.**



**Прадукцыя калгаснага мясакамбіната карыстаецца добрым попытам і ў вяскоўца, і ў наведвальнікаў фірменнай крамы ў Гродне.**



**Гэтага прыгажуна, якога вы бачыце на здымку, у дылерскім цэнтры «МТЗ», размешчаным у «Абухава», набыў калгас «Ніва» Берастравіцкага раёна. Рыхтуе машыны да продажу майстар-наладчык Аляксандр КРАЎЦЭВІЧ. Гаспадарка ажыццяўляе і гарантыйнае абслугоўванне прададзенай тэхнікі.**

**Фота Аркадзя ПЕРАХОДА.**

— Сельская гаспадарка любой краіны трымаецца на чатырох «кітах», — гаворыць Мікалай Рабчук, — гэта зямля, людзі, тэхналогія і тэхніка. Усё тут узаемазвязана і пакуль асабліва пахваліцца большасці нашых аграрнікаў няма чым. Працуем затратнымі метадамі, шмат разоў зямлю варочаем, трамбуем, распыляем. І ў выніку не атрымліваем ад яе патрэбнай аддачы. Рэальныя беларускія ўраджаі павінны быць у сярэднім 40—50 цэнтнераў збожжа з гектара, мінімум 300—400 цэнтнераў бульбы і 500—600 цэнтнераў цукровых буракоў. Нам яшчэ да такіх паказчыкаў далёка. І адна з галоўных прычын — устарэлыя тэхналогіі.

Пад новыя, больш разумныя тэхналогіі ў Беларусі неабходна стварыць сістэму машын. Сёння ў краіне не выпрацоўваецца нават нармальны плуг, і таму мы не аром, а калупаем зямлю, робім яе няроўнай. На мой погляд, сельскагаспадарчае машынабудаванне дазваляе нам мець, умоўна, 99,9 працэнта айчыннай тэхнікі. І найбольш блізка да вырашэння гэтай праблемы, лічу, падышоў Мінскі трактарны завод. Ужо створана альбо знаходзіцца ў эксперыментальных варыянтах шырокая гама трактароў.

Дарэчы, не без удзелу працаўнікоў «Абухава»...

— У свой час нам пашанцавала. Былі ў сталіцы, сустрэліся са спецыялістамі МТЗ, расказалі, што ёсць у Гродзенскім раёне гаспадарка, якая вось так і працуе. А яны: «Такога быць не можа». Прыехалі, паглядзелі і кажуць, што хацелі б выпрабоўваць у нас трактары. Але пры ўмове, што напрацоўка складзе тры тысячы гадзін у год, каб хутчэй выявіць недахопы. І вось у 1994 годзе першыя трактары «МТЗ-1220» (пасля некаторай мадэрнізацыі —»МТЗ-1221") паступілі ў нашу гаспадарку. Яны працавалі і ўдзень, і ўначы, з улікам нашых заўваг спецыялісты завода многае ўдасканалілі. Сёлета будзем выпрабоўваць чатыры мадэлі трактароў. Дарэчы, тады ж, у 1994 годзе, пару трактароў, нават яшчэ макетны ўзор, мы купілі. А на сёння ўжо амаль поўнасцю пераарыентаваліся на мінскую тэхніку. І не шкадуем.

Мы ўжо чатыры разы параўноўвалі на ворыве розныя тыпы трактароў, уключаючы «К-700», «Т-150», польскі «Урсус» і розныя маркі «МТЗ». Аказалася, што самы эканамічны — «МТЗ-1221». У параўнанні з «Кіраўцам» на гектар ворыва ён расходуе амаль на вядро саляркі менш. А нядаўна на выпрабаваннях у Ленінградскай вобласці гэты «мінчанін» пераўзышоў па эканамічнасці трактар вядомай фінскай фірмы «VALMET».

**— А як з камфортам для механізатараў?**

— Ёсць яшчэ недапрацоўкі. Лепшай павінна быць вентыляцыя кабіны, каб трактарыст не пакутаваў ад спёкі. Патрэбны больш зручныя сядзенні. Па маёй інфармацыі, Бабруйскі завод трактарных дэталяў ужо зрабіў новае сядзенне.

**— У чым выгада вашай гаспадаркі ад супрацоўніцтва з трактарабудаўнікамі?**

— Выгада перш за ўсё творчая. Кантакты з выпрабавальнікамі МТЗ вельмі моцна павысілі тэхнічны ўзровень нашых інжынераў і механізатараў. Мы пачалі амаль разумна выкарыстоўваць трактары. Напрыклад, сёння на ворыве трактарам «МТЗ» трэба абавязкова працаваць з аўтаблакіроўкай ці блакіроўкай колаў. Бо тады ўсе колы ў роўных умовах, менш буксуюць. Другое — баластыроўка. Трактар лёгкі — падчапіў плуг, можа, рухавік і дастатковай магутнасці, а колы будуць коўзаць, як па лёдзе, буксаваць. Таму, каб нармальна загрузіць трактар, патрэбны баласт — грузы на колах альбо залiўка вады ў шыны. Звычайна гэтага ніхто ніколі не робіць. Адзін інжынер з іншага калгаса так прама і сказаў, што ён аб гэтым нават і не думаў.

**— Самі навучыліся, цяпер і калег вучыце?**

— Паколькі мы асвоілі граматнае выкарыстанне, абслугоўванне і рамонт трактароў, у нас створаны дылерскі цэнтр МТЗ, ужо прадалі іншым гаспадаркам 20 машын. Цяпер сумесна з заводам ствараем вучэбны цэнтр. Будзем вучыць спецыялістаў і механізатараў тых гаспадарак, якія купляюць тэхніку, а таксама, за нейкую плату, усіх жадаючых. Летась такая вучоба ў нас ужо праводзілася. Прыехалі 60 чалавек. І што цікава. На многіх семінарах звычайна ў першы дзень слухаюць, а назаўтра — разбягаюцца. А тут на другі дзень — стопрацэнтная яўка, мора пытанняў. Бо людзі ўбачылі карысць.

**— Як вы ацэньваеце іншыя сельскагаспадарчыя машыны і агрэгаты, што вырабляюць у нашай краіне?**

— Нядрэнныя машыны вырабляе бабруйскі «Аграмаш» гноераскідвальнікі, для ўнясення мінеральных угнаенняў, прэсы рулонныя, кормараздатчыкі, касілкі ротарныя...

«Гомсельмаш». Тое, што ён выпускаў раней, вельмі ненадзейнае. Прычына не ў самім прадпрыемстве, а ў камплектуючых, якія яму калісьці навязалі. У прыватнасці, ненадзейныя рухавікі з Украіны, гідраўліка. Але галоўнае, на мой погляд, у тым, што на «Гомсельмашы» высокія накладныя выдаткі (завод вялікі, а прадукцыі вырабляецца няшмат), а адсюль і дарагоўля. З такімі цэнамі цяжка будзе прабіцца ў рынак.

А вось ГСКБ пры аб'яднанні (з самастойным рахункам, балансам) працуе цікава. Нядаўна ў нас праходзіў выпрабаванні буракаўборачны комплекс «КСН—ППК-6». У параўнанні з тым, што мы мелі раней, гэта тэхніка на галаву вышэй — лепшая якасць уборкі, менш стратаў. Цікавыя ў іх касілкі для скошвання траў у валкі. А камбайнам «Палессе—Ротар» мы летась убіралі кукурузу. Вынік вельмі добры.

**— Але ж вядома, як цяжка, а для большасці калгасаў проста немагчыма купіць новую тэхніку. Грошы...**

— Так, у цяперашніх умовах «выплываюць» нямногія. Нават наша, даволі моцная гаспадарка не гарантавана ад таго, што не пачне пускаць «бурбалкі». Цэнаўтварэнне, крэдытаванне — вельмі балючыя праблемы. Мне здаецца, што фінансавая падтрымка дзяржавы павінна быць адраснай. Але хачу падкрэсліць, што і тэхніка — нішто без сапраўднага гаспадара.

**— Дык што ж сёння галоўнае?**

— Шукаць і ўключаць у работу мазгі. Разбірацца, думаць, пачынаць стварэнне сучаснай і разумнай сельскай гаспадаркі XXI стагоддзя. Іншага шляху няма.

# Рэфарміраванне сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, ператварэнне іх у рынычныя структуры з'яўляецца ўсёабдымным працэсам і ажыццяўляцца ён павінен на комплекснай аснове з ахопам усіх важнейшых арганізацыйна-эканамічных, тэхніка-тэхналагічных і сацыяльных фактараў

**Уладзімір ГУСАКОЎ,**
**доктар эканамічных навук, член-кар. Акадэміі аграрных навук;**
**Барыс ШАПІРА,**
**доктар эканамічных навук, прафесар.**

**Рэфарміраванне прадпрыемстваў — аб'ектыўны працэс. Яно абумоўлена неабходнасцю прывядзення ў адпаведнасць вытворчых адносінаў, у тым ліку структур кіравання і арганізацыйнага ўладкавання гаспадарак, з узроўнем і характарам прадукцыйных сіл. Гэта зусім натуральна, таму што працэсы развіцця і ўдасканалення бясконцыя, яны ўласцівы ўсім без выключэння краінам. Таму рэфарміраванне трэба разглядаць менавіта ў такім кантэксце.**

**Рэфарміраванне — гэта не разбурэнне сталай аграрнай эканамічнай сістэмы, а яе ўдасканаленне з мэтай больш паскоранага і эфектыўнага развіцця вытворчасці і ўздыму эфектыўнасці галіны. Менавіта так трэба разумець цяперашняе рэфарміраванне сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, у іншым выпадку яно марнае і нават шкоднае. Рэфарміраванне без павышэння эфектыўнасці гаспадарання дыскрэдытуе саму гэту ідэю, што цяпер і назіраецца ў Беларусі. Амаль 1000 гаспадарак як бы і сталі на шлях рэфарміравання — размеркавалі маёмасць на паі і долі паміж членамі калектыву, змянілі назвы, але на гэтым рух і прыпыніўся. На практыцы эфектыўнасць вытворчасці не толькі не ўзрасла, але і значна знізілася. З гэтага, відаць, і робіцца выснова, што рэфарміраванне нічога не дае. Але, па сутнасці, сапраўднага рэфармаірвання і не было. Былі толькі першыя падыходы і спробы арганізацыйнага характару, якія не пацверджаны эканамічнымі мерамі. А без эканамічнай зацікаўленасці арганізацыйна-кіраўніцкія рашэнні не маюць сэнсу.**

## Чаму ў Беларусі неабходна маштабнае рэфарміраванне сельскагаспадарчых прадпрыемстваў?

Ёсць тры групы карэнных прычын. **Першая датычыць прававога аспекту**. Так, новая рэдакцыя Канстытуцыі краіны прадугледжвае дзве формы ўласнасці — дзяржаўную і прыватную. У ёй адсутнічае калектыўная форма, на якой заснавана калектыўная вытворчасць. Таму дзеючы цяпер Статут калгаса супярэчыць дзеючай Канстытуцыі, таму што прадугледжвае непадзельны фонд і калектыўную ўласнасць.

Супярэчанні з Асноўным законам ставяць калгасы па-за прававым полем. Іх уласнасць не можа рэгулявацца заканадаўствам, заснаваным на новай Канстытуцыі. Але такое неправавое становішча цяперашніх калгасаў доўга працягвацца не можа. Неабходна прывесці форму ўласнасці калгасаў у адпаведнасць з Канстытуцыяй, пакуль гэтага не запатрабавалі вышэйшыя заканадаўчыя органы, у тым ліку і Канстытуцыйны суд.

Гэта азначае, што **калгасам неадкладна трэба пераўтварыцца або ў дзяржаўныя прадпрыемствы (што немагчыма, таму што калектыўная ўласнасць не мае статусу дзяржаўнай), або ў прыватныя, што магчыма ў сувязі з тым, што гэтыя гаспадаркі спачатку фарміраваліся як калектыўна-долевыя і паявыя.** Прыйдзецца толькі вярнуцца да першапачатковага статусу калгасаў і пацвердзіць прыватныя долі таваравытворцаў і іх аб'яднанне ў прыватную сумесна-долевую ўласнасць на прынцыпах кааперацыі ў мэтах захавання і развіцця буйнатаварнай вытворчасці.

**Што датычыць саўгасаў, то гэта дзяржаўныя прадпрыемствы, якія базіруюцца на аднайменнай уласнасці і цалкам упісваюцца у заканадаўчыя акты,** што рэгулююць функцыянаванне і развіццё гэтых прадпрыемстваў. Але паколькі дзяржаўная ўласнасць адрозніваецца нізкай эфектыўнасцю, вялікай інертнасцю і кансерватыўнасцю, то ў адносінах да саўгасаў актуальна, па-першае, раздзяржаўленне, а па-другое, прыватызацыя іх маёмасці па тыпу калгасаў.

**Другая група прычын датычыць эканамічнага аспекту**. Непадзельная калектыўная ўласнасць цяперашніх калгасаў з'яўляецца абязлічанай і не стымулюе прадукцыйнай працы. Работнікі адарваныя ад уласнасці, не маюць магчымасці распараджацца маёмасцю і знаходзяцца, па сутнасці, на становішчы наёмнага персаналу, фактычна — пры наяўнасці сваіх доляў у створаных фондах. Таму важна перайсці ад матывацыі жывой працы пры дапамозе толькі заработнай платы да матывацыі эфектыўнасці працы пры дапамозе вызначэння і выкарыстання доляў уласнасці работнікаў у комплексе з матывацыяй працы ў сувязі з канчатковымі вынікамі вытворчасці. У свеце ўжо даказана, што магутнейшым стымулятарам працы з'яўляецца эканамічная зацікаўленасць, якая рэалізуецца праз выкарыстанне паю або долі ўласнасці, праз павелічэнне гэтага пая, яго расшыранае ўзнаўленне (пры дапамозе дывідэндаў, пакупкі і канцэнтрацыі паёў і доляў) і гарантыю яго свабоднага руху (перадача ў спадчыну, продаж, залог, здача ў арэнду і гэтак далей). Матывацыя працы праз аплату з'яўляецца другім па значнасці фактарам пасля матывацыі працы праз уласнасць.

Фарміраванне доляў уласнасці работнікаў, стварэнне прыватнага кааператыўна-долевага прадпрыемства прама накіроўвае ўладальнікаў на прадукцыйную і якасную працу, на зараблянне сродкаў і самафінансаванне, на вытворчасць пад рынычны попыт, на абгрунтаванне тэхналогій і сістэм машын у сувязі з неабходнасцю павышэння канкурэнцыі.

**Трэцяя група прычын зыходзіць з неабходнасці знешнеэканамічных адносінаў і прыцягнення ў Беларусь замежнага капіталу**. Справа ў тым, што з калектыўнымі і дзяржаўнымі прадпрыемствамі замежныя інвестары не жадаюць мець справы, ды і айчынныя таксама. Можна не звяртаць увагі на тое, што ў суседніх дзяржавах і нават у Расіі сельская гаспадарка амаль поўнасцю з'яўляецца прыватнай, можна спадзявацца на тое, што мы па-ранейшаму будзем выжываць за кошт сваіх сродкаў. Але гэта прынамсі наіўна і недальнабачна. Без інтэграцыі ў еўрапейскую сістэму, без пераходу на высокія тэхналогіі, без выкарыстання навейшай высокапрадукцыйнай тэхнікі наўрад ці ўдасца ў перспектыве канкурыраваць не толькі на Захадзе і ў Расіі, але і ў сябе дома. Ігнаруючы гэта, можна падоўжыць на нейкі час існаванне інертнай адзяржаўленай сельскай гаспадаркі, але гарантаваць стратэгічны рост немагчыма. Трэба імкнуцца шырэй прыцягваць замежны капітал і інтэгравацца ў міжнародныя эканамічныя сістэмы. Трэба сказаць і аб тым, што, па прагназах, да 2020—2030 гг., адбудзецца інтэрнацыяналізацыя і глабалізацыя сусветнай эканомікі, і калі Беларусь выпадзе з гэтага працэсу, то яе эканоміка практычна знікне.

Трэба адысці ад дзяржаўнай сельскай гаспадаркі і паступова перайсці на прыватную, самарэгулюемую і самафінансуемую, здольную да гібкага развіцця і ўдасканалення па законах рынку. Гэта, бясспрэчна, патрабуе буйных і карэнных рэформаў.

## Якія ж мадэлі рэфарміравання з'яўляюцца для сельскай гаспадаркі Беларусі прыярытэтнымі?

У інстытуце эканомікі цяпер адпрацавана і апрабавана на практыцы каля дзесятка розных мадэляў прадпрыемстваў рынычнага тыпу — ад акцыянерных таварыстваў закрытага тыпу да прадпрыемстваў, якія працуюць на прынцыпах гаспадарчага разліку па трох мадэлях, уключаючы кааператыўныя аб'яднанні, асацыяцыі таваравытворцаў, фермерскія гаспадаркі, аграфірмы. Усе распрацаваныя формы і мадэлі праваменрныя і рэзультатыўныя ў пэўных умовах гаспадарання. Усім ім уласціва свая спецыфіка, якая патрабуе наяўнасці аб'ектыўных абставінаў.

Аднак шматфактарны лараўнальны аналіз паказаў, што **найбольш мэтазгоднай для ўмоў Беларусі з'яўляецца ўсё ж кааператыўная форма, як найбольш даступная для разумення**, простая ў арганізацыі, якая мае гістарычныя асновы і дае магчымасць без вялікіх затрат арганізаваць новую эфектыўную прыватную гаспадарку на месцы ранейшай інертнай і бесперспектыўнай.

Новыя кааператывы павінны валодаць уласнасцю на ўсе віды асноўных сродкаў вытворчасці, пажадана, і на зямлю, а таксама на атрыманую прадукцыю: самастойна вызначаць структуру вытворчасці, рынкі збыту і дагаворныя цэны на рэалізуемую прадукцыю; перайсці на поўнае фінансавае самазабеспячэнне, г. зн. на самафінансаванне.

У гэтай сувязі сельскагаспадарчыя прадпрыемствы і іх унутрыгаспадарчыя падраздзяленні ў адносінах да сродкаў вытворчасці і характару працоўнай дзейнасці, матывацыі працы максімальна наблізяцца да свабоднага прадпрымальніцтва.

Фарміраванне новых вытворчых кааператываў на базе калгасаў і саўгасаў, не азначае расфарміравання гэтых гаспадарак шляхам разбівання іх на дробныя падраздзяленні. Мадэль рэарганізацыі, якая прапануецца, прадугледжвае аб'яднанне паёў (доляў) работнікаў і ўнутраных кааператываў на аснове тэхналагічных сувязяў з мэтай эфектыўнага сумеснага выкарыстання вытворчай і сацыяльнай інфраструктуры. Пярвічныя працоўныя калектывы пачнуць функцыянаваць як самастойныя гаспадарчыя суб'екты на аснове самафінансавання, а былыя калгасы (саўгасы) ператворацца ў асацыяцыю кааператываў, таварыствы, адкрытыя акцыянерныя таварыствы або таварыствы з абмежаванай адказнасцю. Яны стануць саюзам свабодных сялян, дзе ў ролі сялянскіх гаспадарак будуць выступаць не дробныя ЛПХ і фермеры, а свабодныя кааператывы, звязаныя тэхналогіяй.

Такім чынам, прагназіруючы асноўныя напрамкі рэфарміравання калгасаў (саўгасаў), **стаўка, па нашых даследаваннях, павінна быць зроблена пераважна на фарміраванне прыватных вытворчых кааператываў новага тыпу.**

Рэарганізацыя калгасаў, саўгасаў у прыватныя самакіруемыя вытворчыя кааператывы павінна быць і асноўным этапам аграрнай рэформы. Затым не выключана, што сяляне захочуць выйсці з кааператыва і самастойна весці справу, перааб'яднацца ў іншыя рынычныя структуры.

У вытворчых кааператывах людзі змогуць лепш прыстасавацца да работы ў рынычных умовах. Для многіх гаспадарак гэта будзе адаптацыйным перыядам, пасля якога можа шырока разгарнуцца пераход да акцыянерных таварыстваў, таварыстваў з абмежаванай адказнасцю і іншых рынычных структур. Прыватныя кааператывы — гэта не такі балючы і канфліктны шлях уступлення сялян у рынычную эканоміку. Гэта пацвярджаецца і вопытам рэфарміравання шэрагу нашых гаспадарак.

Падраздзяленні гаспадаркі, звязаныя з тэхнічным абслугоўваннем, выкананнем транспартных работ, работай машынна-трактарнага парка таксама павінны пераўтварацца ў кааператывы, увайсці ў кааператыўнае аб'яднанне і на платнай аснове выконваць паслугі па шырокаму профілю. Апраўдана стварэнне пры такіх кааператывах мабільных машынна-трактарных атрадаў, якія аказваюць дапамогу вытворчым кааператывам, сялянскім (фермерскім) гаспадаркам, асабістаму сектару ў правядзенні на платнай аснове сельскагаспадарчых работ.

Фарміраванне новых кааператываў дае магчымасць захаваць і развіць буйнатаварную вытворчасць, рэзка павысіць зацікаўленасць у працы, устанавіць прамую сувязь аплаты працы з вытворчымі вынікамі. Яна выключае «шокавыя» элементы і дае магчымасць плаўнага пераходу да рынычнай сістэмы гаспадарання. Такі шлях рэфарміравання прыгодны як для эканамічна моцных прадпрыемстваў, так і для слабых. Пры гэтым калектывы маюць магчымасць хутка ліквідаваць запазычанасць і стварыць умовы для ўмацавання свайго эканамічнага стану. Кааперацыя стварае базу таксама для далейшых рынычных пераўтварэнняў гаспадаркі па тыпу закрытых і адкрытых акцыянерных таварыстваў.

Кааперацыя дае магчымасць аб'ядноць сродкі і капіталы для набыцця дарагой тэхнікі і мадэрнізацыі абсталявання, ствараць сумесныя перапрацоўчыя прадпрыемствы, арганізаваць эфектыўны збыт прадукцыі. Яна забяспечвае рацыянальны падзел працы, спецыялізацыю і інтэграцыю вытворчасці.

## Чаму сістэма кааперацыі неабходна на ўзроўні раёна?

Вучоныя інстытута эканомікі лічаць неабходным і прапануюць па рашэнню Мінсельгасхарчу адпрацаваць сістэму вытворчай, перапрацоўчай, збытавой і аграсервіснай кааперацыі на ўзроўні АПК раёна. Чаму гэта неабходна? Ды таму, што, напрыклад, рэфарміраванне асобна ўзятага прадпрыемства ў кааператыўнае аб'яднанне ў адрыве ад іншых прадпрыемстваў АПК і без сувязі з сістэмай стымулюючых эканамічных мераў малаэфектыўнае. Калі ж гэта рабіць у комплексе на ўзроўні адміністрацыйнага раёна, то ўсе названыя праблемы можна вырашыць у лагічнай узаемасувязі. Акрамя арганізацыйнага рэфарміравання сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у самакіруемыя прыватныя буйнатаварныя вытворчыя кааператывы ў рамках адміністрацыйнага раёна можна сфарміраваць міжгаспадарчыя кааператывы (комплексы) па вытворчасці мяса і малака, г. зн. галіновыя кааператывы па харчоваму прынцыпу; буйныя перапрацоўчыя і збытавыя прадпрыемствы і фірмы на кааператыўных пачатках; аграсервісныя і забеспячэнскія прадпрыемствы на кааператыўных прынцыпах. Такім чынам расшыраюцца магчымасці набыцця складанай і дарагой тэхнікі на кааператыўных умовах, укаранення высокіх тэхналогій, выканання навуковых даследаванняў і заказаў, расшыранага ўзнаўлення.

Але для таго, **каб розныя формы аграпрамысловай кааперацыі сталі магчымымі, неабходны, як мінімум, тры ўмовы. Першая** — стварэнне дастатковага прававога поля. Гэта патрабуе прыняцця хоць бы законаў аб адаптацыі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў да рынычных умоў, аб сельскагаспадарчай кааперацыі і аб дзяржаўным рэгуляванні АПК, праекты якіх падрыхтаваны і ўжо даўно ходзяць па розных інстанцыях. **Другая** — расшырэнне эканамічнай свабоды сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у вызначэнні напрамкаў гаспадарчай дзейнасці, распараджэнні атрыманай прадукцыяй і даходамі ад яе рэалізацыі. **Трэцяя** — перавод усіх гаспадарак на самаакупнасць і самафінансаванне вытворчай дзейнасці і наданне дзяржаўнай дапамозе строга праграмна-мэтавага характару.

## Як рэфарміраваць неплацежаздольныя стратныя гаспадаркі

Тут трэба ў кожным канкрэтным выпадку падыходзіць дыферэнцыравана ў залежнасці ад фінансавага стану, прыродна-кліматычных умоў, характару вытворчай дзейнасці, месца на рынку сельскагаспадарчай прадукцыі і інш.

Пры іх рэарганізацыі **магчымы два даволі процілеглыя варыянты**, звязаныя з **захаваннем прадпрыемства і яго наступнай рэструктурызацыяй і ліквідацыяй прадпрыемства на добраахвотнай аснове або па заканадаўству аб яго неплацежаздольнасці (банкруцтве).**

**Сельскагаспадарчым прадпрыемствам, якія рэарганізуюцца па першаму варыянту**, трэба даць поўную эканамічную самастойнасць (свабоду) у вытворчасці прадукцыі і яе рэалізацыі, аказаць прамую дзяржаўную падтрымку (прадастаўленне льготных крэдытаў, папярэдняе авансаванне пад закупляемую прадукцыю, адтэрміноўкі па абавязковых плацяжах у бюджэт, розныя датацыі і субсідыі і г. д.). Асабліва важна наладзіць забеспячэнне такіх гаспадарак сельскагаспадарчай тэхнікай, машынамі і абсталяваннем на ўмовах лізінгу з растэрміноўкай плацяжу на ўвесь тэрмін яго дзеяння. Трэба таксама забяспечыць дзяржаўнае рэгуляванне ўзроўню цэн на атрыманую сельскагаспадарчую прадукцыю.

**Рэарганізацыя неплацежаздольных гаспадарак па другому сцэнарыю** можа быць ажыццёўлена ў форме аб'яднання, далучэння, падзелу, выдзялення або пераўтварэння. Неабходна зыходзіць з кожнага канкрэтнага выпадку. Неплацежаздольная гаспадарка можа быць далучана да эканамічна моцнага сельскагаспадарчага прадпрыемства або ў якасці падсобнай вытворчасці да эфектыўна працуючых буйных заводаў, канцэрнаў, фірмаў і г. д. з захаваннем за імі статусу юрыдычнай асобы або без яго.

Магчыма, пэўнай групе неплацежаздольных прадпрыемстваў трэба ў першую чаргу спісаць наяўную запазычанасць. Затым іх ліквідацыя магчыма па наступнай схеме: зямля і маёмасць прадаецца на аўкцыёне ўсім жадаючым, уключаючы замежных інвестараў, калі такія знойдуцца. Пры адсутнасці жадаючых выкупіць зямлю і маёмасць яны перадаюцца бясплатна: а) жадаючым калгаснікам, работнікам саўгасаў для арганізацыі сваіх сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак; б) для павелічэння памераў асабістых падсобных гаспадарак; в) фермерам, якія жадаюць расшырыць памеры зямельных участкаў.

У неплацежаздольных гаспадарках мэтазгодна здаць у арэнду або арганізаваць продаж поўнасцю ці часткова ўсіх асноўных фондаў членам калгасаў, рабочым саўгасаў, фермерам, сельскагаспадарчым і прамысловым прадпрыемствам, замежным інвестарам пры захаванні профілю гаспадарчай дзейнасці.

З мэтай пагашэння наяўных запазычанасцяў апраўдана правесці ацэнку ўсёй маёмасці неплацежаздольнай гаспадаркі, рэалізаваць яе, разлічыцца з даўгамі, пасля чаго астатнюю маёмасць і зямельныя ўгоддзі падзяліць паміж членамі гаспадаркі і даць ім магчымасць гаспадарыць індывідуальна на правах фермераў або ў кааператыве. Новыя створаныя гаспадарчыя структуры павінны карыстацца льготным крэдытаваннем з выдзяленнем мэтавых крэдытаў пад закупку тэхнікі, гаручага і іншых неабходных сродкаў вытворчасці.

Трэба мець на ўвазе, што функцыянаванне ў далейшым прыватных таваравытворцаў і буйных кааператыўных асацыяцый будзе немагчыма пры існуючай сістэме падаткаабкладання і цэнаўтварэння ў сферы прамысловай вытворчасці, вырабы якой выкарыстоўваюцца ў сельскай гаспадарцы. Пры існуючых цэнах на гэту прадукцыю нават найбольш паспяховыя гаспадаркі будуць і ў далейшым мець вялікія фінансавыя цяжкасці пры іх набыцці, што будзе прыводзіць да значнага далейшага падаражання канчатковага прадукту і, як вынік, яго неканкурэнтаздольнасці як на ўнутраным, так і на знешніх рынках. Такім чынам, трэба «нармалізаваць» цэны на сродкі вытворчасці, якія пастаўляюцца прамысловасцю рэспублікі і з-за яе межаў.

Сацыяльна-культурную сферу неплацежаздольнасці прадпрыемстваў трэба неадкладна перадаць на баланс мясцовых органаў улады. Новыя фарміраванні павінны мець максімальную свабоду ў выбары спецыялізацыі і формаў рэалізацыі прадукцыі. Такія прадпрыемствы з улікам пажадання ўласнікаў на кантрактнай аснове павінны мець права наймаць кіраўніка і спецыялістаў апарату кіравання асацыяцыі, якія на гасразліковай аснове выконваюць кіраўніцкія функцыі для пярвічных падраздзяленняў.

## Які комплекс вытворчых і эканамічных мерапрыемстваў неабходна правесці пры рэфарміраванні?

**Сярод іх важнейшымі з'яўляюцца:**

- **інтэнсіфікацыя вытворчасці.** Трэба дасягнуць сярэднерэспубліканскай ураджайнасці збожжа не менш як 35—40 цэнтнераў з гектара, прывагі БРЖ на адкорме — 800—1000 г і свіней — не менш як 600 г. Пры такой прадуктыўнасці вытворчасць жывёлагадоўчай прадукцыі будзе эфектыўнай нават пры цяперашнім цэнаўтварэнні;
- **удасканаленне падаткаабкладання**. Замест 18—23 розных відаў падатку, збораў і плацяжоў неабходна мець два віды падаткаў — падатак на зямлю і падатак на даходы або ўласнасць. Агульны памер падаткаабкладання не павінен перавышаць 20 працэнтаў падаткаабкладаемага прыбытку;
- **доўгатэрміновыя крэдыты.** Важна расшырыць маштабы доўгатэрміновага крэдытавання капіталаёмкіх мерапрыемстваў. Доўгатэрміновыя крэдыты павінны складаць не менш як 25 працэнтаў агульнага аб'ёму крэдытных рэсурсаў, а гадавая працэнтная стаўка па крэдытах не павінна перавышаць 20 працэнтаў па ўсіх відах пазычаных сродкаў;
- **цэны**. Механізм цэнаўтварэння павінен забяспечваць рэнтабельнае вядзенне гаспадаркі пры сярэдніх умовах гаспадарання, але пры інтэнсіўнай вытворчасці. Горшыя прыродна-эканамічныя ўмовы павінны кампенсавацца дзяржавай. Аднак трэба дакладна ўсвядоміць, што парытэт міжгаліновага цэнаўтварэння 1990 года ўжо немагчымы, ды і немэтазгодны. У змененых эканамічных умовах няма неабходнасці ў той вялікай колькасці непрадукцыйных і металаёмкіх машын: патрэбна значна меншая колькасць, але высокаэфектыўных. Таму «рэсурсная карзінка» 1990 года ўстарэла. Патрэбны новыя канцэпцыя і праграма развіцця тэхнічнага прагрэсу;
- **пераспецыялізацыя гаспадарак**. Высокую эфектыўнасць і інтэнсіфікацыю вытворчасці, эфектыўнае выкарыстанне і высокую прадукцыйнасць сістэм машын можна дасягнуць пры паглыбленні і развіцці спецыялізацыі і падзелу працы. Ва ўмовах рынку амаль немагчыма мець высокаэфектыўную міжгаліновую гаспадарку. Кожнае прадпрыемства павінна спецыялізавацца на адным-двух асноўных прадуктах і адпрацоўваць тэхніку і тэхналогію іх вытворчасці. Спецыялізацыя павінна адпавядаць умовам гаспадарання, забяспечваць атрыманне найбольш таннай прадукцыі і арыентавацца на эфектыўны збыт і задавальненне спажывецкага попыту;
- **збыт**. Любая вытворчасць мае сэнс, калі ёсць надзейныя каналы збыту, якія забяспечваюць дастатковыя даходы для пакрыцця вытворчых затрат. Вытворчасць неканкурэнтнай, няякаснай і дарагой прадукцыі не прыносіць карысці. Гаспадарчая дзейнасць павінна завяршацца эфектыўным збытам і прыбыткам, які забяспечвае расшыранае ўзнаўленне за кошт уласных крыніц.

**Надаючы вялікае значэнне скарачэнню імпарту, у рэспубліцы прынялі Дзяржаўную праграму імпартазамяшчэння, якая заклікана вырашыць дзве важнейшыя задачы: скарачэнне імпарту на першым этапе і павелічэнне аб'ёмаў экспарту — на другім.**

**Праграма мае на мэце стварэнне імпартазамяшчальных вытворчасцяў, а таксама ажыццяўленне мерапрыемстваў па скарачэнню імпарту ў Рэспубліку Беларусь.**

# Сельскагаспадарчую вытворчасць краіны сёння немагчыма ўявіць без актыўнай знешнеэканамічнай дзейнасці

**Знешнеэканамічная дзейнасць міністэрства накіравана на вырашэнне задач па нарошчванню экспарту прадукцыі АПК, зніжэнню яе імпарту, бесперабойнаму забеспячэнню насельніцтва рэспублікі асноўнымі прадуктамі харчавання, прыцягненню замежных інвестыцый, абучэнню і стажыроўках спецыялістаў за мяжой, развіццю выставачнай і кірмашовай дзейнасці.**

**У 1997 годзе экспарт прадукцыі аграпрамысловага комплексу ўсіх формаў уласнасці склаў больш за 600 млн. долараў (рост да 1996 г. больш як 130 працэнтаў), у тым ліку па прадпрыемствах Мінсельгасхарчу — 285 млн. долараў, ці 114 працэнтаў да адпаведнага перыяду мінулага года пры заданні 113 працэнтаў.**

ПА-РАНЕЙШАМУ асноўнымі экспартнымі таварамі з'яўляюцца прадукцыя жывёлагадоўлі, бульба, агародніна, ільновалакно, харчовая соль. У 1997 годзе ў краіны далёкага і блізкага замежжа было экспартавана ў параўнанні з 1996 годам у 1,6 раза больш мяса, больш як 600 тыс. тон малакапрадуктаў, больш як 45 тыс. тон бульбы і агародніны, 17 тыс. тон ільновалакна, 160 тыс. тон харчовай солі. На экспарт пастаўляліся і іншыя віды прадукцыі (кандытарскія вырабы, маргарынавая і лікёра-гарэлачная прадукцыя, піва, безалкагольныя напіткі), якія ў структуры экспарту займаюць нязначную ўдзельную вагу.

У той жа час трэба адзначыць, што з прагнознымі паказчыкамі па экспарту прадукцыі не справіліся прадпрыемствы Брэсцкага, Віцебскага і Гродзенскага аблсельгасхарчаў (111,6; 105,1; 91,2 працэнта).

Выканана заданне і па скарачэнню імпарту прадукцыі для патрэб аграпрамысловага комплексу. Пры заданні 105 працэнтаў рост аб'ёму імпарту да ўзроўню 1996 года склаў 104,8 працэнта.

Асноўная доля імпарту прыпадае на прадукцыю, якая не выпрабляецца ў рэспубліцы ці вырабляецца ў недастатковай колькасці, а менавіта: алей, збожжа, мінеральныя ўгнаенні, хімічныя сродкі аховы раслін, ветпрэпараты, сыравіна для харчовай прамысловасці.

Значную частку прадукцыі сельскагаспадарчыя прадпрыемствы вымушаны пастаўляць на ўмовах бартэру. У асноўным бартэрныя здзелкі звязаны з неабходнасцю закупкі тавараў, якія не вырабляюцца ў рэспубліцы, а таксама па прычыне адсутнасці крэдытных рэсурсаў і праблем з канвертацыяй беларускай валюты.

Надаючы вялікае значэнне скарачэнню імпарту, у рэспубліцы прынялі Дзяржаўную праграму імпартазамяшчэння, якая заклікана вырашыць дзве важнейшыя задачы: скарачэнне імпарту на першым этапе і павелічэнне аб'ёмаў экспарту — на другім.

Праграма мае на мэце стварэнне імпартазамяшчальных вытворчасцяў, а таксама ажыццяўленне мерапрыемстваў па скарачэнню імпарту ў Рэспубліку Беларусь.

У праграму 1997 года было ўключана 10 праектаў, звязаных з рэканструкцыяй цукровых заводаў, стварэннем тэхналогіі і абсталявання для вырошчвання агародніны ў малааб'ёмнай культуры з кропельным палівам у зімовых цяпліцах і сэрвіснае абслугоўванне агародніцтва закрытага грунту, распрацоўкай лініі прыгатавання суперканцэнтрату, распрацоўкай сельскагаспадарчай тэхнікі (модульная зернесушылка, самаходны касілачны комплекс з камплектам жатак і прыстасаванняў, ратацыйнай касілкай-плюшчылкай да трактароў кл. 1,4).

Планавы аб'ём фінансавання праектаў Мінсельгасхарчу складаў 106 млрд. рублёў і 740 тыс. долараў ЗША. У якасці крыніц разглядаліся бюджэтныя, пазабюджэтныя, уласныя сродкі і крэдытныя рэсурсы.

Заданні дзяржаўнай праграмы выкананы не ў поўным аб'ёме па прычыне таго, што з боку галіновых глаўкаў і галаўных выканаўцаў не былі прыняты дастатковыя меры па адкрыццю іх фінансавання.

Па гэтай прычыне толькі часткова быў прафінансаваны за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту праект «Рэканструкцыя Мінскага ГМЗ № 1 з арганізацыяй вытворчасці бактэрыяльных заквасак і пажыўнага асяроддзя».

Не было адкрыта фінансаванне пяці праектаў, якія курыруе глаўк навукова-тэхнічнага прагрэсу.

З мэтай выканання мерапрыемстваў Дзяржаўнай праграмы імпартазамяшчэння і распрацоўкі галіновай праграмы імпартазамяшчэння ў аграпрамысловым комплексе глаўкам разам з Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэтам праводзілася работа па тэме «Перспектывы замяшчэння імпарту сельскагаспадарчай сыравіны і харчавання ў Рэспубліцы Беларусь».

Зроблена вялікая работа па рэалізацыі свабодных ад унутрырэспубліканскага ўжывання рэсурсаў на экспарт. Прадукцыя рэалізоўвалася ў асноўным на конкурснай аснове і па цэнах не ніжэйшых за індыкатыўныя. Індыкатыўныя цэны пераглядаліся ў аператыўным парадку ў залежнасці ад попыту і ўзроўню на сусветным рынку. Са жніўня 1997 года прадукцыя рэалізоўвалася ў асноўным толькі за замежную валюту і па бартэру.

Як паказала практыка, самая эфектыўная форма рэалізацыі прадукцыі на экспарт — гэта рэалізацыя яе праз конкурсныя таргі. Калі ідзе канкурэнцыя за права закупляць прадукцыю, узрастае цана. І ўносімыя прапановы аб увядзенні спецэкспарцёра памылковыя. У 1996 годзе ЗАТ «Белаграінгандаль» было вызначана спецэкспарцёрам па льновалакну і, як паказаў вынік, «Белаграінгандлем» было рэалізавана ўсяго толькі 10 працэнтаў ільновалакна ад агульнай колькасці рэалізаванага. Прычым іншыя фірмы закуплялі льновалакно ў ільнозаводаў па больш высокіх цэнах, чым «Белаграінгандаль». «Белаграінгандаль» пастаянна ставіў пытанне аб зніжэнні індыкатыўнай цаны. І ўвогуле трэба адзначыць, што «Белаграінгандаль» гатовы аказаць «дапамогу» ў рэалізацыі той ці іншай прадукцыі АПК у міжсезонны перыяд, калі аб'ём выпрацоўваемай прадукцыі забяспечвае патрэбнасці толькі ўнутранага рынку, тут фірма праяўляе актыўнасць, дабіваецца жаданага вырашэння і ва ўрон унутранаму рынку вывозіць прадукцыю за межы рэспублікі. У гэтым выпадку не трэба прыкладаць намаганняў па пошуку пакупнікоў — была б прадукцыя. Аблсельгасхарчы, маючы запазычанасць перад «Белаграінгандлем» за пастаўленую прадукцыю, прапаноўвалі яму ў летні перыяд масла, сухое малако, сыры сычужныя. «Белаграінгандаль» прымаў толькі масла, а ад сыроў і сухога малака адмаўляўся, але патрабаваў мяса. Мала таго, калі прадпрыемства знаходзіла пакупніка на сваю прадукцыю, яно павінна было накіроўваць яго ў «Белаграінгандаль» і рэалізоўваць праз яго сваю прадукцыю, але пры гэтым не ўсе пакупнікі праяўлялі жаданне купляць тавар праз «Белаграінгандаль». Вось і атрымліваецца, што самая выгадная форма рэалізацыі прадукцыі — праз правядзенне конкурсных таргоў ці шляхам устанаўлення індыкатыўных цэн. Форма рэалізацыі праз спецэкспарцёраў не апраўдвае сябе, таму што спецэкспарцёр дыктуе цану як манапаліст і не нясе ніякай адказнасці за невыкананне ўскладзеных на яго функцый.

Работа ў галіне прыцягнення замежных інвестыцый у аграпрамысловы комплекс рэспублікі была накіравана на вырашэнне задач, звязаных з тэхнічным і тэхналагічным пераснашчэннем дзеючых вытворчасцяў, арыентаваных у канчатковым выніку на пашырэнне экспартнага патэнцыялу.

Трэба адзначыць, што значна скараціліся крыніцы замежных інвестыцый. У 1997 годзе Беларусі ўрадам Германіі не быў прадастаўлены платфонд, прыпынена дзеянне аўстрыйскай крэдытнай лініі, урад Швейцарыі таксама прыняў рашэнне аб часовым прыпыненні праграмы фінансавай і тэхнічнай дапамогі Беларусі, прыпынена выдзяленне 2-й траншы крэдыту «стэнд-бай» Міжнароднага валютнага фонду ў сувязі з пазіцыяй яго кіраўніцтва ў адносінах да правядзення эканамічных рэформаў у Рэспубліцы Беларусь, прадастаўленне новых крэдытаў Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця будзе магчыма ў выпадку выканання палажэнняў Мемарандума аб узаемаразуменні, падпісанага паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Сусветным банкам 18.06.1997 г.



Але, тым не менш, былі і дзеючыя крэдытныя лініі — гэта крэдытная лінія турэцкага «Эксімбанка», іспанская крэдытная лінія, крэдытная лінія Бельгіі.

Пры наяўнасці гэтых крыніц і ва ўмовах дэфіцыту фінансавання аграпрамысловага комплексу з боку асобных суб'ектаў гаспадарання, а таксама раённых і абласных камітэтаў па сельскай гаспадарцы і харчаванню мае месца нізкая актыўнасць, можна нават сказаць пасіўнасць, у той час як міністэрства пастаянна ўказвае на неабходнасць распрацоўкі інвестыцыйных праектаў і інфармуе аб магчымых крыніцах фінансавання.

У 1997 годзе прадпрыемствамі аграпрамысловага комплексу пералічана Мінфіну каля 9 млн. ДМ за карыстанне замежнымі крэдытамі.

*Аднак па ўзятых замежных крэдытах пад гарантыю Урада Рэспублікі Беларусь маюць месца такія праблемы:*

*своечасовасць правядзення разлікаў па ўзятых крэдытах і ўплаце працэнтаў па іх. Маюць пастаянную пратэрмінаваную запазычанасць перад Мінфінам па крэдыту АКА/Гермес прадпрыемствы Брэсцкага, Віцебскага, Гомельскага, Гродзенскага, Мінскага аблсельгасхарчаў;*

*слабы кантроль з боку гэтых жа аблсельгасхарчаў за рэалізацыяй інвестыцыйных праектаў, на якія выкарыстаны замежныя крэдыты пад гарантыю Урада Рэспублікі Беларусь.*

Пытанне «Аб стане разлікаў за замежныя крэдыты, узятыя прадпрыемствамі аграпрамысловага комплексу пад гарантыі ўрада Рэспублікі Беларусь» разгледжана на калегіі Мінсельгасхарчу.

З мэтай урэгулявання разлікаў з Мінфінам матэрыялы па крэдыту АКА/Гермес былі разгледжаны на пасяджэнні валютна-крэдытнай камісіі Савета Міністраў.

Для вырашэння праблем у сельскай гаспадарцы і перапрацоўчых галінах быў прыняты шэраг мераў па пошуку іншых крыніц фінансавання ў выглядзе рэалізацыі сумесных праектаў, а таксама крэдытаў замежных і беларускіх камерцыйных банкаў.

Пры падтрымцы міністэрства харчавання, сельскай і лясной гаспадаркі зямлі Брандэнбург (Германія) распрацоўваецца праект «Канцэпцыі развіцця сельскагаспадарчага рэгіёна ў Рэспубліцы Беларусь на прыкладзе Капыльскага раёна.»

Галоўная мэта праекта — стварэнне абагульненага прыкладу развіцця сельскага рэгіёна з новымі формамі гаспадарання.

Маюцца першыя вынікі праекта, звязаныя з рэфарміраваннем калгасаў, а менавіта: на базе калгасаў «1-е Мая», «Іскра Леніна» і імя Дзяржынскага створаны акцыянерныя таварыствы «1-е Мая», «Маліна» і «Макраны».

У выніку рэалізацыі праекта «Арганізацыя аграрна-кансультацыйнай службы ў Рэспубліцы Беларусь» створана першая ў Беларусі аграрна-кансультацыйная служба ў Брэсцкім аблсельгасхарчы і распрацаваны прыкладны праект дзеючай сістэмы падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі кансультантаў у аграпрамысловым комплексе Брэсцкай вобласці, які ўзяты за аснову ў арганізацыі агракансультацыйнай і аграмаркетынгавай службаў АПК Рэспублікі Беларусь.

У якасці станоўчага прыкладу ў рабоце з крэдытамі міжнародных банкаў можна назваць ляхавіцкі завод «Металапластмас», які прыцягнуў крэдыт Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця ў суме 0,7 млн. долараў ЗША для арганізацыі вытворчасці накрывак «твіст-офф». За кошт гэтага крэдыту будзе закуплена італьянская лінія, якая забяспечыць у 1998 годзе выраб 20 млн. штук адпаведных накрывак, спажыўцамі якіх стануць кансервавыя прадпрыемствы рэспублікі.

Зроблена вялікая работа па прыцягненню фінансавання новых тэхналогій у галіне перапрацоўкі лёну. На заключным этапе ўзгаднення фінансавання ў АКБ «Беларусбанк» знаходзіцца праект «Арганізацыя вытворчасці катанізаванага льновалакна на Нясвіжскім ільнозаводзе». Праектам прадугледжваецца вытворчасць 1 тыс. тон катанізаванага льновалакна, пастаўка якога плануецца на экспарт. Вялікую патрэбнасць у катанізаваным ільновалакне адчуваюць і прадпрыемствы лёгкай прамысловасці рэспублікі.

*У мінулым годзе быў зроблены ўпор на прыцягненне знешняга капіталу ў выглядзе прамых і «партфельных» інвестыцый.*

Калгас «Прыбужжа» Брэсцкага раёна з нямецкай фірмай «Агрома» разглядае пытанне аб стварэнні сумеснага прадпрыемства па рамонту кормаўборачнай тэхнікі вытворчасці нямецкіх фірмаў і яе сэрвіснаму абслугоўванню. Цяпер калгас з'яўляецца дылерам фірмы па пастаўцы поўнакамплектных кормаўбораных машын, агрэгатаў і запасных частак да іх.

На базе БелНДІ жывёлагадоўлі, ДВГ «Будагава», Брэсцкага аблдзяржплемпрадпрыемства, племяннога завода «Прамень», племянных саўгасаў «Мухавец», «Заказельскі» і калгаса «Беларуская ніва» ажыццяўляліся работы па ўкараненню сумесных прапаноў нямецкіх і беларускіх спецыялістаў па асобных напрамках развіцця племяннóй справы ў жывёлагадоўлі.

Мэта праекта — аналіз сучаснага стану ўтрымання і развядзення БРЖ у Беларусі і Германіі, а таксама кансультаванне беларускіх спецыялістаў па пытаннях племяннога ўліку, ацэнкі племяннóй каштоўнасці жывёл, стварэнню кармавой базы для племяннóй жывёлы.

***Жыліцкі саўгас-тэхнікум разам з нямецкай фірмай АСКО NOW-HOW правёў наступную работу:***

*на базе нямецкіх навучальных устаноў праведзена 3-месячная стажыроўка выкладчыкаў тэхнікумаў;*

*праведзены семінар па пладаводству і агародніцтву з удзелам нямецкіх спецыялістаў і вучоных;*

*закладзены вучэбны сад на плошчы 5 га;*

*зроблена вучэбная цяпліца, аснашчаная самым сучасным абсталяваннем;*

*распрацавана і зацверджана новая вучэбная праграма;*

*у рамках праекта пастаўлены прыборы, інструменты, тэхнічныя сродкі навучання і сродкі аховы раслін.*

Да інвесціравання вытворчасці і перапрацоўкі цукровых буракоў праявілі цікавасць канцэрны з Германіі («Зюдцукер») і Даніі («Даніско»). Канцэрн «Зюдцукер» прадаставіў цукровым заводам таварны крэдыт пад буракасейную тэхніку на суму 320 тыс. ДМ. Праведзеная сумесная работа з канцэрнам «Зюдцукер» дае падставы меркаваць аб пашырэнні ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

Праводзілася работа па стварэнню сумеснага прадпрыемства з фірмай «Рэйнольдс» на базе маёмасці Гродзенскай тытунёвай фабрыкі. З удзелам маёмасці прадпрыемстваў рэспубліканскай уласнасці створаны два сумесныя прадпрыемствы: беларуска-польскае па вытворчасці віна (заснавальнік эксперыментальная база «Руткевічы») і беларуска-расійска-славацкая па ўкараненню новых тэхналогій і відаў мяса-малочнай прадукцыі (беларускі заснавальнік — БелНДІКТІММП).

Працягвалася работа і па праектах стажыровак маладых спецыялістаў сельскай гаспадаркі, фермераў і студэнтаў навучальных устаноў Беларусі ў фермерскіх гаспадарках і фірмах Германіі, студэнтаў сельскагаспадарчых навучальных устаноў у фермерскіх гаспадарках Швейцарыі, спецыялістаў прадпрыемстваў і арганізацый галіны па праграме «Мошав» у Ізраілі, па навучанню на курсах па пытаннях птушкагадоўлі ў Егіпце, па жывёлаводству ў Тайландзе і інш.

Праграмы тэхнічнага садзейнічання прызначаны для аказання розных відаў тэхнічнай дапамогі прадпрыемствам. Цяпер узгадняецца праграма тэхнічнага садзейнічання на 1998 год у рамках беларуска-германскага савета эканамічнага супрацоўніцтва, якой прадугледжваецца ўдзел нашых прадпрыемстваў і арганізацый у 23 праектах, распрацаваны рабочыя планы змешаных камісій па гандлёва-эканамічнаму супрацоўніцтву з Румыніяй, Балгарыяй, Славакіяй, Саюзнай Рэспублікай Югаславіяй, Польшчай, краінамі Балтыі і іншымі краінамі далёкага і блізкага замежжа.

У 1997 годзе падрыхтаваны праекты пагадненняў паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і ўрадамі Венгерскай Рэспублікі, Чэшскай Рэспублікі ў галіне каранціну і абароны раслін і ветэрынарыі, паміж галіновымі міністэрствамі Беларусі і Балгарыі — аб эканамічным і навукова-тэхнічным супрацоўніцтве. Па ўказаных пагадненнях Саветам Міністраў прыняты адпаведныя пастановы ўрада. У ходзе афіцыйнага візіту Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнкі ў Кіеў падпісаны пагадненні паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і ўрадам Украіны аб супрацоўніцтве ў галіне каранціну раслін, паміж галіновымі міністэрствамі — аб эканамічным і навукова-тэхнічным супрацоўніцтве. Цяпер у стадыі падрыхтоўкі і ўзгаднення знаходзяцца праекты аналагічных пагадненняў з Румыніяй, Славакіяй і Саюзнай Рэспублікай Югаславіяй.

*Мэтанакіравана праводзіцца сумесная работа па развіццю кірмашова-выставачнай дзейнасці. Прадпрыемствы і арганізацыі АПК прынялі ўдзел у спецыялізаванай выстаўцы-кірмашы «Беларусь-97» у Мурманску, у 5-м Пекінскім міжнародным кірмашы, «Аграбалт» у Вільнюсе, «Брала» ў Брандэнбургу, «Мела» ў Мекленбургу, «Вясна-97» у Рызе, «Універсальнай выстаўцы-кірмашу» ў Маскве, выстаўцы-кірмашы Дзён Беларусі ў Ліпецку.*

*У час работы выстаўкі-кірмашу толькі ў Маскве былі падпісаны 72 перадкантрактныя пагадненні на агульную суму 30 млрд. рублёў;*

*Рэспубліка Беларусь стала пастаянным удзельнікам выстаўкі «Зялёны тыдзень» у Берліне і Гановерскага сельскагаспадарчага кірмашу. Міністэрства з'яўляецца асноўным арганізатарам Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі «Машыны, абсталяванне і тэхналогіі для вытворчасці і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі «Белагра-97», у якой самы непасрэдны ўдзел прынялі спецыялісты аддзела.*

Развіццё гэтай дзейнасці спрыяе павелічэнню вытворчасці канкурэнтаздольнай прадукцыі, пашырэнню вытворчых і камерцыйных сувязяў айчынных прадпрыемстваў з замежнымі партнёрамі і павышэнню міжнароднага іміджа рэспублікі. Вопыт правядзення гэтай работы паказвае, што настала неабходнасць на ўсіх узроўнях галіны арганізаваць падраздзяленні па выставачнай і кірмашовай дзейнасці, ствараць спецыяльны цэнтралізаваны фонд і апякунскі савет для арганізацыі і правядзення выставачна-кірмашовых мерапрыемстваў. З гэтай мэтай рабочая група ў саставе спецыялістаў міністэрства і падведамных прадпрыемстваў вывучала вопыт іншых рэспублік СНД і краін далёкага і блізкага замежжа.

# Шчодры хлеб калінкавіцкіх хлебаробаў

**Калінкавіцкі камбінат хлебапрадуктаў — адно са старэйшых у рэспубліцы прадпрыемстваў гэтай галіны. Заснаваны ў далёкім 1924-м, ён і па сённяшні дзень у страі. На камбінат «завязана» дзевяць з дваццаці аднаго раёна Гомельшчыны. Карацей кажучы, уся так званая палеская зона. Чым сёння жыве камбінат, што хвалюе яго калектыў? Пра гэта і іншае — наша размова з дырэктарам камбіната, кандыдатам эканамічных навук Іванам НОВАКАМ.**



Прадпрыемства, па словах Івана Мікалаевіча, перажывае перыяд так званага ўваходжання ў рынак. Стала відавочным, што спажыванне камбікармоў скарачаецца. Нават буйныя і сярэднія комплексы, якія раней працавалі стабільна, пачалі даваць збоі. Рост выдаткаў на іх абслугоўванне і ўтрыманне пагалоўя прывёў да таго, што займацца вытворчасцю мяса стала нявыгадна. У многіх калгасах і саўгасах Гомельшчыны ад свінафермаў, напрыклад, лічаць за лепшае пазбаўляцца. Вось-вось перастане існаваць авечкагадоўля. Слаба заяўляюць аб сабе рыбгасы, якіх нямала на Палессі. Хто купіць камбікармы, якіх камбінат у стане вырабіць колькі заўгодна і ў самым шырокім асартыменце?

І ўсё ж сітуацыя, лічыць І. Новак, небезнадзейная. Вопыт перадавых гаспадарак, у прыватнасці такіх, як калгасы «Савецкая Беларусь» Рэчыцкага і «Зара» Мазырскага раёнаў, сведчыць аб тым, што неабходны новыя падыходы ў выкарыстанні кармоў. Перш за ўсё трэба адысці ад заганнай практыкі выкарыстання фуражнага зерня ў звычайным выглядзе і толькі размолатым. Без дабаўлення ў гэтую масу бялкова-вітамінных і мінеральных дабавак карысці ад такога корму нямнога.

«Дарагія вашы камбікармы» — такое іншы раз можна пачуць ад некаторых гаспадарнікаў. Што ж, у нечым яны маюць рацыю. Так, камбікармы не таннейшыя за звычайнае ці размолатае зерне. Але ж яны маюць эфектыўнасць у некалькі разоў вышэйшую. Скажам, пры звычайных кармах на кілаграм прывагі затрачваецца 6—8 кармавых адзінак. Калі ж выкарыстаць наш камбікорм, дык кармавых адзінак спатрэбіцца напалову менш. Няўжо цяжка падлічыць, што, купіўшы даражэйшы камбікорм, атрымаеш таннейшую прадукцыю?

На камбінаце на ўласным прыкладзе вырашылі пераканаць скептыкаў у тым, што ўтрымліваць комплексы на айчынных камбікармах выгадна. У пачатку мінулага года прадпрыемства прыняло на свой баланс стаўшы раптам нікому не патрэбным міжгаспадарчы свінагадоўчы комплекс «Даманавічы». Ён гінуў у прамым сэнсе гэтага слова. Прывагі свіней не перавышалі 200 грамаў, падзеж вылічваўся нават не сотнямі, а тысячамі парсюкоў. У 1996 годзе, да прыкладу, ад хвароб і бяскорміцы тут загінула 3200 галоў.

І што ж? На свінакомплексе навялі элементарны парадак. А галоўнае — як след накармілі пагалоўе ўласнымі камбікармамі. Натуральна, што ўсе затраты пры гэтым скрупулёзна падлічваліся. Неўзабаве з'явіліся першыя абнадзейлівыя вынікі. За год колькасць пагалоўя павялічылася да 8 тысяч свіней, прывагі сталі не менш за паўкілаграма. А што самае істотнае — амаль у тры разы скараціўся сабекошт прадукцыі. «Ці ж гэта не аргумент на карысць рацыянальнага кармлення?» — пытаецца І. Новак.

Трэба сказаць, што найбольш прагрэсіўна думаючыя гаспадарнікі разумеюць неабходнасць такога падыходу. Напрыклад, на стабільную і амаль бясстратную работу выходзіць свінагадоўчы комплекс калгаса «Зара» Мазырскага раёна. Яго малады кіраўнік В. Дворнік змяніў сітуацыю да лепшага толькі шляхам выкарыстання збалансаваных камбікармоў.

І гэта далёка не адзіны такі прыклад. Сёлета дагаворы на супрацоўніцтва камбінат заключыў ужо з многімі комплексамі і птушкафабрыкамі. У прыватнасці, з калгасамі «1 Мая» Жыткавіцкага, «Садружнасць» і «Дружба» Калінкавіцкага, «Прамень Кастрычніка» Мазырскага раёнаў. На прадпрыемстве разумеюць: пойдуць справы ў вяскоўцаў — зажыве як след і камбінат. З'явяцца належныя рынкі збыту, узрасце грашовы абарот. Хаця з апошнім пакуль не ўсё ладзіцца. На сённяшні дзень калгасы і саўгасы завінаваціліся камбінату каля 7 мільярдаў рублёў, якія былі выдадзены мінулай вясной пад будучы ўраджай. Звыш 12 мільярдаў рублёў не вярнулі гаспадаркі Гомельшчыны за атрыманыя імі камбікармы і насенне кукурузы. Зразумела, што пры гэтакіх неплацяжах камбінату няпроста наладжваць вытворчасць. Але тым не менш тут не губляюцца, шукаюць рэзервы і выкарыстоўваюць іх на карысць справе.

Напрыклад, для вырабу камбікармоў неабходна бялковая сыравіна, якую раней закуплялі пераважна за межамі Беларусі. Цяпер валютных рэсурсаў у рэспубліцы не хапае. Выйсце — у расшырэнні пасеваў бабовых, гароху, пялюшкі, лубіну. З гэтай нагоды камбінат сёлета заключыў дагаворы з шэрагам палескіх гаспадарак, плануючы закупіць у іх 2,5 тысячы тон насення бабовых. Вяскоўцы, трэба спадзявацца, не падвядуць.

Тым часам камбінат ідзе далей. Тут зараз занятыя вырашэннем праблем вытворчасці прэміксаў, неабходных для атрымання паўнацэннага камбікорму. На жаль, сваіх рэсурсаў для ажыццяўлення задумы недастаткова. Цэх па вытворчасці прэміксаў прадпрыемства зможа ўзвесці, хутчэй за ўсё, толькі з дапамогай сур'ёзных і зацікаўленых інвестараў.

— Зразумеем мы з вяскоўцамі адзін аднаго — справа пойдзе, — упэўнены І. Новак. — Зможам насыціць рынак якаснай і, у прынцыпе, недарагой мясной прадукцыяй.

Што ж, няхай яно так і будзе.

**Ігар ВАСІЛЬЕЎ.**



# Камбікормавая галіна патрабуе ўвядзення новых тэхналогій

**У мінулым годзе камбікормавай галіной выпрацавана 1923 тысячы тон камбікармоў, з іх прадпрыемствамі Камітэта па хлебапрадуктах — 1454 тысячы тон (76 працэнтаў) і прадпрыемствамі РА «Белптушкапрам» — 469 тысяч тон (24 працэнты).**

**За мінулы год выпуск камбікармоў у параўнанні з 1996 годам узрос на 120 працэнтаў. Павялічылі выпрацоўку камбікармоў і пастаўку спажыўцам усе аб'яднанні хлебапрадуктаў, акрамя Магілёўскага (93 працэнты). З 33 камбікормавых прадпрыемстваў Камітэта па хлебапрадуктах 29 перавысілі мінулагодні ўзровень вытворчасці і 4 дапусцілі зніжэнне выпрацоўкі камбікармоў.**

Усімі без выключэння аб'яднаннямі хлебапрадуктаў, а галіной у цэлым у 1,4 раза, павялічаны за год выпуск камбікармоў для свінагадоўчых комплексаў, які склаў 765 тысяч тон (1996 г. — 555 тысяч тон) і ў тры разы — для комплексаў па вырошчванню і адкорму буйной рагатай жывёлы — 97 тысяч тон (1996 г. — 33 тысяч тон).

Пры росце вытворчасці камбікармоў для свінагадоўчых комплексаў па-ранейшаму значна менш за неабходную колькасць выпрацоўваецца камбікармоў для маладняку жывёлы.

З мэтай скарачэння затрат кармоў на вытворчасць жывёлагадоўчай прадукцыі ў 1997 г. прафінансавана 11 навукова-даследчых работ, выкананых БелНДІЖам і Гродзенскім сельгасінстытутам на суму 2 млрд. рублёў. Распрацавана рэцэптура айчынных БВМД, новых рэцэптаў прэміксаў, камбікармоў. Праведзены іх заатэхнічныя выпрабаванні і параўнанне з імпартнымі. Устаноўлена, што выпрацаваныя па распрацаваных айчынных рэцэптах БВМД і прэміксы па свайму прадуктыўнаму дзеянню не ўступаюць імпартным. Вывучана таксама эфектыўнасць выкарыстання ферментных прэпаратаў і праведзена іх параўнанне з імпартнымі. Фінансуюцца таксама даследаванні па метадах апрацоўкі зернебабовых і вызначэнню антыпажыўных рэчываў у іх, а таксама выкарыстання ферментаў беларускай вытворчасці.

Павелічэнне аб'ёмаў вытворчасці камбікармоў для свінагадоўчых комплексаў, укараненне навуковых распрацовак, якія далі магчымасць павысіць пажыўныя ўласцівасці камбікармоў, у пэўнай меры паспрыялі станоўчым вынікам. У параўнанні з мінулым годам сярэднясутачныя прывагі на вырошчванні і адкорме свіней узраслі з 343 да 410 грамаў, у тым ліку на адкорме свіней — з 381 да 489 грамаў. Расход кармоў на вытворчасць жывёлагадоўчай прадукцыі знізіўся з 6,6 да 5,7 кармавой адзінкі.

Пры гэтым ёсць такія гаспадаркі, як «Усход» Магілёўскага раёна, калгас імя Чапаева Астравецкага раёна, якія, захоўваючы тэхналогію кармлення, атрымліваюць сярэднясутачныя прывагі на вырошчванні і адкорме 550 і 566 грамаў адпаведна, у тым ліку на адкорме — 680 і 495 грамаў пры расходзе кармоў 4,3 і 5,6 кармавой адзінкі.

Разам з тым у такіх гаспадарках, як камбінат «Светлы» Чэрыкаўскага раёна, калгас імя Дзяржынскага Слуцкага раёна, сярэднясутачныя прывагі на вырошчванні і адкорме складаюць адпаведна 226 і 181 грам, у тым ліку на адкорме — 199 і 284 грамаў, пры расходзе кармоў 7,1 і 12,4 к. адз.

Таму Камітэту па хлебапрадуктах, абласным аб'яднанням хлебапрадуктаў сумесна з аблсельгасхарчамі неабходна забяспечыць пастаўку камбікармоў у патрэбным аб'ёме і асартыменце, не дапускаючы выпадкаў выкарыстання збожжа ў чыстым выглядзе на корм жывёле без абагачэння, таму што гэта прыводзіць да перарасходу кармоў і нізкай прадуктыўнасці жывёлы. А гэта працягваецца па-ранейшаму. З наяўных у гаспадарках 2 мільёнаў тон збожжа, прызначаных на корм жывёле, прадпрыемствам камбікормавай прамысловасці для перапрацоўкі яго ў камбікармы на давальніцкіх умовах з ураджаю 1997 г. пастаўлена ўсяго толькі 238 тысяч тон, у тым ліку гаспадаркамі Гродзенскай вобласці — 102 тысячы тон.

Таму абл- і райсельгасхарчам, Камітэту па хлебапрадуктах, абласным аб'яднанням хлебапрадуктаў, прадпрыемствам камбікормавай прамысловасці неабходна забяспечыць перапрацоўку ўсяго выкарыстоўваемага на корм жывёле збожжа ў камбікармы або на прадпрыемствах камбікормавой прамысловасці, або ў камбікормавых цэхах гаспадарак з выкарыстаннем БВМД.

Для вырашэння праблемы рацыянальнага выкарыстання збожжа Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь выдзелены 21 млрд. рублёў на закупку перасовачных імпартных установак для вытворчасці камбікармоў (у бліжэйшы час будзе праведзены тэндэр). Спадзяёмся, што з дапамогай БВМД, выпрацоўваемых на нашых прадпрыемствах, і выкарыстоўваючы гэтыя ўстаноўкі можна будзе палепшыць выкарыстанне збожжа, якое застаецца ў гаспадарках, і зэканоміць грашовыя сродкі на транспартныя расходы па дастаўцы збожжа і камбікармоў, якія выпрацоўваюцца на давальніцкіх умовах.

Для павышэння якасці камбікармоў і паляпшэння іх пажыўнасці цяпер ажыццяўляецца распрацоўка праграмы тэхнічнага пераўзбраення і даасначэння камбікормавых прадпрыемстваў, якія прадугледжваюць замену абсталявання на больш дасканалае, а таксама ўкараненне новых тэхналогій.

Наяўны недахват прэміксаў уласнай вытворчасці мяркуецца пакрыць за кошт будаўніцтва цэха прэміксаў у г. п. Негарэлае магутнасцю 21 тысяча тон прэміксаў у год. На гэтыя мэты на 1998 год выдзелена з дзяржбюджэту 50 млрд. рублёў.

# Цудадзейная дабаўка інгібітар: накіп і карозія перад ёй бяссільныя

**Для таго, каб зразумець сутнасць гэтай ідэі, укараненне якой прапануе гаспадарнікам гродзенскае прадпрыемства «Дырэкцыя новых тэхналогій і прадуктаў», дастаткова паўгода не звяртаць увагі на ўнутраныя сценкі чайніка, а потым... Вядома, убачыце слой накіпу. Дробязь? Як для каго. Калі ў кватэры ёсць лічыльнік газу, вы павінны ведаць, што накіп — гэта прамы вораг вашага кашалька.**

Так і ў цеплаабменных сістэмах прамысловых, сельскагаспадарчых і камунальных прадпрыемстваў — катлах, ахаладжальных цыклах, цяпліцах, каларыферах, цеплапунктах, млынах, градзірнях і г.д. Па разліках спецыялістаў, перарасход паліўнага газу за кошт росту накіпу складае 8,8—8,9 долара на тысячу кубаметраў. А ёсць жа яшчэ і такая бяда цеплаабменных сістэм, як карозія металу.

Аднак энергетычныя страты — гэта адно. Другое — эфектыўнасць абслугоўвання ацяпляльнай сістэмы, рэжым яе работы і ў сувязі з гэтым — тэрмін службы. Дарэчы, кошт катла малой магутнасці на сённяшні дзень складае 350—400 мільёнаў рублёў без будаўніча-мантажных работ і наладкі. Капрамонт сярэдняга катла каштуе 0,5—3,5 мільярда рублёў, замена пучкоў халадзільніка, сярэдняга кампрэсара — 75—100 тысяч долараў. А хімпрамыўка катла выліваецца ў 150—500 мільёнаў рублёў. Апошняя патрабуе не толькі шмат часу, але і выкарыстання такога агрэсіўнага рэчыва, як саляная кіслата. А гэта — шкодныя і небяспечныя ўмовы працы, клопаты аб нейтралізацыі раствору салянай кіслаты пасля прамыўкі сістэмы.

Што датычыцца інгібітара накіпу і карозіі, дык таксічнасць яму не ўласціва, не гарыць, небяспекі выбуху няма. Гродзенскі гарадскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі дазволіў апрацоўку ім вады ў катлах, дзе магчымы кантакт пары з харчовымі прадуктамі.

Гэтая дабаўка не проста здымае стары накіп. Пастаянны ўвод інгібітара гарантуе, што не з'явіцца новы слой. Акрамя таго, на паверхнях катлоў, трубаправодаў і абагравальных прыбораў утвараецца ахоўная процікаразійная плёнка. Тэхналогію лёгка асвоіць. Трэба толькі ведаць норму і перыядычнасць заліўкі прэпарата ў расшыральны бачок сістэмы.

Галоўнае — прымяненне інгібітара скарачае расход паліва, паляпшае рэжым работы ацяпляльнай сістэмы і значна павялічвае тэрмін яе службы.

Гэтай тэхналогіяй ужо зацікавіліся на шэрагу прадпрыемстваў Гродзеншчыны. Якія ж ацэнкі спецыялістаў?

— Выгадна, — гаворыць намеснік старшыні СГПК «Абухава» Гродзенскага раёна Мікалай Рабчук. — Раней мы здымалі накіп хімічнай прамыўкай, клопатаў было — хоць адбаўляй. Цяпер значна прасцей, катлы заўсёды чыстыя, няма страт пры цеплаперадачы.

Дарэчы, саляную кіслату гаспадарка прывозіла здалёку, ды яшчэ спецаўтамабілем. Цяпер гэта не патрэбна.

На Гродзенскім гармалкамбінаце дабаўку выкарысталі ў сістэме абаротнай вады для ахаладжэння кампрэсараў. Па словах галоўнага інжынера прадпрыемства Валянціна Худзякова, ёсць пазітыўныя зрухі — інгібітар перашкаджае ўтварэнню вадзянога каменю, а дзе ён і быў, дык знішчае яго. Раней планавы догляд за бойлерамі займаў некалькі тыдняў — разборка, прачыстка ўручную, запраўка кіслотнага бачка. Цяпер ад гэтага адмовіліся, накіп сышоў.

А на Гродзенскім шклозаводзе існавала такая праблема. Накіп паступова літаральна замыкаў трубкі, праз якія падаецца вада для ахаладжэння кампрэсараў. Толку ад хімпрамыўкі амаль не было, выраблялі чатырохметровы свердзел і прасвідроўвалі ім трубаправоды. Прымяніўшы дабаўку — інгібітар накіпу і карозіі, з водаабаротным цыклам навялі парадак.

Гэты прэпарат ужо выкарыстоўваюць і на іншых прадпрыемствах абласнога цэнтра — на гарбарным і лікёра-гарэлачным заводах, заводзе аўтаагрэгатаў, а таксама ў калгасе імя Варанецкага Бераставіцкага раёна, на Слонімскім заводзе сухога малака, Ашмянскім мясакамбінаце, Краснасельскім цэментна-шыферным заводзе. Магчыма, што ў бліжэйшы час гэта тэхналогія запрацуе і ў СГКП «Кастрычнік» Гродзенскага раёна.

«Дырэкцыя новых тэхналогій і прадуктаў» актыўна вывучае спецыфіку гэтай праблемы ў сельскагаспадарчай галіне, наладжваецца плённае супрацоўніцтва з калгасамі, перапрацоўчымі прадпрыемствамі, цяплічнымі гаспадаркамі, аб'ектамі сацыяльна-бытавой сферы — санаторыямі і прафілакторыямі. На парадку дня — стварэнне ўласных магутнасцяў па вытворчасці інгібітара з улікам попыту цеплаэнергетыкі, а таксама яго выкарыстання як эфектыўнага мікраўгнаення для лёну і апырсквання садоў, пасадак бульбы, кукурузы на сілас, замочвання насення агародніннных культур.

Акрамя пастаўкі інгібітара гарантуюцца неабходныя кансультацыі і сервіснае абслугоўванне тэхналогіі.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

**Адрас прадпрыемства «Дырэкцыя новых тэхналогій і прадуктаў»: 230009, г. Гродна, вул. Горкага, 72, Дом навукі і тэхнікі, пакой 412, факс (0152) 31-20-20, тэл./факс (0152) 31-56-66.**

**Фермерскі рух, атрымаўшы на самым пачатку выразны штуршок, паспеў за апошнія дзесяць і болей гадоў прайсці праз самыя розныя выпрабаванні. Часам гэтыя выпрабаванні, правакавала палітычная сітуацыя, ці дакладней — жаданне пэўных палітычных сіл выкарыстаць фермераў як людзей працавітых, энергічных, ініцыятыўных для дасягнення дакладна вызначаных палітычных мэтаў, як правіла, маючых ускоснае дачыненне да зямлі, да цяжкай працы чалавека на вёсцы.**

# ФЕРМЕРЫ: дзяржава падтрымае тых, хто паказвае прыклад гаспадарлівасці

Ды фермеры, зацікаўленыя ў дасягненні канкрэтнага выніку ў канкрэтнай галіне, канкрэтным накірунку, выбралі свой уласны шлях. І назва ў яго ёсць дакладная — праца на зямлі. Такіх фермераў, якія, нягледзячы на агульныя, усенародныя цяжкасці, відавочна, падтрымлівае і дзяржава. Хаця Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка зусім нядаўна зазначыў: «Давядзецца жорстка спытаць са старшынь, дырэктараў, фермераў за недастатковую эфектыўнасць вытворчасці. Гавораць: ды ну, рынак, што дзяржаве ўмешвацца. А я такога рынку не прызнаю, дзе няма дзяржавы. Гавару гэта вам не таму, што не ведаю заходніх формаў арганізацыі вытворчасці. Выдатна ведаю. Але адна справа ведаць, а зусім іншая — зыходзіць з рэальных умоў, вырашаць канкрэтную задачу».

Вось сапраўдныя фермеры, закасаўшы рукавы, ад цямна да цямна працуючы ў полі і на ўласным падворку, вырашаюць канкрэтныя задачы. Як, прыкладам, Эрэна Парфіяновіч, якая працуе на фермерскай гаспадарцы ў Мінскім раёне.

Жанчыне могуць пазайздросціць іншыя старшыні калгасаў альбо нават кіраўнікі эканамічна паўразбураных свінагадоўчых комплексаў.

Але ж, магчыма, якраз для Эрэны Парфіяновіч і да яе падобных павінны працаваць некаторыя пазіцыі Дзяржаўнай праграмы па свінагадоўлі. Закладзена ж туды спрыянне комплексам па многіх накірунках. Як, напрыклад, выдзяленне сродкаў на змяншэнне кошту суперканцэнтратаў і прэміксаў, вытворчасць якіх наладжана ў рэспубліцы. Выдзяляюцца ж комплексам і льготныя крэдыты. Хіба ж ад усяго гэтага адмовілася б Эрэна Парфіяновіч? Калі дзяржава, асэнсоўваючы, што, безумоўна, у фермера іншая форма ўласнасці, будзе аказваць падтрымку, спрыянне, то ў выніку ўсё ж такі сама выйграе. І прыватнік працуе на дзяржаву. І не толькі выплатай падаткаў, але і праз насычэнне рынку прадуктамі харчавання, праз развіццё якасці прадукцыі, павышэнне канкурэнтаздольнасці. Насычаны рынак пры разумнай арганізацыі стасункаў дзяржавы і прыватніка прывядзе ў сваю чаргу да зніжэння цэн.

Прыклад руплівасці, стараннасці і фермер з Жыткавіцкага раёна Міхаіл Шруб. Гаспадарка яго фактычна не абмяжоўваецца ўласнымі 50 гектарамі. У фермерах як уласнік, як гаспадар — і бацька Міхаіла Рыгор Якаўлевіч Шруб. Працуючы як агульная гаспадарчаразліковая сістэма, сын і бацька Шрубы маюць 80 гектараў зямлі. Ёсць тэхніка, іншыя неабходныя агрэгаты. А як жа інача? З тых 80 агульных гектараў 65 адведзены пад ворыва. Уласнага збожжаўборачнага камбайна не маюць. На чым спецыялізуюцца жыткавіцкія фермеры? Вырошчванне ранняй бульбы, капусты, сталовых буракоў, морквы, агуркоў, цыбулі, рэдзькі, а таксама збожжавых культур. Ураджайнасць апошніх склала летась (а пад збожжавыя было адведзена 15 гектараў) па 48 цэнтнераў з 1 гектара. Пазалетась фермерская гаспадарка Шрубаў вырасціла 600 тон агародніны. Між іншым, гэтая лічба складае адну трэць валавога збору агародніны ў цэлым па калгасах і дзяржгасах Жыткавіцкага раёна. Летась, у 1997 годзе, гэтая лічба ў гаспадарцы Шрубаў павялічылася да 1 тысячы тон. Што датычыць ураджайнасці па асобных культурах: капуста — 815 цэнтнераў з гектара, морква на асобных участках дала па 500 цэнтнераў з гектара. Між іншым, згаданыя культуры Шрубы вырошчваюць па галандскай тэхналогіі. Якімі сіламі дасягаюцца гэтыя поспехі (а агародніну ж трэба яшчэ прадаць)? У гаспадарцы Міхаіла Шруба — 9 сталых работнікаў, уключаючы родзічаў. Але ў сезонную пару, калі трэба займацца праполкай ці зборам ураджаю, у гаспадарцы працуюць студэнты, школьнікі, пенсіянеры. Аплата ажыццяўляецца не толькі грашыма, але і вырашчанай прадукцыяй (па жаданню работніка).

Безумоўна, прыведзены прыклад — толькі знешняя ілюстрацыя як да сутнасці гаспадаркі Шруба (ці Шрубаў), так і да сутнасці фермерскага руху ў краіне ў цэлым. Выдатна, калі за справу бярэцца спецыяліст. Але і яму, спецыялісту, нават зарыентаваўшаму гаспадарку на адну пэўную галіну, трэба быць ледзь не адначасова і аграномам, і заатэхнікам, селекцыянерам і ветурачом, абавязкова — механікам, эканамістам, бухгалтарам... Спіс прафесій, якія патрабуюць рознабаковай вышэйшай ці хаця б сярэдняй спецыяльнай адукацыі, можна доўжыць ледзь не бясконца. І ад неабходнасці валодання імі нікуды не дзенешся. Уласную адказнасць на чужыя плечы не перакладзеш.

Так што, узяўшыся за прыватнае гаспадаранне на зямлі, не чакай ад дзяржавы палёгкі ў тым сэнсе, што яна створыць для цябе розныя спрыяльныя альбо, інакш кажучы, парніковыя (ці цяплічныя) умовы. Работа фермера — і пыл глытаць, і гной раскідваць, а яшчэ па начах час бавіць у падліках з калькулятарам, лічыльнікам альбо камп'ютэрам — гэта ўжо ў каго на што грошай хопіць. Іншая справа, што пэўную палёгку дзяржава праз свае кантрольна-ўладныя інстытуты магла б аказаць у сэнсе скарачэння тых альбо іншых папяровых справаздач. Найбольшыя складанасці, якія могуць у аднолькавай ступені заблытаць не толькі радавога фермера, але і шматвопытнага эканаміста, бухгалтара са стажам. Чаму, прыкладам, фермер вымушаны плаціць безліч падаткаў? Чаму не звесці іх у адзіны артыкул? Тым болей, што часам узнікаюць увогуле незразумелыя параўнанні. Падатак на зямлю бывае меншым, чым падатак на ўтрыманне дарог.

Незразумеласці, неакрэсленасці ў падаткаабкладанні падштурхоўваюць і да такой думкі, пачутай, у прыватнасці, ад аднаго з фермераў Гродзенскай вобласці: «Я быў бы толькі рады, калі б улады ўзялі на сябе клопат па фінансавых, эканамічных разліках маёй гаспадаркі». Дзіўная, на першы погляд, думка. Але менавіта толькі на першы. Фермер жадае перш-наперш займацца вытворчасцю. І не заўсёды яму пад сілу астатнія клопаты, без вырашэння якіх нельга і марыць пра эфектыўнае развіццё прыватнай гаспадаркі. Датычацца яны не толькі фінансава-эканамічнай дзейнасці, але і гандлю вырашчанай, выробленай прадукцыяй. Такім чынам, патрэбны пэўныя структуры, якія б працавалі з фермерам, патрэбна максімальнае спрыянне фермеру з боку існуючых структур. І гэта будзе на карысць не толькі самому фермеру, але і дзяржаве. Відавочна, што больш цеснае супрацоўніцтва дапаможа адсеяць і непатрэбны баласт. Яго — тых, хто запусціў зямлю, не здолеўшы там нават ураджай сярэдняга ці слабенькага калгаса сабраць, хапае. І гэта тады, калі і без таго губляецца ўрадлівасць глебы. Ужо сёння, як адзначаюць навукоўцы, выразна адчувальны працэс змяншэння ўрадлівасці глебы. У шэрагу раёнаў краіны зменшылася ўтрыманне гумусу, фосфару, калію. У гаспадарках 71 раёна пачалося падкісленне глебы. Сёння зямельны фонд калгасаў і дзяржгасаў краіны налічвае 5664 тысячы гектараў. Сялянскім і фермерскім гаспадаркам належаць 52 тысячы гектараў, з іх 43,5 тысячы гектараў ворыва. І, вядома ж, не фермеры асабіста павінны ў пэўных негатыўных працэсах. Але і не праяўляць ашчаднасці, сур'ёзнасці ў выдзяленні зямлі сёння нельга. У дачыненні да перадачы сельгасугоддзяў фермерам — таксама. У многіх раёнах, трэба заўважыць, склалася нармальная практыка, калі ў безадказнага, безгаспадарчага чалавека, зямлю забіраюць, вяртаюць у дзяржаўнае ці калгаснае землекарыстанне, а фермерскую гаспадарку ліквідоўваюць. Тут дзяржаву, мясцовы выканкам ніхто не абвінаваціць у прадузятасці, уціску фермера. Які ты гаспадар — сведчаць табой жа апрацаваныя ці зусім некранутыя гектары.

Словам, фермерскі рух патрабуе ўзаемнай адказнасці, узаемнай увагі. І калі гаварыць пра агульныя перспектывы, то ў дачыненні да фермераў статыстыка як быццам стаіць на месцы. Калі і рэгіструюцца новыя гаспадаркі, то гэткая ж прыблізна іх колькасць ліквідуецца. Значыць, масавых змен у псіхалогіі ў дачыненні да прыватніцкага гаспадарання на зямлі не адбылося? Безумоўна, пячатку сваю, якая стрымлівае і магчымыя памкненні гаспадарання на зямлі, накладвае эканамічная сітуацыя. Сёння наўрад ці каторы нават калгасны спецыяліст пойдзе на 50 гектараў аднаасобнай працы. Бо ўжо не так проста стала спісаць амаль навюткі трактар, немагчыма, няхай сабе і прадаўшы іншамарку, набыць збожжаўборачны камбайн. Псіхалогія і эканоміка цесна перапляліся. Відавочна, што і ў бліжэйшае дзесяцігоддзе не будзе рэзкага прарыву фермерскіх гаспадарак. Відавочна, што фермеры-адзінкі не вырашаць цалкам праблему харчовага забеспячэння краіны, самі, паасобку, не зробяць айчынную сельскагаспадарчую прадукцыю экспартнай, прывабнай для замежнага пакупніка. І тым не меней, фермерства ёсць. Лепшыя яго гаспадаркі — прыклад і для калгасаў. Значыць, дзяржава не можа не заўважаць сур'ёзную эканамічную з'яву, не можа не развіваць яе. Магчыма, з часам менавіта фермерства здолее больш істотна, у поўнай меры паўплываць на змены ў сацыяльным, псіхалагічным поглядах нашых грамадзян, магчыма, фермерства прыкладам сваім пераканае людзей, што зямля, праца на ёй патрабуюць сапраўды гаспадарскага стаўлення.



**Настойліва і часам самаахвярна займаецца мінчанін Андрэй САМАДЗЕЛКІН вырошчваннем насення. У гэтым клопаце роўных Андрэю Апанасавічу няшмат.**

# Усё перамелецца. Але ці будзе мука?

**Сем разоў ён «ламаўся», падаючы з вышыні. Маральныя траўмы, якія часам наносіла жыццё, былі яшчэ цяжэй за фізічныя. І ўсё ж ён здзіўляе ў свае няпоўныя пяцьдзесят юнацкім аптымізмам: «Пакуль мне ўдавалася ўсё, што я задумваў, і спадзяюся, што і далей так будзе. Толькі б мяне зразумелі...»**

З людскім разуменнем заўсёды цяжка. Пачынаючы з зямнога жыцця Хрыста, чалавекалюбівыя ідэі выклікалі перш за ўсё падазрэнне, а нярэдка і поўнае непрыманне. Такія ўжо мы. І тут нічога не зробіш.

Як прызнае сам Пётр Аляксандравіч, падлеткам ён быў зусім не падарункам. Не піў, не курыў, але пры выпадку мог нашкодзіць. Калі паехаў на Поўнач, вёска ўздыхнула з палёгкай.

— У такіх, як я, два шляхі: або ўніз па слізкай сцежцы, або...

Сільвановічу пашанцавала — ён пайшоў угору. Не ў пераносным, а ў самым прамым сэнсе. Стаў брыгадзірам мантажнікаў-вышыннікаў. Праехаў увесь Саюз, працаваў у Манголіі. Удзельнічаў у многіх будоўлях камунізму. Камунізму, праўда, не пабудаваў, але вопыт набыў сур'ёзны. Не толькі ў будаўніцтве, але і ў кіраўніцтве калектывам. З фільмаў любімым быў «Прэмія».

Таму, калі пачалі арганізоўвацца першыя кааператывы, часу не губляў. Адразу ж арганізаваў на Поўначы сваю справу, якую спачатку сумяшчаў з работай на дзяржаву. Аднак сумяшчальніцтва не ўдалося. Першапраходцу кааператыўнага руху даводзілася шмат часу аддаваць новай справе. Дарэчы, справа была знаёмая: кааператары не пайшлі ў гандаль, а займаліся тым жа будаўніцтвам. Толькі, можа, больш эфектыўна, чым раней. Пабудавалі ў Мурманску, Апатытах і іншых паўночных гарадах дзесяткі аб'ектаў.

Аднак і родная зямля цягнула ўсё мацней. Вырашыў перабірацца назад

Дарэчы, няўдачы, як і падзенне з вышыні, не палохалі Пятра. Разгарнуў карту Беларусі, каб вырашыць, дзе пасяліцца. Палец сам па сабе спыніўся на назве роднай вёскі.

За сем апошніх гадоў, якія пражыў тут, удалося не так многа, як хацелася. А многае проста не ўдалося. Напрыклад, не ўдалося ажыццявіць ідэю стварэння гасцініцы для турыстаў. Пабудаваў невялікі, але трохпавярховы будынак, дзе была сталовая, кухня і некалькі ўтульных нумароў, арандаваў некалькі закінутых сажалак, запусціў у іх рыбу. Купіў халадзільнікі і іншае абсталяванне. Не хапіла крыху: самых турыстаў. У наш цяжкі час адны адпачываюць на Багамах, у крайнім выпадку на Кіпры, у другіх няма грошай, каб звесці канцы з канцамі.

Прагарэўшы з гасцініцамі, Сільвановіч вырашыў будаваць млын. Калісьці на маленькай, шырынёй у два-тры метры, рачулцы Волаўцы, што цячэ за ваколіцай роднай яго вёскі Асташкіна, было трынаццаць вадзяных млыноў. Цяпер усяго адзін, і той пераведзены на электрычнасць.

Калі электраэнергіі хапала і была яна па капеечных цэнах, праблем не ўзнікала. Цяпер, нягледзячы на ўсе размовы на самым высокім узроўні аб аднаўленні малых плацін, электраэнергію мы па-ранейшаму трацім, мякка кажучы, амаль не лічачы. Пётр Аляксандравіч вырашыў і тут стаць першапраходцам.

Сільвановіч пабудаваў плаціну, стары млын зноў ажыў.

— Цяпер навучыўся рабіць жорны па старой тэхналогіі практычна любога памеру. Калі ў Беларусі знойдуцца яшчэ жадаючыя аднаўляць вадзяныя млыны, магу дапамагчы і парадай, і справай...

Нягледзячы на тое, што ў акрузе няма недахвату ў электрычных млынах, млын Пятра Аляксандравіча, які ён утрымлівае разам з кампаньёнам, заўсёды ў рабоце. Нават цяпер, не ў сезон, з раніцы да позняга вечара тут стаяць падводы з мяшкамі збожжа. Прыязджаюць, мы самі былі сведкамі, нават за дваццаць—трыццаць кіламетраў. Прыцягвае перш за ўсё высокая якасць памолу. Сяляне добра ведаюць, што такое карміць свіней дрэнна змолатай мукой — адны расходы, ежа амаль не засвойваецца.

З другога боку, вадзяны млын няхай і ў невялікай колькасці, але эканоміць энергарэсурсы, якіх нам апошнім часам так не хапае.

Ёсць у Пятра Аляксандравіча яшчэ некалькі ідэй, пакуль нерэалізаваных. На яго старэнькай машыне, якую пасля кожнага прыпынку прыходзіцца штурхаць, каб завёўся рухавік, едзем яшчэ на адну малую рэчку. Дакладней нават ручай. Пачынаецца ён з дванаццаці крыніц. Тут калісьці стаяла плаціна.

— Была вусная дамоўленасць са старшынёй мясцовага калгаса аб тым, што я пабудую тут малую гідраэлектрастанцыю. Калі ўдарылі па руках, я не стаў чакаць афармлення ўсіх дакументаў, наняў людзей, якія правялі электралінію, высеклі кустоўе, рэстаўравалі дамбу...

Мы стаім на пагорку, дзе стаяў калісьці, па паданню, княжацкі замак. Ручай так і застаўся незапруджаным, мясцовасць зноў зарасла кустоўем, а электралінія забяспечвае энергіяй адзіны стары дом, дзе жыве адзінокая старая.

Едзем яшчэ на адну малую рэчку.

— І тут хачу пабудаваць малую гідрастанцыю. 50—70 кілават у маштабах дзяржавы, вядома, мізэр. Але вунь там, на пагорку, стаяць будынкі былога свінарніка, якія разбураюцца. Тут можна было б арганізаваць выдатную пілараму і пілаваць лес толькі за кошт сваёй, практычна бясплатнай электраэнергіі. Акрамя таго прыбавіўся б дзесятак-другі рабочых месцаў. Мне за вёску крыўдна. З шасцідзесятых гадоў у нас, напрыклад, не пабудавана ніводнага новага дома. Моладзь пакідае вёску...

Літаральна за дзесятак метраў ад млына — прасторная драўляная танцпляцоўка. Калісьці Пётр Аляксандравіч пабудаваў яе для мясцовай моладзі, за свае грошы купіў радыёапаратуру, музычныя інструменты. Пачалі дакараць: хіба можна так, чаму на танцы пускаюць усіх бясплатна? Адказваў, што ў дні яго маладосці так і было. Дакаралі. Перадаў танцпляцоўку ў сельсавет. Назаўтра там стаяў кантралёр.

Мы прайшліся па вёсцы, каб даведацца аб меркаваннях вяскоўцаў пра фермера без зямлі. Магчыма, у яго ёсць і ворагі. Не кожнаму па душы, што хтосьці жыве не так, як прынята, што неразумна траціць грошы. Але сустракаліся толькі добразычліўцы. Расказалі, як арганізоўваў свята Купалля, як частаваў на Дзень Перамогі ветэранаў, як дапамог адрамантаваць царкву.

Потым паехалі на самую высокую кропку ў наваколлі.

— Вось тут пастаўлю вятрак. Для справы, але, галоўнае, для прыгажосці. Кіламетраў за дваццаць будзе бачна...

Адны змагаюцца з млынамі. Другія іх будуюць. Калі першых мы неяк навучыліся крыху разумець, то на другіх яшчэ нярэдка пазіраем з апаскай. Чаму?

**Сяргей ПЯТРОЎ.**

*Матэрыялы спецвыпуску «Звязды», прысвечанага праблемам АПК краіны, падрыхтавалі Уладзімір Андрыевіч, Алесь Карлюкевіч, Барыс Пракопчык, Валер Каліноўскі, Люцыя Пілевіч.*

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПАБЫВАЕ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка 4 сакавіка прыбывае ў Гродна. Яго двухдзённая рабочая паездка пачнецца з уручэння групе рабочых і служачых вобласці дзяржаўных узнагарод. Затым прэзідэнт наведае вышэйшую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю, Свята-Ражство-Багародзіцкі жаночы праваслаўны манастыр і Лядовы палац спорту.

Чакаецца, што на наступны дзень Аляксандр Лукашэнка выступіць з дакладам на рэспубліканскай нарадзе па пытаннях работы аграпрамысловага комплексу.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ, БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 96
### Аб мерах па фінансаваму аздараўленню і крэдытнаму забеспячэнню прадпрыемстваў і арганізацый аграпрамысловага комплексу ў 1998 годзе

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

1.2. крэдытаванне банкамі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у 1998 годзе ажыццяўляецца па працэнтнай стаўцы ў памеры да паловы стаўкі рэфінансавання Нацыянальнага банка;

1.3. калгасы, саўгасы, іншыя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы і прадпрыемствы, якія абслугоўваюць сельскую гаспадарку, вызваляюцца ад выплаты пені, налічанай за несвоечасовае ўнясенне плацяжоў у бюджэт і ў рэспубліканскія пазабюджэтныя фонды па стану на 1 снежня 1997 г.;

1.4. прадпрыемствам і арганізацыям аграпрамысловага комплексу прадастаўляецца права праводзіць пры неабходнасці да 1 студзеня 1999 г. пагашэнне дэбіторскай запазычанасці па разліках з калгасамі, саўгасамі, іншымі сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі, якая ўтварылася на 1 снежня 1997 г., з аднясеннем адпаведных сум на страты гэтых прадпрыемстваў і арганізацый.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь сумесна:

2.1. з Нацыянальным банкам у двухмесячны тэрмін вызначыць крыніцы кампенсацыі страт камерцыйных банкаў, звязаных з крэдытаваннем прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу на ўмовах, прадугледжаных у падпункце 1.2 пункта 1 гэтага Указа;

2.2. з аблвыканкамамі ў месячны тэрмін вызначыць пералік сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, якім прадастаўляецца адтэрміноўка пагашэння запазычанасці па плацяжах у бюджэт і ў рэспубліканскія пазабюджэтныя фонды, прадугледжанай у падпункце 1.1 пункта 1 гэтага Указа, а таксама парадак яе пагашэння з улікам сезоннасці сельскагаспадарчай вытворчасці.

3. Нацыянальнаму банку ў месячны тэрмін ва ўстаноўленым парадку вырашыць пытанне аб прадаўжэнні сельскагаспадарчым прадпрыемствам тэрміну пагашэння банкаўскіх пазык, атрыманых у 1997 годзе на правядзенне веснавых палявых работ, а таксама банкаўскіх пазык, вяртанне якіх адтэрмінавана ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 11 лютага 1997 г. № 148 (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 5, арт. 178).

4. Нацыянальнаму банку ў двухмесячны тэрмін сумесна:

4.1. з Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь вырашыць ва ўстаноўленым парадку пытанне аб акумуліраванні сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі да 40 працэнтаў выручкі ад рэалізацыі прадукцыі на спецыяльных субрахунках у банках для наступнага накіравання гэтых сродкаў на пагашэнне запазычанасці па крэдытах і працэнтаў па іх;

4.2. з Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання, Беларускім акцыянерным камерцыйным аграпрамысловым банкам і іншымі банкамі распрацаваць парадак кароткатэрміновага крэдытавання сельскагаспадарчых прадпрыемстваў для правядзення ў 1998 годзе сезонных сельскагаспадарчых работ, стварэння неабходных запасаў матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў і вызначыць аб'ём крэдытных рэсурсаў для названых мэтаў.

5. Нацыянальнаму банку, Беларускаму акцыянернаму камерцыйнаму аграпрамысловаму банку, Адкрытаму акцыянернаму таварыству «Ашчадны банк «Беларусбанк», іншым банкам выдзеліць у 1998 годзе крэдыты:

перапрацоўчым і нарыхтоўчым прадпрыемствам і арганізацыям аграпрамысловага комплексу на закупку сельскагаспадарчай прадукцыі для дзяржаўных патрэб з выплатай працэнтаў у памеры да паловы стаўкі рэфінансавання Нацыянальнага банка. Пагашэнне крэдытаў правесці ў адпаведнасці з зацверджанымі ва ўстаноўленым парадку графікамі перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі і рэалізацыі прадуктаў яе перапрацоўкі;

прадпрыемствам, якія абслугоўваюць сельскую гаспадарку, для закупкі і перадачы сельскагаспадарчай тэхнікі ў доўгатэрміновую арэнду калгасам, саўгасам, іншым сельскагаспадарчым прадпрыемствам;

калгасам, саўгасам, іншым сельскагаспадарчым прадпрыемствам на фарміраванне высокапрадукцыйнага статка буйной рагатай жывёлы.

6. Гэты Указ увесці ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**
*3 сакавіка 1998 г., г.Мінск.*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 97
### Аб фінансавым аздараўленні і рэфарміраванні неплацежаздольных сельскагаспадарчых прадпрыемстваў

У мэтах павышэння эфектыўнасці дзейнасці неплацежаздольных калгасаў, саўгасаў і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў **пастанаўляю:**

1. Установіць, што неплацежаздольныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, якія пасля аказання ім дзяржаўнай падтрымкі не могуць рэнтабельна ажыццяўляць гаспадарчую дзейнасць і пагасіць даўгі, рэфарміруюцца з выкарыстаннем арганізацыйна-прававых формаў гаспадарання, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

2. Адтэрмінаваць да 31 снежня 2000 г. неплацежаздольным сельскагаспадарчым прадпрыемствам пагашэнне запазычанасці па крэдытах банкаў, якая лічылася на 1 лютага 1998 г., без спагнання павышаных працэнтных ставак за карыстанне гэтымі крэдытамі. Названую запазычанасць пагашаць з 1 студзеня 2001 г. па 31 снежня 2002 г. штомесяц роўнымі долямі.

3. Вызваліць неплацежаздольныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы ў парадку, вызначаным Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, ад выплаты пені за несвоечасовае ўнясенне плацяжоў у бюджэт, налічанай ім па стану на 1 лютага 1998 г.

4. Устанавіць, што запазычанасць неплацежаздольных сельскагаспадарчых прадпрыемстваў па плацяжах у бюджэт і ў дзяржаўныя пазабюджэтныя фонды, якая ўтварылася на 1 лютага 1998 г., акрамя запазычанасці па адлічэннях у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны, выплачваецца з 1 студзеня 2001 г. па 31 снежня 2002 г. штомесяц роўнымі долямі без прымянення да гэтых прадпрыемстваў штрафных санкцый.

5. Вызваліць да 31 снежня 2001 г. неплацежаздольныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы ад унясення плацяжоў за зямлю і выплаты падатку на нерухомасць.

6. Прадаставіць права прадпрыемствам усіх формаў уласнасці ва ўстаноўленым парадку перадаваць неплацежаздольным сельскагаспадарчым прадпрыемствам у арэнду невыкарыстоўваемыя будынкі, збудаванні, машыны і абсталяванне з наступным выкупам перададзенай маёмасці і адтэрміноўкай арэнднай платы да 3 гадоў.

7. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у 2-месячны тэрмін вызначыць пералік неплацежаздольных сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, што падлягаюць фінансаваму аздараўленню ў 1998—1999 гадах.

8. Аблвыканкамам і райвыканкамам:

распрацаваць праграму рэструктурызацыі і фінансавага аздараўлення кожнага сельскагаспадарчага прадпрыемства, прызнанага ва ўстаноўленым парадку неплацежаздольным;

правесці атэстацыю кіраўнікоў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, прызнаных ва ўстаноўленым парадку неплацежаздольнымі, і пры неабходнасці прыняць меры па ўмацаванню гэтых прадпрыемстваў кадрамі;

у выпадку ліквідацыі неплацежаздольных сельскагаспадарчых прадпрыемстваў распрацаваць праекты выкарыстання іх зямель, што прадугледжваюць кампактнае размяшчэнне землекарыстанняў новых суб'ектаў гаспадарання для эфектыўнага вядзення таварнай сельскагаспадарчай вытворчасці, рацыянальнага выкарыстання і аховы зямель.

9. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**
*3 сакавіка 1998 г., г.Мінск.*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 98
### Аб дадатковых мерах па развіццю жыллёвага будаўніцтва на сяле

У мэтах далейшага развіцця жыллёвага будаўніцтва на сяле **пастанаўляю:**

1. Устанавіць, што грамадзянам Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць і працуюць у сельскай мясцовасці, знаходзяцца на ўліку і маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, прадастаўляюцца аднаразовыя бязвыплатныя субсідыі на будаўніцтва (рэканструкцыю) ці куплю жылога дома (кватэры) у сельскай мясцовасці ў памеры не менш за 50 працэнтаў кошту жылога памяшкання тыпавых спажывецкіх якасцяў* і пры неабходнасці льготныя крэдыты ў памеры астатняй часткі кошту будаўніцтва (рэканструкцыі) ці жылога дома (кватэры), што набываецца.

Пагадзіцца з прапановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб накіраванні ў перыяд з 1 студзеня 1998 г. да 1 студзеня 2001 года на прадастаўленне названых субсідый не менш за 30 працэнтаў сродкаў бюджэту Рэспублікі Беларусь, прадугледжаных для выдачы субсідый на жыллёвае будаўніцтва.

2. Унесці ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 2 верасня 1996 г. № 346 «Аб некаторых мерах па развіццю жыллёвага будаўніцтва на сяле» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 25, арт.644) наступныя змяненні:

2.1. падпункт 4.1 пункта 4 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«4.1. заключыць пагадненні аб адкрыцці крэдытных ліній з выплатай 2 працэнтаў гадавых за карыстанне крэдытамі:

4.1.1. з Адкрытым акцыянерным таварыствам «Ашчадны банк «Беларусбанк»:

на 1996-1997 гады — на суму да 350 млрд. рублёў тэрмінам да 40 гадоў для крэдытавання будаўніцтва дамоў, пачатага да 1 жніўня 1996 г. грамадзянамі, якія пастаянна пражываюць у сельскай мясцовасці;

на 1998 - 2000 гады — на суму да 5 трлн. рублёў (у тым ліку на 1998 год — не менш за 500 млрд. рублёў) тэрмінам да 40 гадоў для крэдытавання будаўніцтва жылых дамоў (кватэр), пачатага ў перыяд пасля 1 жніўня 1996 г. да 1 студзеня 2000 г. названымі грамадзянамі, якія знаходзяцца на ўліку і маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў;

4.1.2. з Беларускім акцыянерным камерцыйным аграпрамысловым банкам:

на 1996-1997 гады — на суму да 250 млрд. рублёў тэрмінам да 10 гадоў для крэдытавання калгасаў, саўгасаў і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў з мэтай завяршэння імі будаўніцтва жылых дамоў (кватэр), пачатага да 1 жніўня 1996 г.;

на 1998 — 2000 гады — на суму да 10 трлн. рублёў (у тым ліку на 1998 год — не менш за 2 трлн. рублёў) тэрмінам да 10 гадоў для крэдытавання будаўніцтва калгасамі, саўгасамі і іншымі сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі жылых дамоў (кватэр), пачатага пасля 1 жніўня 1996 г.»;

2.2. падпункты 6.1 і 6.2 пункта 6 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«6.1. прадастаўляць грамадзянам Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць у сельскай мясцовасці і пачалі будаўніцтва дамоў да 1 жніўня 1996 г., крэдыты пад заклад жылых дамоў, што будуюцца, у аб'ёме адкрытай Нацыянальным банкам на 1996-1997 гады крэдытнай лініі ў памеры да 90 працэнтаў кошту гэтага будаўніцтва тэрмінам да 40 гадоў з пагашэннем іх пачынаючы з 1 студзеня 1998 г. і выплатай 5 працэнтаў гадавых за карыстанне крэдытамі.

Названыя крэдыты выдаваць грамадзянам пры ўмове, калі сярэднямесячны сукупны даход іх сем'яў з улікам маёмаснага становішча не перавышае гранічнага ўзроўню, устаноўленага Міністэрствам працы сумесна з Міністэрствам архітэктуры і будаўніцтва, Міністэрствам фінансаў і Міністэрствам статыстыкі і аналізу;

6.2. прадастаўляць грамадзянам Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць у сельскай мясцовасці і ажыццяўляюць будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў (кватэр), крэдыты пад заклад жылых дамоў (кватэр), якія будуюцца, у межах адкрытай Нацыянальным банкам на 1998 — 2000 гады крэдытнай лініі ў памеры да 95 працэнтаў кошту гэтага будаўніцтва (з разліку 30 кв.метраў агульнай плошчы на аднаго члена сям'і) з улікам кошту будаўніцтва гаспадарчых пабудоў (у памеры да 20 працэнтаў агульнага кошту будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў або кватэр) тэрмінам да 40 гадоў з пачаткам пагашэння іх праз 3 гады пасля атрымання і выплатай 5 працэнтаў гадавых за карыстанне крэдытамі»;

2.3. падпункт 7.1 пункта 7 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«7.1. прадастаўляць калгасам, саўгасам і іншым сельскагаспадарчым прадпрыемствам, якія пачалі будаўніцтва жылых дамоў (кватэр), крэдыты (у тым ліку і пад заклад маёмасці названых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў) у межах адкрытых Нацыянальным банкам крэдытных ліній у памеры да 75 працэнтаў кошту гэтага будаўніцтва тэрмінам да 10 гадоў з пачаткам пагашэння іх праз 3 гады пасля атрымання і выплатай 5 працэнтаў гадавых за карыстанне крэдытамі».

3. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у двухмесячны тэрмін:

распрацаваць і зацвердзіць парадак выкарыстання жылых дамоў (кватэр), пабудаваных у сельскай мясцовасці за кошт ільготных крэдытаў, прадастаўленых Адкрытым акцыянерным таварыствам «Ашчадны банк «Беларусбанк» і Беларускім акцыянерным камерцыйным аграпрамысловым банкам у адпаведнасці з падпунктамі 2.2 і 2.3 гэтага Указа, які забяспечвае замацаванне работнікаў у сферы сельскагаспадарчай вытворчасці;

прывесці рашэнні Урада ў адпаведнасць з гэтым Указам;

забяспечыць адмену міністэрствамі, іншымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання нарматыўных актаў, якія супярэчаць гэтаму Указу. 4. Аблвыканкамам ва ўстаноўленым парадку забяспечыць накіраванне ў перыяд з 1 студзеня 1998 г. і да 1 студзеня 2001 года на прадастаўленне грамадзянам, названым у частцы першай пункта 1 гэтага Указа, субсідый для будаўніцтва (рэканструкцыі) або куплі жылых дамоў (кватэр) у сельскай мясцовасці не менш за 30 працэнтаў сродкаў мясцовых бюджэтаў, прадугледжаных для выдачы субсідый на жыллёвае будаўніцтва.

5. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**
*3 сакавіка 1998 г., г. Мінск.*

** Тыпавым спажывецкім якасцям адпавядае жылое памяшканне, пабудаванае па тыпавых праектных рашэннях у раёнах масавай забудовы.*

## РАСПАРАДЖЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 34РП
### Аб адзіных падыходах пры вызначэнні мераў сацыяльнай абароны грамадзян Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі

У мэтах выканання рашэння Вышэйшага Савета Саюза Беларусі і Расіі ад 22 студзеня 1998 г. № 6 «Аб адзіных падыходах пры ўстанаўленні мінімальных памераў аплаты працы, пенсіённага забеспячэння, упарадкаванні выплат дапамог і льгот для грамадзян Беларусі і Расіі», удасканалення сістэмы дзяржаўных мінімальных сацыяльных стандартаў, што забяспечваюць асноўныя сацыяльна-працоўныя гарантыі грамадзянам Рэспублікі Беларусь:

1. Устанавіць, што ў састаў сістэмы дзяржаўных мінімальных сацыяльных стандартаў у Рэспубліцы Беларусь уключаюцца дзяржаўныя мінімальныя сацыяльныя стандарты ў галіне аплаты працы, пенсіённага забеспячэння, адукацыі, аховы здароўя, культуры, жыллёва-камунальнага і сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

да 1 студзеня 1999 г. ва ўстаноўленым парадку ўнесці ў Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўных мінімальных сацыяльных стандартах» з улікам неабходнасці уніфікацыі заканадаўстваў Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі;

у трохмесячны тэрмін пасля прыняцця Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пражытачным мінімуме ў Рэспубліцы Беларусь» зацвердзіць методыку разліку бюджэтаў пражытачнага мінімуму для асноўных сацыяльна-дэмаграфічных груп насельніцтва;

кожны год пры распрацоўцы прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь устанаўліваць суадносіны паміж мінімальным памерам аплаты працы, мінімальным памерам пенсіі па ўзросту і велічынёй пражытачнага мінімуму зыходзячы з эканамічнай магчымасці. Пры гэтым трэба мець на ўвазе паэтапнае набліжэнне мінімальных памераў аплаты працы і пенсіі па ўзросту да велічыні пражытачнага мінімуму па адпаведных сацыяльна-дэмаграфічных групах насельніцтва.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**
*2 сакавіка 1998 г., г.Мінск.*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 95
### Аб мерах па развіццю сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак і ўзмацненню іх дзяржаўнай падтрымкі

У мэтах далейшага развіцця і павышэння эфектыўнасці работы сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак **пастанаўляю:**

1. Дазволіць раённым выканаўчым і распарадчым органам прадастаўляць грамадзянам Рэспублікі Беларусь па іх жаданню для вядзення сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак у пажыццёвае спадчыннае валоданне зямельныя ўчасткі плошчай да 100 гектараў без уліку памеру зямельнага ўчастка, які прадастаўлены для будаўніцтва, абслугоўвання жылога дома і вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі.

Пры арганізацыі сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак выдзяляюцца зямельныя ўчасткі, якія прыгодныя для вядзення сельскай гаспадаркі і не патрабуюць значных затрат на першапачатковае добраўпарадкаванне.

2. Дазволіць прадпрыемствам дзяржаўнай формы ўласнасці і рэкамендаваць калгасам, а таксама іншым суб'ектам гаспадарання перадаваць сялянскім (фермерскім) гаспадаркам невыкарыстоўваемыя будынкі, збудаванні, машыны і абсталяванне ў арэнду з наступным іх выкупам і адтэрміноўкай да 3 гадоў пачатку ўнясення арэнднай платы.

3. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнаму банку кожны год пры распрацоўцы праекта бюджэту і вызначэнні грашова-крэдытнай палітыкі прадугледжваць выдзяленне сродкаў для выдачы сялянскім (фермерскім) гаспадаркам крэдытаў з выплатай працэнтаў за карыстанне імі ў памеры не больш як паловы стаўкі рэфінансавання Нацыянальнага банка, пачынаючы з другога года пасля атрымання крэдыту.

Пры прадастаўленні крэдытаў на стварэнне і развіццё сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак у якасці гарантыі іх вяртання выкарыстоўваць заклад маёмасці сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, уключаючы ўраджай сельскагаспадарчых культур.

4. Міністэрству сельскай гаспадаркі і харчавання, Міністэрству эканомікі, Міністэрству фінансаў з удзелам Беларускага саюза фермераў выдзяляць за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, прадугледжаных на фінансаванне сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, пазыкі на зваротнай аснове для ўмацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы гэтых гаспадарак.

5. Гэты Указ уступае ў сілу з дня падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**
*3 сакавіка 1998 г., г.Мінск.*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 94
### Аб унясенні змянення і дапаўнення ў Часовы парадак нармалізацыі разлікаў паміж суб'ектамі гаспадарання ў Рэспубліцы Беларусь

1. Унесці ў Часовы парадак нармалізацыі разлікаў паміж суб'ектамі гаспадарання ў Рэспубліцы Беларусь, зацверджаны Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 кастрычніка 1994 г. № 135 «Аб зацвярджэнні Часовага парадку нармалізацыі разлікаў паміж суб'ектамі гаспадарання ў Рэспубліцы Беларусь» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 22, арт.512; 1996 г., № 5, арт.113; № 29, арт.770; Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 35, арт.930), наступныя змяненне і дапаўненне:

1.1. у частцы другой пункта 3 словы: «31 снежня 1997 г.» замяніць словамі: «31 снежня 1998 г.»;

1.2. пункт 4 пасля часткі другой дапоўніць часткай наступнага зместу:

«Разлікі суб'ектаў гаспадарання з магазінамі-складамі за тавары, што набываюцца ў іх, могуць праводзіцца наяўнымі грашовымі сродкамі ў памеры не больш за 50 мінімальных заработных плат за адну здзелку ў парадку, устаноўленым Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь».

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь сумесна з Нацыянальным банкам у 2-месячны тэрмін:

забяспечыць прывядзенне актаў заканадаўства ў адпаведнасць з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 кастрычніка 1994 г. № 135 «Аб зацвярджэнні Часовага парадку нармалізацыі разлікаў паміж суб'ектамі гаспадарання ў Рэспубліцы Беларусь»;

вызначыць парадак разлікаў суб'ектаў гаспадарання з магазінамі-складамі ў адпаведнасці з падпунктам 1.2 пункта 1 гэтага Указа.

3. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання, за выключэннем падпункта 1.1 пункта 1, які ўступае ў сілу з 1 студзеня 1998 г.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**
*2 сакавіка 1998 г., г.Мінск.*

## СЁННЯ

**МЕСЯЦ**

**Першая квадра 5 сакавіка**

***З 9.06 — 7-ыя месяцавыя суткі.***

***З 9.16 Месяц — у сузор'і Блізнятаў.***

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам ападкі, у заходніх раёнах месцамі туман. Тэмпература паветра ў Віцебску — 0—2, Магілёве — 1—3, Мінску, Гомелі — 2—4, Гродне — 5—7, Брэсце — 6—8 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак часам ападкі, тэмпература 5-га ўначы — 1—6, удзень — 3—8 градусаў вышэй нуля, 6-га на працягу сутак — мінус 3 — плюс 2.



## ЧАМУ НЕ ПРАЦАВАЛА МЕТРО?

Учора ў рэдакцыю тэлефанавалі людзі і цікавіліся, чаму 2 сакавіка увечары, была закрыта станцыя метро «Кастрычніцкая»?

У 19.27 на гэтай станцыі метро адбылося кароткае замыканне ў кабельнай адмычцы сілавой цягавай падстанцыі і задымленне перона. Каб пазбегнуць панікі сярод пасажыраў і іх магчымага атручэння дымам, было прынята рашэнне ў перыяд з 19.40 да 20.10 рух электрапаяздоў па Маскоўскай лініі ажыццяўляць без прыпынку на станцыі метро «Кастрычніцкая». У 20.12 работа метро была адноўлена ў звычайным рэжыме. Графік руху электрапаяздоў не мяняўся. На шчасце, ніхто не пацярпеў.

